ПРОЛЕТАРЫ ЎСІХ КРАІН, ЗЛУЧАЙЦЕСЯ!



# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН
КУЛЬТПРОПУ
ЦК КП/б/Б

КАСТРЫЧНІК

№ 6–7

ДВБ · 1932
ПАРТМАССЭКТАР



*Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!*

# ЗА ЛЕНІНСКУЮ ВУЧОБУ

ОРГАН КУЛЬТПРОПУ ЦК КП(б)Б

**№ 6—7**

КАСТРЫЧНІК 1932

ВЫХОДЗІЦЬ 2 РАЗЫ Ў МЕСЯЦ

ДЗЯРЖАЎНАЕ ВЫДАВЕЦТВА БЕЛАРУСІ
ПАРТМАССЭКТАР
МЕНСК 1932





Літправка *К. Шумянькова*
Тэхрэдактар *І. Мілешка*
Карэктар *С. Дамаронак*
Здана ў набор 21/X—32 г.
Падпісана да друку 22-XI—32 г.
Набрана ФЗВ
Адк. кар. крук. *Варатынская*

# ЗЬМЕСТ

*Стар.*

Вынікі верасьнёўскага пленуму ЦК УсеКП(б) і задачы беларускай партыйнай арганізацыі . . . . . . . . . 3
Аб некаторых пытаньнях кіраўніцтва партыйнай асьветы . . . 20
Заданьні і мэтодычныя дапаможнікі.
Плян правядзеньня заняткаў па пытаньнях кастрычніцкага пленуму ЦК УсеКП(б) у масавай сетцы партыйнай асьветы . . . 24
Тэма I. Аб разгортваньні савецкага гандлю і вытварэньні прадметаў шырспажыву . . . . . . . . . —
Тэма II. Аб чорнай металюргіі . . . . . . . . 27
Індустрыялізацыя краіны—асноўны вагар соцыялістычнага будаўніцтва 30
Тэма: „Соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі і задачы організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў" . . . 36
Програма. Барацьба за шэсьць гістарычных умоў т. Сталіна—ключ да пераможнага вырашэньня ўсясьветна-гістарычных задач соцыялістычнага будаўніцтва . . . . . . . . . 45
Тэма: „Пабудова бясклясавага грамадзтва ў другой пяцігодцы" . . 52
Тэма: „Нацыянальная палітыка комуністычнай партыі" . . . 56
Тэматыка 6-месячных школ ленінізму і плян правядзеньня першай тэмы . 60
Тэма I. Значэньне рэвалюцыйнай тэорыі ў клясавай барацьбе пролетарыяту 61
Заданьне № 4 для аднагадовай вячэрняй СПШ . . . . 64
Тэма: „Партыя ў гады рэакцыі і новага ўздыму" . . . . —
Вопыт месц
1. Партасьвета на буйных прадпрыемствах Бабруйску . . . 67
2. Партвучоба ў Петрыкаўскім раёне . . . . . 68

---

Заказ № 2632. 5.000. (4½ арк.). Уп. Галоўлітбелу №а 1133.

Друкарня імя Сталіна.

# ВЫНІКІ ВЕРАСЬНЁЎСКАГА ПЛЕНУМУ ЦК УсеКП(б) І ЗАДАЧЫ БЕЛАРУСКАЙ ПАРТЫЙНАЙ ОРГАНІЗАЦЫІ

*(З дакладу сакратара ЦК КП(б)Б т. Гікало на пленуме Менскага гаркому сумесна з партактывам)*

Таварышы, мінулы верасьнёўскі пленум ЦК УсеКП(б) зьяўляецца адным з пленумаў, на якім быў пастаўлен у парадку практычнага вырашэньня рад пытаньняў, выцякаючых з пасьпяховага ходу барацьбы за ажыцьцяўленьне задач 1-га пяцігодзьдзя і маючых непасрэдныя адносіны да проблем другой пяцігодкі.

Пытаньне аб савецкім гандлі, колгасным гандлі, пытаньні шырспажыву, якія стаялі на верасьнёўскім пленуме ЦК партыі, цясьнейшым чынам зьвязаны з пытаньнямі аб паляпшэньні снабжэньня рабочай клясы, з пытаньнямі аб далейшым паляпшэньні матэрыяльна-бытавога становішча ўсіх працоўных Савецкага саюзу.

У пастановах XVII партконфэрэнцыі па гэтым пытаньні гаворыцца наступнае: „На аснове ліквідацыі паразытычных элемэнтаў і агульнага росту народнай гаспадаркі, цалкам ідучага ў распараджэньне працоўных, павінен быць дасягнут значна больш шпаркі ўздым дабрабыту рабочых і сялянскіх мас. Конфэрэнцыя лічыць, што забесьпячэньне насельніцтва асноўнымі спажыўтаварамі і ў тым ліку прадметамі харчаваньня, павінна да канца 2-й пяцігодкі павялічыцца ня менш, чым у 2—3 разы супроць канца першай пяцігодкі".

Што датычыць пытаньняў чорнай мэталюргіі, якія разьбіраліся на пленуме ЦК, дык тут кожнаму павінна быць ясна, што задача разгортваньня чорнай мэталюргіі цалкам і поўнасьцю зьвязана з выкананьнем асноўных гаспадарчых задач, пастаўленых партыяй у другой пяцігодцы.

Як вядома, XVII партконфэрэнцыя высунула ў якасьці асноўнай і рашаючай гаспадарчай задачы другой пяцігодкі: „завяршэньне рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і стварэньне навейшай тэхнічнай базы для ўсіх галін народнай гаспадаркі".

І, зразумела, таварышы, што без разьвіцьця мэталюргіі, без чыгуну, бяз сталі рэконструяваць усю народную гаспадарку так, як гэта паставіла сабе задачай партыя ў другой пяцігодцы, немагчыма.

Уся работа пленуму і яго пастановы зьяўляюцца ўзорам таго,

як трэба працаваць і кіраваць па-новаму, працаваць і кіраваць конкрэтна і опэратыўна на аснове веданьня справы і людзей.

Не выпадкова таму на пленуме былі заслуханы ня проста даклады, а справаздачныя даклады адпаведных наркоматаў.

## Аб савецкім і колгасным гандлі

Пастановы пленума па пытаньнях гандлю і шырспажыву, выцякаючыя з тых новых магчымасьцяй, якія створаны нашымі грандыёзнымі посьпехамі ў галіне індустрыялізацыі і колектывізацыі, неабходна разглядаць у сьвятле раду важнейшых дырэктыў, даных Цэнтральным комітэтам у 1932 г. па пытаньнях збожжазагатовак, жывёлазагатовак, павышэньня ўраджайнасьці, умацаваньня рэволюцыйнай законнасьці і т. д. Усе гэтыя пастановы ўзаемна зьвязаны паміж сабой і зьяўляюцца конкрэтным выяўленьнем генэральнай лініі нашай партыі, лініі разьлічанай на пабудову соцыялізму ў нашай краіне. Галоўнае ў пытаньнях разгортваньня савецкага і колгаснага гандлю заключаецца ў тым, каб тую таварную астачу, якая павялічваецца на сёньня ў колгасьніка і аднаасобніка (якая астаецца ў яго пры зьмяншэньні пляну збожжазагатовак, жывёлазагатовак і т. д.),—накіраваць рабочай клясе, працоўнаму гораду па больш нізкай цане, палепшыць якасьць, палепшыць організацыю гэтай справы. Галоўнае заключаецца ў тым, каб мы маглі гэтаму патоку сельскагаспадарчай продукцыі, якая ўсё ў большай ступені вызваляецца ў вёсцы, дзякуючы разгортваньню савецкага, колгаснага гандлю і зьніжэньню цэнтралізаванага пляну загатовак, проціпаставіць адпаведную масу тавараў шырспажыву. І таму зусім зразумела зьяўляецца лінія парыі і яе Цэнральнага комітэту, якая выражаецца у тым, каб узмацніць разгортваньне вырабу прадметаў шырспажыву, каб павялічыць рыначны фонд тавараў шырспажыву, каб рашуча абмежаваць ведамственнага спажыўца на карысьць рынку шырспажыву, на карысьць разгортваньня тавараабароту.

Мы ведаем, што і да разгортваньня савецкага, колгаснага гандлю выраб тавараў шырспажыву шпаркімі тэмпамі ішоў угару. Даныя гавораць аб тым, што ў параўнаньні з першым годам пяцігодкі, ці 1928 г. выраб тавараў шырспажыву ўзрос у 1932 г. на 71 проц. Гэта ў цэлым па Савецкім саюзе. Калі-ж мы возьмем, скажам, па Беларусі рост продукцыі шырспажыву, дык гэты рост складзе яшчэ большы процант. Чаму-ж рынак, масавы спажывец, селянін-колгасьнік у першую чаргу не адчуваў у выстарчальнай меры гэтага росту? Тлумачыцца гэта ў пэўнай меры тым, што значная частка тавараў ішла па лініі ведамственнага спажыўца, а не на шырокі рынак. Зразумела, што пры гэтых умовах у колгасьніка не магла асабліва расьці зацікаўленасьць у вывазе сваёй продукцыі на рынак.

Калі партыя вынесла пастановы па пытаньні аб разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю, дык гэта пастанова пар-

ты ня ўсімі аднолькава разумелася і тлумачылася. Кулацкія, нэпманскія, спэкулянцкія элемэнты тлумачылі, напрыклад, гэта разгортваньне савецкага і колгаснага гандлю як „маніфэст“ з боку комуністычнай партыі: „гандлюй, моў, хто можа, чым можа, і як можа“. І гэтай справе, зразумела, спрыялі праваопортуністычныя элемэнты, якія разглядаюць савецкі, колгасны гандаль як стыхійнае разьвязваньне рынку, як зварот назад да росту капіталістычных элемэнтаў, як зварот да таго, каб дапусьціць капіталістычныя элемэнты, перакупшчыкаў, спэкулянтаў гандляваць і скарыстаць колгасны, савецкі рынак у сваю карысьць.

З другога боку, мы ведаем, што ў наяўнасьці да сёнешняга дня настроі недаацэнкі колгаснага, савецкага гандлю. Іменна „лявацкай“ недаацэнкі, якая лічыць, што разгортваньне савецкага, колгаснага гандлю—гэта мера, якая ў даных умовах, калі мы ідзём да соцыялізму простым шляхам, калі мы падышлі шчыльна да вырашэньня задач, зьвязаных з выкананьнем другой пяцігодкі, нічым не апраўдваецца. „Навошта гэта, моў, патрэбен гандаль, нават колгасны, савецкі. Ці ня лепш праводзіць разьмеркаваньне продуктаў, устанавіць просты таваразбмен і т. д.“.

Пастановы верасьнеўскага пленуму з усёй сілай б'юць па тых рэнэгацкіх элемэнтах, якія ня хочуць зразумець таго, што гандлёвыя формы змычкі ня толькі не адкідаюцца разьвіцьцём вытворчых форм змычкі, а наадварот, толькі на аснове вытворчых форм змычкі атрымліваюць магчымасьць свайго найшырэйшага разьвіцьця ў інтарэсах соцыялізму.

Пастановы пленуму з усёй сілай падкрэсьліваюць найглыбейшае прынцыповае гаспадарчае і палітычнае значэньне разгортваньня савецкага, колгаснага гандлю.

Мы ў БССР у справе разгортваньня савецкага, колгаснага гандлю маем цэлы рад буйнейшых недахопаў.

Калі ўзяць абсолютныя лічбы, характарызуючыя дынаміку гандлёвай сеткі па БССР, дык за апошняе пяцігодзьдзе мы маем значнае скарачэньне гандлёвых пунктаў (у 1928 г.—12543 пункты, у 1932—6994 пункты)

Зусім іншым атрымаецца малюнак, калі мы возьмем дынаміку соцыяльных сэктароў у галіне гандлю.

У 1928 г. мы мелі дзяржаўных гандлёвых пунктаў 736, а ў 1932 г.—941; коопэрацыйных адпаведна—3188 і 5941; прыватных—8619 і 82.

Аб чым гавораць гэтыя даныя? Яны гавораць, па-першае, аб тым, што лінія партыі на выцясьненьне прыватніка з тавараабароту ў нас бязумоўна ажыцьяўляецца. А, па-другое, што тэмпы па разгортваньні сеткі дзяржаўнага, савецкага і колгаснага гандлю ў нас яшчэ невыстарчальныя.

Могуць сказаць (і правільна могуць сказаць), што нашы дзяржаўныя і коопэрацыйныя магазыны па сваім размаху значна большыя, чым тыя, што былі ў прыватніка. Бо па статыстыцы-ж 1928 г. улічваліся нават самыя дробныя гандлёвыя пункты прыватніка, але ўсё-ж застаецца нясумненным факт нашага адставаньня па лініі колькаснага разгортваньня гандлёвай сеткі, за-

стаецца бясспрэчным, напрыклад, той факт, што калі ў 1928 г. на адну краму прыходзілася 86 пакупцоў, дык у 1932 г. прыходзіцца на адзін пункт—342 пакупцы. Адсюль і чаргі.

Гэта мы маем па горадзе. Тое самае трэба сказаць і аб тэмпах разгортваньня калгаснага гандлю.

Паводле пляну мы намецілі ў гэтым годзе адкрыць 47 магазынаў і 805 ларкоў, а на 1 кастрычніка магазынаў адкрылі 42, г. зн. 90 проц., ларкоў-жа 402, г. зн. 50 проц. Гэтыя лічбы вельмі характарны тым, што яны паказваюць, як мы ў практычнай рабоце яшчэ далёка не навучыліся таму, каб ня толькі ажыцьцяўляць, але відавочна, нават правільна разумець лінію партыі па пытаньнях разгортваньня калгаснага гандлю.

Мы разгортваем тавараабарот.

Мы павінны павялічваць сетку. Мы павінны дабіцца таго, каб сапраўды лепш абслугоўваць насельніцтва, каб правільна абслугоўваць насельніцтва, каб ліквідаваць чаргі і г. д. Пры гэтых умовах невыкананьне пляну па разгортваньні сеткі зьяўляецца зусім недапушчальным.

Па тавараабароту, калі браць па кварталах 1932 г., дык мы маем па горадзе за 1 квартал 58 млн., а за 2 квартал 57 млн. (я адкідаю астатнія лічбы для акругленьня), за 3 квартал 51 млн.

Па вёсцы мы маем за 1 квартал, 47 млн., за 2—46 млн. і за 3—58 млн.

Я думаю, што гэтае некаторае зьмяншэньне тавараабароту па горадзе і павялічэньне яго на вёсцы зусім натуральна ў сувязі з выкананьнем дырэктывы партыі аб перакідцы тавараў на вёску, у сувязі з збожжазагатоўкамі, мясазагатоўкамі, бульбазагатоўкамі і т. д. і т. д.

Але агульны рост тавараабароту ў нас бязумоўна ёсьць.

Па кварталах мы маем такі малюнак: 1 квартал—106 млн., 2—104 млн. і 3 квартал—108 млн. Гэта мы маем па раздробнай сетцы. Агульны-ж тавараабарот выяўляецца ў наступным: у 1930 г. мы мелі 2087 млн., у 1931 г.—3090 млн., а плян на 1932 г. намечан у 5046 млн.

Вы бачыце, што таварная маса з пункту гледжаньня абароту значна расьце. Калі параўнаць гэта з 1930 г., дык тут мы маем рост амаль у два разы.

Тая акалічнасьць, што сетка недастаткова разгортваецца, тая акалічнасьць, што мы яшчэ ня здолелі сапраўды дабіцца такога становішча, каб у нас большасьць колгасаў прыняла ўдзел у колгасным гандлі, тая акалічнасьць, што мы маем цэлы рад фактаў замарожваньня тавараў, фактаў, калі тавары замест належных 2 тydняў ідуць да месца свайго прызначэньня 25—30 дзёні т. д., проста адбіваецца на якасьці работы гандлюючай сеткі, на пытаньнях снабжэньня рабочых.

Пытаньне аб палепшаньні работы, пытаньне аб разгортваньні работы па лініі савецкага гандлю, па лініі колгаснага гандлю—гэтыя пытаньні, паўтараю, зьяўляюцца аднымі з буйнейшых палітычных і гаспадарчых пытаньняў.

Мы павінны здолець пры ўмове разгортваньня колгаснага і савецкага гандлю найбольш правільна задавольваць узрастаючыя патрэбнасьці рабочага, узрастаючыя патрэбнасьці працоўнага насельніцтва гораду.

Паляпшэньне снабжэньня продуктамі харчаваньня рабочых і працоўных у гарадох проста залежыць ад работы коопэрацыі, ад работы нізавых зьвеньняў коопэрацыі, ад работы партыйных, профэсіянальных, гаспадарчых, заводзкіх організацый.

Далей т. Гікало спыняецца на пытаньнях цэнтралізаваных загатовак, якія пакуль што па БССР праходзяць ўўна нездавальняюча, і па пытаньнях самазагатовак. Тав. Гікало падкрэсьлівае, што збожжазагатоўкі, бульбазагатоўкі і асабліва плян вывазу бульбы ў Ленінград мы павінны выканаць у тэрміны, пастаўленыя нам партыяй і ўрадам, нікольکі не парушаючы пры гэтым самазагатовак, тым больш, што пры ўмелым спалучэньні работ па выкананьні цэнтралізаваных загатовак з самазагатоўкамі, мы нясумненна можам выклікаць і выклікаем у калгасьнікаў сур'ёзную зацікаўленасьць у хутчэйшым выкананьні цэнтралізаваных загатовак.

Організацыя самазагатовак мае выключнае значэньне. А між тым, таварышы, мы маем такія факты, калі прадстаўнікі ад ЗРК, выжджджаючы на месца па пытаньнях загатовак, сустракаюць у раёнах супраціўленьне, простую забарону праводзіць самазагатоўкі: „Калі, моў, мы выканаем цэнтралізаваныя загатоўкі, тады дазволім самазагатоўкі праводзіць". Работнікі ў раёнах баяцца за выкананьне цэнтралізаваных плянаў па раёне, вёсцы, баяцца таму, што слаба працавалі, не паставілі пытаньні барацьбы за выкананьне цэнтралізаванага дзяржаўнага пляну так, як гэта патрабуецца партыяй, і ў рэзультаце мы маем рад перагібаў, недацэнкі работы па самазагатоўках з усімі выцякаючымі адсюль вынікамі.

Вось паасобныя факты: 6 сьнежня прадстаўнікі Менскага гаркому паехалі ў Капыльскі раён на загатоўкі. У мястэчку Пясочным ім забаранілі загатоўку курэй. Потым, ня гледзячы на тэлеграмы комітэту па загатоўках, ім не дазволілі загатаўляць мяса. У гэтым-жа раёне райснаб забараніў Менгаррабкопу загатаўляць няўбраную яшчэ бульбу.

Можна было-б прывесьці цэлы рад прыкладаў і па іншых раёнах, якія гавораць аб неразуменьні лініі партыі ў пытаньні аб самазагатоўках. А між тым партыйныя дырэктывы ў пытаньні аб выкананьні цэнтралізаваных загатовак, у пытаньні правядзеньня самазагатовак зусім ясна ўказваюць на недапушчальнасьць проціпастаўленьня аднаго другому, зусім ясна паказваюць, што выкананьне самазагатовак павінна ісьці побач з цэнтралізаванымі загатоўкамі, што парушэньне гэтага прынцыпу вядзе да зрыву справы паляпшэньня снабжэньня рабочай клясы, вядзе да падрыву давер'я з боку колгасьніка, аднаасобніка да пастаноў партыі і ўраду, вядзе да ўзмацненьня позыцый разгромленага, але яшчэ не дабітага клясавага ворага.

Таварышы, тыя весткі, якія мы атрымліваем з месц, гавораць аб тым, што колгаснае сялянства з найвялікшым задавальненьнем прымае апошнія пастановы партыі. Усё пытаньне ў тым, як гэтыя пастановы партыі будуць на мясцох ажыцьцяўляцца?

Вось у гэтым стрыжань пытаньня. Яшчэ і яшчэ раз неабходна падкрэсьліць, што пытаньне аб колгасна-савецкім гандлі, таксама як і пытаньне аб шырспажыве, мае важнейшае прынцыпова гаспадарчае і палітычнае значэньне на даным этапе социялістычнага будаўніцтва; гэта, калі хочаце, ёсьць пытаньне аб саюзе рабочай клясы і сялянства. А саюз рабочай клясы і сялянства пры ўмове, што ў гэтым саюзе кіруючая роля належыць пролетарыяту — „гэта вышэйшы прынцып дыктатуры пролетарыяту“ (Ленін).

Кожны комуніст абавязан гэта цьвёрда ўсвоіць і зрабіць адсюль адпаведныя вывады. Пагардлівым адносінам да пытаньняў гандлю і шырспажыву, якія ёсьць у некаторых партыйцаў, павінен быць дан самы рашучы адпор. Таксама неабходна рашуча спыніць кулацкія, антысавецкія па сваім пахаджэньні „гутарачкі“, што моў, савецка калгасны гандаль — гэта зьявішча часовае, што апошнія пастановы партыі зьяўляюцца па сутнасьці адступленьнем, прадыктаваным труднасьцямі і што, моў, потым усё зноў будзе па старому.

Таварышы, мы павінны з усёй сілай падкрэсьліць, што апошнія пастановы партыі прадыктаваны нашай сілай, нашымі дасягненьнямі. Гэтыя пастановы—яркі паказальнік нашага прасоўваньня наперад. Яны непарыўна зьвязаны з тым, што мы ўступілі ў пэрыод соцыялізму, вырашылі проблему „хто каго“ як у галіне прамысловасьці, так і ў галіне сельскай гаспадаркі, што мы пабудавалі фундамант соцыялістычнай экономікі.

Толькі пры ўвязцы ўсіх гэтых пытаньняў можна правільна падысьці да пытаньня аб апошніх пастановах партыі і ўраду.

Але разам з тым няправільна было-б ставіць і так пытаньне, што ў нас няма ніякіх труднасьцяй. Труднасьці ў нас ёсьць, і апошнія пастановы партыі і ўраду павінны дапамагчы падолець гэтыя труднасьці. Яшчэ на XVI партыйным зьезьдзе т. Сталін указваў, што нашы труднасьці, гэта труднасьці росту, што яны карэнным чынам адрозьніваюцца ад труднасьцяй, якія перажывае капіталістычны сьвет. Нашы труднасьці выкліканы ня тым, што мы ідзём па крывой уніз, а тым, што мы ідзём уверх. У саміх нашых труднасьцях закладзен паказальнік нашай сілы і магчымасьць іх падоленьня.

Толькі агент клясавага ворага можа сьцьвярджаць, што разгортваньне колгаснага гандлю азначае наша адступленьне. На справе пастановы партыі па пытаньні аб колгасна-савецкім гандлі ня толькі не азначаюць адступленьня, ня толькі не вядуць да ўмацаваньня ці аднаўленьня позыцыі прыватніка ў галіне тавараабароту, але, наадварот, разьлічаны на далейшае наступленьне супроць капіталістычных элемэнтаў, разьлічаны на організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў, як прадпрыемстваў соцыялістычнага тыпу. Трэба быць па меншай меры палітычным сьляпцом, каб зьмешваць гандаль ва ўмовах перавагі дробнатаварнай сялянскай гаспадаркі, „штодзенна, штогадзінна параджаючай капіталізм“, з гандлем, які разгорт-

ваецца ва ўмовах перавагі на вёсцы соцыялістычных форм гаспадаркі, ва ўмовах грандыёзных перамог соцыялістычнай прамысловасьці ў горадзе, з гандлем, які разгортваецца на аснове самай бязьлітаснай барацьбы з перакупшчыкам і спэкулянтам.

Тав. Гікало радам фактаў паказвае, як пры правільна пастаўленай рабоце па колгасным гандлі можна ўжо зараз дабіцца сур'ёзных посьпехаў у паляпшэньні матэрыяльнага дабрабыту колгасьніка і павялічэньні даходу колгасу ў цэлым.

Колгас „Наер лебн", Віцебскага раёну, выручыў, напрыклад, у сувязі з колгасным гандлем 45 тыс. руб., што дае на адзін працадзень 8 руб. Вы бачыце, які даход можа атрымаць колгас, калі ён сапраўды возьмецца за гэту справу і пачне гандляваць.

Колгас імя Дзяржынскага выручыў 140 тыс. руб., што дае на працадзень 5—6 руб.

Колгас „Чырвонай арміі", Віцебскага раёну выручыў 80 тыс. руб., колгас „Комінтэрн", Слуцкага раёну,—50 тыс. руб. і т. д.

Таварышы, калі ідзе гутарка аб нашых недахопах у справе разгортваньня колгаснага і савецкага гандлю, дык мы павінны не забываць, што ў нас ёсьць усе об'ектыўныя магчымасьці для падоленьня гэтых недахопаў. Пытаньне па сутнасьці ўпіраецца ў якасьць нашага кіраўніцтва на мясцох, упіраецца ў няўменьне арганізаваць справу, упіраецца ў проблему кадраў нашых гандлюючых організацый.

Мы павінны з усёй катэгорычнасьцю падкрэсьліць, што ў нашых гандлюючых організацыях побач з добрымі працаўнікамі, здолеўшымі, ня гледзячы на ўсе труднасьці і перашкоды (як, напрыклад, у Аршанскім і Менскім ТСТ), ня дрэнна паставіць работу, ёсьць цэлы рад працаўнікоў, маючых у кішэні партбілеты, якія ня толькі не зразумелі ўсёй важнасьці работы ў сыстэме гандлюючых організацый, у сыстэме коопэрацыі, але і аказаліся замешанымі ў раскрадваньнях і спэкуляцыі.

Наша простая задача ў сувязі з вялізарным значэньнем, якое мае разгортваньне савецкага і колгаснага гандлю, палепшыць кадры нашых гандлюючых організацый і ачысьціць іх ад тэй гнілі, якая там яшчэ ёсьць. А для гэтага трэба перш за ўсё перамагчы зусім няправільныя адносіны, якія ёсьць у многіх членаў партыі да работы ў гандлёвым апараце. Калі накіроўваеш комуніста для работы ў гандлёвую сетку, дык вельмі часта прыходзіцца чуць з яго боку не ў разумёнае пытаньне: „За што вы мяне караеце?". Але горш за ўсё тое, што калі комуніст і трапляе ў нашу гандлёвую сетку, то ён загрузае ў цэнтральных кіраўнічых зьвеньнях, у гандлюючых пунктах комуністаў вельмі мала, а між тым іменна там яны павінны быць. Было-б вельмі ня дрэнна, калі-б мы цэлы рад добрых работнікаў, якія ёсьць у нашых цэнтральных, снабжэнчых і коопэрацыйных організацыях, апрача работнікаў, якія перакідваюцца з іншых галін работы, так сказаць, у парадку скарачэньня таго-ж самага штату, перакінулі ў нізавыя зьвеньні. Мы абавязаны ўмацоўваць гэтыя зьвеньні, бо іменна яны вырашаюць зараз палітыку, якая праводзіцца партыяй у спра-





ве разгортваньня савецкага і колгаснага гандлю.

Варочаюся да пытаньняў колгаснага гандлю.

Самы буйны мінус у нашым колгасным гандлі на даным этапе—гэта непамерна высокія цэны, якія ўстанавіліся на рынку, і якія маюць дзе-ні-дзе тэндэнцыю да яшчэ большага павышэньня.

Зьбіць непамерна высокія цэны на сельска-гаспадарчыя продукты, якія склаліся ў нас на рынку,—адна з важнейшых задач, што стаяць зараз перад намі. Як мы можам вырашыць гэту задачу? Бясспрэчна і зразумела, што вялізарную ролю павінна адыграць тут барацьба са спэкулянтам і перакупшчыкам; вялізарнае значэньне павінна мець таксама разгортваньне масавай палітычнай і організацыйнай работы ў колгасах, а таксама сапраўдная штодзенная дапамога колгасам у пабудове ларкоў, магазынаў і г. д., але самай важнай, рашаючай у гэтым сэнсе зьяўляецца, зразумела, справа організацыі сустрэчнага патоку прамтавараў шырокага спажываньня.

## Аб мерапрыемствах па павялічэньні выррабу прамтавараў шырокага спажываньня

Больш выраблячь прадметаў шырокага спажываньня, якія траплялі б непасрэдна ў рукі рабочага і селяніна колгасьніка—вось што нам трэба перш за ўсё. І ў інтарэсах гэтай справы мы павінны абвясьціць самую бязьлітасную вайну такім зьявішчам, як затаварваньне, як лішняе, нічым не апраўданае нормаваньне і так званае броніяваньне раду тавараў.

Нам неабходна побач з барацьбой за стопроцантнае колькаснае і якаснае выкананьне пляну па шырспажыву змагацца таксама за павялічэньне рыначнай долі ў масе выпускаемай прадукцыі па прадметах шырокага спажываньня (за кошт скарачэньня так званага ведамственнага спажываньня). Да самага апошняга часу мы мелі ў гэтым сэнсе вельмі няспрыяючае становішча. Так, напрыклад, прырост нярыначнага спажываньня на працягу 1931 г. па Саюзе склаў 27 проц. у адносінах да ўсёй масы продукцыі па прадметах шырокага ўжытку, а прырост рыначнага спажываньня—толькі $5^1/_2$ проц.

ЦК нашай партыі, як вы ведаеце, зрабіў за апошні час адпаведны націск па ўсіх лініях, і мы зараз ужо маем магчымасьць падвесьці некаторыя вынікі.

Асноўныя даныя, якія характарызуюць выкананьне пляну па шырспажыву ў нас у Беларусі, наступныя:

Па сыстэме Белкоопрамсаюзу выкананьне гадавой програмы за 8 месяцаў—55,7 проц.

Выкананьне пляну лёгкай прамысловасьці за 1 і 2 кварталы склала 94,3 проц., а за 3 квартал—ужо толькі 63 проц.

Ясная справа, што мы ня можам пакінуць работу нашай прамысловасьці па частцы выкананьня програмы па шырспажыву і па асноўнай програме ў такім становішчы, тым больш, што наша прамысловасьць у Беларусі, гэта галоўным чынам прамысловасьць вырабу тавараў шырспажыву. Часу ў нас засталося магчыма і ня так многа, але час яшчэ ёсьць для таго, каб дабіцца выкананьня програмы, маючы на ўвазе, што

пытаньне колгаснага гандлю, савецкага гандлю, вырабу тавараў шырспажыву—проста і не пасрэдна ўвязаны з пытаньнямі далейшага паляпшэньня снабжэньня рабочай клясы.

Далей мы маем рад буйнейшых недахопаў у якасьці продукцыі. Нядаўна ў нас быў вельмі цікавы факт: адна з організацый пачала выабляць шапкі для рынку ў якасьці тавараў шырспажыву. Гэтыя шапкі аказаліся такімі, што, па-першае, на галаву яны ня лезуць, па-другое, з аўчыны аднэй шапкі можна тры шапкі зрабіць і, па-трэцяе, яны проста нікуды няварты. Атрымалася так: што адна з гэтых шапак дакацілася да сакратара ЦК УсеКП(б) т. Постышава, які зусім правільна ўказаў нам на недапушчальнасьць падобнай агіднасьці.

Адначасова з нашай шапкай і ў Ленінградзе выпусьцілі нягодныя нажы і відэльцы. Жалеза нажоў аказалася такой апрацоўкі, што ня толькі рукі не парэжаш, але і пры ўсім жаданьні наогул нічога не разрэжаш. Затое фанэрныя ручкі, закляпаныя цьвікамі, былі зроблены такім чынам, што іх у рукі ня возьмеш, бо наколешся і парэжашся—не нажом, а ручкай.

Нядаўна сампрамкоопэрацыя, здаецца, у Гомелі, выпусьціла бялізну мужчынскую і жаночую. Выпусьціла нагавіцы. З чаго зроблены нагавіцы? Аказваецца, з абівачнага матэрыялу. Адпаведным чынам яны расфарбаваны ў колеры ў патрэбным і непатрэбным месцы. Можаце сабе ўявіць франта, які надзене гэтыя нагавіцы!

Такая работа па вырабу прадметаў шырспажыву зьяўляецца простым дыскрэдытаваньнем пастаноў ЦК аб вырабе прадметаў шырспажыву.

## Пытаньні вёскі

Таварышы, перш чым перайсьці да пытаньняў чорнай мэталюргіі, дазвольце спыніцца на становішчы спраў на вёсцы. Як быццам гэта ня мае простых адносін да работы верасьнёўскага пленуму, але я думаю, што кожнаму відавочна цясьнейшая сувязь, якая існуе паміж пытаньнямі гандлю, шырспажыву і тымі задачамі, якія стаяць перад намі на вёсцы ў БССР.

За гэты год мы мелі цэлы рад сур'ёзьнейшых зьявішч у нашай беларускай вёсцы. Вясна і лета далі нам па Беларусі некаторы адліў з колгасаў. Цяпер пасьля адпаведнай масавай растлумачальнай і організацыйнай работы гэты адліў зусім спыніўся. У асеньнія месяцы мы маем ужо некаторы адваротны новы прыцёк у колгасы.

Гэты станоўчы факт ня здымае ўсё-ж неабходнасьці прааналізаваць прычыны тых нездаровых момантаў, якія наглядаліся ў нас вясной і летам у колгасным руху.

Перш за ўсё мы павінны з усёй рашучасьцю адкінуць па сутнасьці контррэволюцыйныя сьцьверджаньні, што колгасьнікі і аднаасобнікі, моў, нездаволены політыкай савецкай улады. Усюды, дзе вялася сапраўды сур'ёзная масавая політычная работа, дзе правільна ажыцьцяўляліся дырэктывы партыі і ўраду, ніякага адліву з колгасаў не наглядалася.

Толькі там, дзе масавая растлумачальная работа падмянялася

толым адміністраваньнем, там, дзе скажалася лінія партыі, дзе, напрыклад, цяжар дзяржаўных абавязацельстваў у большай меры ўскладалі на колгасьніка, чым на аднаасобніка,—мы мелі некаторы адліў з колгасаў.

Але само сабой зразумела, што справа не ў адных толькі перагібах. Было-б няправільна ня ўлічваць і тую вялізарную кулацкую контррэволюцыйную работу, якая ў нас праходзіла і якая натуральна атрымлівала пэўную глебу для свайго разьвіцьця ў выніку меўшых месца перагібаў, але, галоўным чынам, у выніку таго спэцыфічнага становішча, якое займае БССР у Савецкім саюзе, як пагранічная рэспубліка. Апроч больш або менш адкрытых кулацкіх выступленьняў, накіраваных на організацыю супроцьколгаснага руху, мы мелі таксама замаскаваныя выступленьні кулацкіх элемэнтаў, якія пралезьлі ў колгасы і разгарнулі там знутры падрыўную разбураючую работу.

У рэзультаце сур'ёзнай опэратыўнай работы, якую правёў ЦК КП(б)Б і раённыя партыйныя комітэты, мы дабіліся ня дрэнных паказальнікаў у справе выкананьня гаспадарчых работ на вёсцы, у справе організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, у справе барацьбы са спробамі яшчэ недабітага клясавага ворага зрываць меры, якія праводзяцца партыяй і савецкай уладай на вёсцы.

І ўсё-ж мы павінны констатаваць, што масавая, агітацыйна-політычная работа на вёсцы пастаўлена далёка нездавальняюча. У наяўнасьці, напрыклад, няўменьне з боку раду парторганізацый у сваёй масавай рабоце правільна, ясна растлумачыць апошнія важнейшыя пастановы партыі і ўраду (аб збожжазагатоўках, мясазагатоўках, колгасным, савецкім гандлі і т. д.).

Бясспрэчным зьяўляецца таксама той факт, што ў радзе раёнаў БССР наша работа пастаўлена вельмі дрэнна ў адносінах опэратыўнага кіраўніцтва колгасамі. У нас часта на глебе няведаньня конкрэтных асаблівасьцяй кожнай гаспадаркі, на глебе недыфэрэнцыяванага кіраўніцтва, кіраўніцтва „наогул"—робяцца абураючыя агіднасьці.

Таварышы, ні на мінуту нельга забываць, што вырашае тую ці іншую справу чалавек, работнік вырашае. Ясна, што гэты работнік можа вырашаць правільна і добра, калі ён сапраўды разумее задачы, якія ставіць перад намі партыя, і калі ён ведае дадзеную гаспадарку ня толькі з пункту гледжаньня таго, што яна можа даць, але і з пункту гледжаньня таго, што яна ў цэлым прадстаўляе з сябе, як гаспадарчая адзінка. І, зразумела, што мы ў пытаньні аб конкрэтным опэратыўным кіраўніцтве і ў пытаньні веданьня таго ці іншага раёну, гаспадаркі гэтага раёну, у якасьці аднэй з важнейшых задач ставім веданьне людзей, іменна веданьне людзей—як галоўнае.

Тав. Кагановіч у сваім выступленьні па пленуме Маскоўскага гарадзкога і абласнога комітэту партыі сумесна з актывам і сакратарамі РК вельмі правільна ўказваў на тое, што сёньня справа заключаецца ня ў тым, каб толькі рэзалюцыяй адказаць на тое, што мы падтрымліваем генэральную лінію партыі, а галоўным чынам у тым,

каб палітычна, мобілізуючы найшырэйшыя масы рабочай клясы, усю партыю, у той-жа час мобілізаваць і організоўваць гэтых людзей на практычнае выкананьне, ажыцьцяўленьне, правядзеньне генэральнай лініі партыі.

Пры ўсіх нашых недахопах па лініі кіраўніцтва сельскай гаспадаркай мы дабіліся ўсё-ж грандыёзных посьпехаў у справе рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Калі падыйсьці да пытаньня з пункту гледжаньня росту засеўнай плошчы, то тут мы маем гіганцкія посьпехі ў параўнаньні з першым годам пяцігодкі.

У 1913 г. пад бульбай было 323 тыс. *га*, у 1931 г.—546 тыс. *га* і ў 1932 г.—больш 600 тыс. *га*. А бульба нам патрэбна ня толькі для тэхнічных мэт і харчаваньня, а галоўным чынам, як адзін з продуктаў, які мы павінны даць аднаму з пролетарскіх цэнтраў СССР—Ленінграду.

Па ільне ў 1913 г. засевы дасягалі 71 тыс. *га*, у 1931 г.—238 тыс. *га*. Тут павялічэньне гіганцкае ў параўнаньні з даваенным часам.

Калі паглядзець на справу з пункту гледжаньня работы па завозе трактараў у беларускую вёску, то тут мы маем зноў-такі вялізарныя, ні з чым непараўнаныя посьпехі, бо мы маем больш паўтары тысячы магутных трактароў, завезеных у нашу вёску.

Але гэтага яшчэ мала. Мы можам сказаць, што за апошні час у сельскай гаспадарцы БССР наша партыя прарабіла вялізарную работу па частцы мэханізацыі, па частцы рэконструкцыі, па частцы зьмены аблічча вёскі, па частцы колектывізацыі вёскі, па частцы наладжаньня саўгасаў жывёлагадоўчых, тэхнічных культур

Сьмешна, зразумела, калі чытаеш белагвардзескую газэту, дзе гаворыцца аб дэградацыі ў нас сельскай гаспадаркі, аб правале колектывізацыі і т. д. Сьмешна чытаць. Сьмешна, бо рэальныя факты паказваюць нам аб выключна вялізарных нябачаных нідзе ў сьвеце посьпехах, якіх мы дабіліся ў справе сельскай гаспадаркі. Але зусім відавочна, што гэтыя посьпехі нас ня могуць задаволіць, што гэтыя посьпехі могуць быць значна павялічаны, калі мы будзем сапраўды працаваць так, як нас вучыць правадыр нашай партыі т. **Сталін**, калі мы здолеем дабіцца такога становішча, каб падыходзіць да кожнага пытаньня не бюракратычна, не з габінэту, а конкрэтна і опэратыўна, на аснове сапраўднага веданьня справы і людзей.

## Прычыны адставаньня чорнай мэталюргії і шляхі перамаганьня гэтага адставаньня

Далей т. Гікало пераходзіць да пытаньняў чорнай мэталюргії.

Пастаноўка пытаньня аб чорнай мэталюргії на конфэрэнцыі, зразумела, зьяўляецца не выпадковай. Партыя заўсёды адстойвала той пункт гледжаньня што разгортваньне лёгкай прамысловасьці магчыма толькі на аснове цяжкай індустрыі. Толькі заядлы опортуніст можа не разумець таго, што на даным этапе ў адначасовым развіцьці цяжкай індустрыі і лёгкай індустрыі, на аснове цяжкай, увасоблена дыялектыка будаў-

ніцтва соцыялізму—будаўніцтва, угрунтаванага на правільным спалучэньні працяглых інтарэсаў пролетарыяту з яго штодзеннымі патрэбамі. Тав. Гікала дэмонструе радам лічбаў нашы вялізарныя посьпехі ў галіне чорнай мэталюргіі; пасьля XVI зьезду партыі мы перабудавалі 8 доменных печаў, пабудавалі 12 новых печаў, з іх 9 у 1932 г., мартэнаў пабудавалі 20, 13 у 1932 г.; будуюцца 16 доменных печаў і 50 мартэнаў; выплаўка за 9 месяцаў 1932 г.: па чыгуне—4½ млн. *т*, сталі—4,1 млн. *т*, пракату—3,5 млн. *т*. Мы маем дзьве пушчаныя домны, якія па колькасьці сваёй плаўкі мэталю, па прадукцыйнасьці перавышаюць доменныя печы, існуючыя на контынэнце і Англіі. Толькі ў аднэй Амэрыцы ёсьць такія, здаецца, 2 домны. Мы маем выплаўку такой якаснай сталі, якая па сваіх уласьцівасьцях перавышае любую сталь, любой капіталістычнай краіны. Мы далі гіганцкія тэмпы ў разьвіцьці нашай чорнай мэталюргіі. Мы сапраўды далі нячуваныя тэмпы і ў тэрмінах.

Але калі мы параўнаем разьвіцьцё чорнай мэталюргіі і машынабудаўніцтва за апошняе пяцігодзьдзе, то ўбачым, што машынабудаўніцтва вырасла на 400%, ў той-жа час, як рост па чорнай мэталюргіі за гэты-ж прамежак часу вызначаецца ў 36%. А чорная-ж мэталюргія—аснова асноў для правядзеньня тых грандыёзных задач, якія пастаўлены ў другім пяцігодзьдзі.

Бяз чорнай мэталюргіі немагчыма завяршэньне тэхнічнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі краіны.

## Аб першай пяцігодцы па БССР

І цяпер, напярэдадні XV гадавіны Кастрычніцкай рэволюцыі, пролетарыят СССР можа з гордасьцю азірнуцца на пройдзены ім, пад кіраўніцтвам сваёй партыі, цяжкі, але слаўны шлях.

Таварышы, мы возьмем выкананьне пяцігодкі толькі па БССР. Гэта мае непасрэдную цікавасьць для нас. Агуловая продукцыя ўсёй прамысловасьці па БССР з 1928 па 1931 г. узрасла больш, чым у 4 разы. Таксама мы маем вялізарнейшы рост па лініі павялічэньня ліку рабочай клясы. Калі ў 1928 г. налічвалася 24—26 тыс. рабочых, то на сёнешні дзень мы маем 94 тыс. рабочых буйнай прамысловасьці. Той вялізарны рост рабочай клясы, які мы на сёньня маем, гаворыць нам аб тым, што рух наперад у нас вялізарны, што выкананьне пяцігодкі бязумоўна зьяўляецца фактам найвялікшага значэньня ў жыцьці Беларусі.

Таварышы, яшчэ больш бліскучыя дасягненьні мы маем у галіне культурнага будаўніцтва.

Калі, напрыклад, мы возьмем навучальныя ўстановы, то тут у нас вялікі рух наперад; па ўсіх даных мы расьцём у гэтай галіне шпарчэй, чым у іншых рэспубліках СССР. Вось некаторыя лічбы: вышэйшых навуковых і навучальных устаноў у 1927-28 гг. было 30, у 1931 г.—91. У 1928 г. колькасьць вучняў была 5287, у 1931 г.—19503.

Тав. Гікало радам лічбаў, якія ілюструюць дасягненьні па лініі нацыянальна-культурнага і гаспадарчага будаўніцтва ў БССР, даказвае, што першая пяцігодка БССР ня толькі выконваецца, але

і перавыконваецца. У цэлым першая пяцігодка выконваецца ва чатыры гады, а па асобных галінах выканана за два і тры гады.

Посьпех пяцігодкі на Беларусі зьяўляецца часткай агульных посьпехаў пяцігодкі ўсяго Саюзу.

Нашы перамогі, таварышы, вельмі ярка выступаюць на фоне вялізарнага экономічнага крызісу, які патрасае ўвесь капіталістычны сьвет. Гнілая адносная стабілізацыя капіталізму скончылася. Мы маем далейшае нарастаньне рэволюцыйнага пад'ёму як у імпэрыялістычных, так і ў колёніяльных краінах.

„... Некаторыя іншыя краіны або шчыльна падыходзяць да рэволюцыйнага крызісу (Польшча), або ў рэзультаце крайняга абвастрэньня ўнутраных і зьнешніх супярэчнасьцяй могуць у бліжэйшы час аказацца ў абстаноўцы рэволюцыйнага крызісу (Японія)".

І ў той час, як сёньня ў капіталістычным сьвеце яшчэ больш паглыбляецца і абвастраецца крызіс, зусім іншы малюнак мы бачым ў СССР. Узяць хоць-бы тую-ж Днепрарэс. Гэта найвялікшая справа! Кожны комуніст, кожны рабочы гэта ведае. І ўсё-ж мы яшчэ мала ўяўляем сабе рэальна, што такое Днепрадэс. Агульная магутнасьць Днепрадэсу—810000 конскіх сіл (9 агрэгатаў па 90 тыс. конскіх сіл кожны). Калі падлічыць па БССР усю наяўнасьць нашай конскай цягавай сілы, то мы не пакрыем магутнасьці Днепрадэсу.

Нашы. дасягненьні настолькі бясспрэчны, што іх вымушана прызнаць міжнародная буржуазія. Я прачытаю вам адну вытрымку з французскай газэты „Эвр". Тыдняў два таму назад яна зьмясьціла заметку, дзе піша: „Пяцігадовы плян рэалізуецца ня ўсюды з аднолькавым посьпехам, але ўсё-такі рэалізуецца. І ўжо прыступаюць да другога".

„... Злачынна ігнараваць тую дзівосную падтрымку, якую савецкая прамысловасьць магла-б аказаць у момант конфлікту другой нацыі.

... праз пяць або дзесяць год Чырвоная армія будзе, зразумела, самай моцнай арміяй у сьвеце ня толькі колькасна, але і ў сэнсе ўзбраеньняў. І няма дзяржавы, якая магла-б перашкодзіць гэтаму".

Справа заключаецца ў тым, што магутныя сілы Савецкага союзу, за гады першай пяцігодкі настолькі вырасьлі, што нават найбольш актыўная, з пункту гледжаньня нападу на Савецкі саюз, француская буржуазія вымушана прызнаць нашы посьпехі. Чаму, таварышы? Не таму, зразумела, што мы за гэты час слаба працавалі, не таму, што буржуазная Францыя парашыла, што мы сталі вельмі добрымі. Не! Справа ў тым, што рост Савецкага саюзу настолькі відавочны, мы настолькі прасунуліся наперад у параўнаньні з усім капіталістычным сьветам, што з намі прыходзіцца лічыцца. Нічога ня зробіш.

Але ці значыць гэта, што мы сёньня ўступілі ў паласу, калі пытаньне аб ваеннай небясьпецы для Савецкага саюзу зьнята. Нічога падобнага, пытаньне аб ваеннай небясьпецы застаецца такім-жа вострым. Яно застаецца такім-жа вострым, якім было, скажам, у пачатку гэтага году.

Таварышы, у пачатку-ж гэтага году было зусім відавочна, што буржуазія ўсіх краін і яе застрэль-

шчык—японская буржуазія, японскія імпэрыялісты імкнуліся ва што-б там ні стала сарваць соцыялістычнае будаўніцтва ў Савецкім саюзе, уцягнуць Савецкі саюз у вайну. Аднак, міралюбівая політыка Савецкага саюзу, яго ваенная магутнасьць, рост супраціўленьня з боку рэволюцыйных мас Кітаю, Японіі і іншых капіталістычных краін—паказалі, што гэта задача не такая ўжо простая, тым больш, што сусьветны крызіс настолькі патрос японскую гаспадарку, што і фінансы і агульна-гаспадарчы стан Японіі аказаліся ў такім становішчы, што на сёньня вайна для яе магла-б скончыцца рэволюцыяй. Японскія імпэрыялісты, японская буржуазія не настолькі дурныя, каб не разумець рэальных суадносін сіл, не разумець тэй абстаноўкі, якая на сёнешні дзень ёсьць.

## Аб контррэволюцыйнай групоўцы Руціна, Іванова і інш.

Таварышы, на фоне тых задач, якія ўстаюць перад партыяй у выніку пастаноў пленуму ЦК аб разгортваньні савецкага і колгаснага гандлю, вырабу тавараў шырспажывзу, задач, зьвязаных з разьвіцьцём чорнай мэталюргіі, тых дасягненьняў, якія мы маем у сувязі з выкананьнем першага пяцігадовага пляну, і тых труднасьцяй, якія і сёньня перад намі стаяць у пытаньнях нашай работы на тым фоне, які складаецца ў міжнароднай абстаноўцы—факт раскрыцьця „новай“, па сутнасьці белагвардзейскай групоўкі—набывае зусім пэўнае значэньне, значэньне ў тым сэнсе, што выступленьне гэтай контррэволюцыйнай групы паказвае, наколькі мела рацыю наша партыя, калі яна пастановамі XVII партконфэрэнцыі падкрэсьлівала, што нам прадстаіць яшчэ жорсткая барацьба з рэшткамі, асколкамі разгромленых, але не дабітых яшчэ варожых клясаў.

Зусім відавочна, што грандыёзныя посьпехі соцыялізму, рашучы курс, узяты партыяй на перамаганьне труднасьцяй, абвастрэньне проблемы „хто каго“ на міжнароднай арэне, не маглі не парадзіць пэўнай актывізацыі з боку клясавага ворага.

Таварышы, мы праводзім вялізарнейшую работу па соцыялістычным будаўніцтве. Пытаньні кіраўніцтва гэтым будаўніцтвам і непасрэднага актыўнага ўдзелу ў ім займаюць сёньня ўсю партыю. Верасьнёўскі пленум ЦК паказаў прыклад, як бальшавікі ўмеюць зьбірацца для таго, каб конкрэтна, опэратыўна вырашыць тыя злобадзённыя на бліжэйшы пэрыод пытаньні, якія зьвязаны з соцыялістычным будаўніцтвам. Не выпадкова, таварышы, што іменна ў гэты час клясавы вораг прабуе зганьбіць партыю, зганьбіць генэральную лінію партыі, прабуе зганьбіць тую лінію, якую праводзіць ЦК на чале з т. Сталіным.

Кожны з нас чытаў пастанову ЦКК аб контррэволюцыйнай групе Руціна, Іванова і т. д. Калі вы, таварышы, зьвернеце ўвагу на склад выключаных з партыі, якія прымалі ўдзел у гэтай групоўцы, то кідаецца ў вочы наступнае: няма ні аднаго тут новага, што называецца, ня вышаўшага

з опозыцыі. Усё старыя опозыцыянэры.

Мы маем тут выключанага з партыі Руціна, які тры разы каяўся перад партыяй і які тры разы сыстэматычна ашукваў партыю, Руціна, які будучы нам. рэдактара „Красной звезды“ (чырвонаармейскай газэты), сьцьвярджаў, што на зьмену політыцы абмежаваньня кулацтва ў аднаўленчы пэрыод павінна прысьці політыка яго выцясьненьня ў рэконструкцыйны пэрыод. Тады-ж т. Сталін направіў Руціна, указаўшы, што політыка выцясьненьня і політыка ліквідацыі кулака як клясы—дзьве вялікія розьніцы. Аказваецца, што пасьля гэтага праз некалькі месяцаў Руцін на словах прызнаючы генэральную лінію партыі, на справе пачынае організоўваць, весьці проста шкодніцкую, контррэволюцыйную работу супроць партыі і яе ЦК.

Вазьміце рад іншых: Іваноў, Замяцін, Федараў, Дзямідаў, Каюраў, Сгэн, Рохкін, Зіноўеў, Каменеў, Угланаў, Равіч-Чэркаскі— гэта „старыя, знаёмыя ўсе асобы“. Група невялікая, група сама па сабе з пункту гледжаньня барацьбы супроць партыі—нічога не прадстаўляе. Сувязі з рабочай клясай яна ня мае ды і ня можа мець, гэта зусім відавочна. Сярод іх цэлы рад членаў партыі, якія выключаліся, і якіх партыя аднавіла, якім давярала, напрыклад, Зіноўеў, Каменеў. І вось гэтыя людзі, якія ня раз кляліся ў тым, што яны падначаляць сваю волю партыі і якім партыя паверыла, падтрымлівалі сувязь з тым, каго партыя выключыла за двурушніцтва, за контррэволюцыйную работу супроць савецкай улады.



На прыкладзе данай контррэволюцыйнай групы мы бачым, што ўсе элемэнты опозыцыі нямінуча, раз яны парвалі з партыяй, раз яны не ўсьвядомілі сваіх памылак, або прызналі іх толькі на словах, нямінуча коцяцца ў лягер контррэволюцыі, таксама як гэта было і з Троцкім. Калі, таварышы, гэта контррэволюцыйная група прабуе зганьбіць будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне, калі яна заклікае да павароту назад, калі гэта група высоўвае програму ліквідацыі колгасаў, ліквідацыі саўгасаў, замест політыкі ліквідацыі кулацтва як клясы, калі яна прапануе політыку абмежаваньня, г. зн. аднаўленьня кулака, то гэтым самым яна вядзе контррэволюцыйную работу. Калі яны лічаць, што тыя гіганты індустрыі, якія мы стварылі ў нашай краіне ў ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі, як Днепрабуд, Магнітабуд і г. д., што іх трэба аддаць у концэсію, то гэтым самым яны зноў-такі вядуць контррэволюцыйную работу.

Ва ўмовах грандыёзных перамог, дасягнутых намі ў ходзе разгорнутага соцыялістычнага наступленьня па ўсім фронце, асколкі контррэволюцыі, разьбітыя ў адкрытым баі, зварачаюцца да самых рознастайных і ўсё больш замаскаваных сродкаў барацьбы з партыяй.

Нельга, таварышы, ні на мінуту забываць, што клясавы вораг унутры краіны, хоць і разгромлен, усё-ж аказвае шалёнае супраціўленьне. Яшчэ Ленін у свой час падкрэсьліваў, што „чым бліжэй буржуазія да сьмерці, тым роспачлівей становіцца яе супраціўленьне“.

Контррэволюцыйная група Руціна і інш. зьяўляецца простым і непасрэдным выражальнікам інтарэсаў гэтых асколкаў разьбітых, але яшчэ недабітых капіталістычных кляс у нашай краіне, яна зьяўляецца разам з тым агентурай міжнароднага імпэрыялізму, які рыхтуе інтэрвэнцыю супроць СССР.

Рабочая кляса СССР здолела даказаць і даказала, што яна зьяўляецца пераможцай у справе ажыцьцяўленьня програмы будаўніцтва соцыялізму ў нашай краіне, а гэта група прапануе аддаць у концэсію нашы гіганты. Гэта-ж зьяўляецца простай спробай пусьціць у нашу краіну, у краіну, дзе будуецца соцыялізм, капіталістаў. Імення так стаіць пытаньне.

Назад да капіталізму— вось асноўны сэнс програмы контррэволюцыйнай групы Руціна, Іванова, Галкіна і інш.

На выступленьне супроць партыі, супроць рабочай клясы, супроць соцыялістычнага будаўніцва нікчэмнай контррэволюцыйнай групы, што складаецца з элемэнтаў былой опозыцыі, якія на словах пакаяліся, а на справе ашукалі партыю, элемэнтаў, якія аб'ядналіся разам з трацкісцкімі і праваапортуністычнымі элемэнтамі, ужо даўно выкінутымі з партыі, мы ня можам інакш рэагаваць як толькі самым жорсткім сакрушальным ударам.

Зусім няправільна было-б на сёньня заняць лінію аслабленьня да гэтых элемэнтаў. Ніхто: ні партыя, ні рабочая кляса гэтага дапусьціць ня могуць. З контррэволюцыянэрамі не спрачаюцца.

У нашых умовах, ва ўмовах жорсткай клясавай барацьбы, ва ўмовах крайняга абвастрэньня проблемы „хто каго“ на міжнароднай арэне, ва ўмовах напружаньня ўсіх сіл нашай партыі і рабочай клясы, ва ўмовах нашых дасягненьняў па выкананьні плянаў соцыялістычнага будаўніцтва, ва умовах небясьпекі вайны, — мы ня можам інакш пастулаць, як толькі рашуча і бязьлітасна ўдараючы па гэтых групах.

Мы ведаем, што рабочая кляса разам з партыяй, пад кіраўніцтвам ленінскага ЦК і нашага правадыра т. Сталіна прайшла вялізарны шлях. Ва ўмовах вельмі складаных, ва ўмовах найвялікшых труднасьцяй, партыя на чале з яе цэнтральным камітэтам, пад кіраўніцтвам свайго правадыра т. Сталіна павяла краіну па шляху вялізарных перамог, па шляху вялізарных дасягненьняў.

Для таго, каб перамагчы, мы ня можам быць расхлябанымі, мы ня можам быць недысцыплінаванымі. Мы павінны быць жалезнымі, мы павінны быць стойкімі, пасьлядоўнымі, мы павінны быць узброенымі рэволюцыйнай тэорыяй, якую нам далі найвялікшыя тэорэтыкі, найвялікшыя бальшавікі — Маркс — Ленін—Сталін.

Мы ня можам ні ў якой ступені дапусьціць, каб дзе-небудзь у нашай бальшавіцкай партыі было малейшае сумненьне ў моцнасьці, у сіле партыі, у правільнасьці яе генэральнай лініі.

Таварышы, партыя і рабочая кляса бязумоўна ганарыцца сваёй

работай, партыя і рабочая кляса ганарыцца сваім ленінскім ЦК партыі, партыя і рабочая кляса ганарыцца сваім правадыром т. Сталіным,—ганарацца таму, што перамога за перамогай суправаджае работу нашай бальшавіцкай партыі, якая кіруецца ленінскім ЦК на чале з т. Сталіным. Тав. Сталін умее на фоне тых вялізарных грандыёзных задач, якія зьвязаны з пытаньнем міжнароднага рэвалюцыйнага руху, з пытаньнем пабудовы соцыялізму ў СССР, умее штодзённа конкрэтна, опэратыўна кіраваць усімі злобадзённымі пытаньнямі, у тым ліку, і такім пытаньнем, як правядзеньне ленінскай нацыянальнай політыкі. Няма пытаньня, дзе-б мы ня мелі дапамогі, парады, простага ўказаньня нашага правадыра, настаўніка, лепшага ленінца т. Сталіна.

Таварышы, адказ на ўсякія выступленьні супроць партыі, супроць будаўніцтва соцыялізму можа быць толькі адзін: практычна, ня гледзячы ні на што і ні на каго, закасаўшы рукавы, ажыцьцяўляць генэральную лінію партыі.

Таварышы, я заклікаю вас да яшчэ больш цеснага згуртаваньня вакол ленінскага ЦК і свайго правадыра т. Сталіна, у імя перамогі міжнароднай пролетарскай рэволюцыі, у імя пабудовы соцыялізму ў СССР.

Няхай жыве ленінскі ЦК!

Няхай жыве наш правадыр і настаўнік—т. Сталін!

---



## АБ НЕКАТОРЫХ ПЫТАНЬНЯХ КІРАЎНІЦТВА ПАРТЫЙНАЙ АСЬВЕТЫ.

„Па-новаму працаваць,
па-новаму кіраваць".

Широка разгорнутай масавай палітыка-выхаваўчай работай сярод рабочых і працоўных мас, патаголоўным уцягненьнем іх у актыўнае будаўніцтва соцыялізму— парторганізацыі павінны забясьпечыць пасьпяховае выкананьне задач, пастаўленых партыяй па завяршэньні народна-гаспадарчага пляну 1932 году, будаўніцтва другой пяцігодкі.

Чарговай задачай парторганізацый зьяўляецца—ахапіць комуністычным уплывам кожнага рабочага, колгасьніка, кожнага працоўнага краіны, узьняць на вялізарную вышыню авангардную ролю ячэйкі комуніста, дабіваючыся такога становішча, „каб комуніст быў узорам ня толькі ўдарнай вытворчай работы, але і палітычным правадыром, організатарам мас" (ліпеньскі пленум ЦК КП(б)Б па паасобных вучастках гаспадарчага і культурнага будаўніцтва.

Выключная організаванасьць, выразнасьць работы і ідэйна-палітычная згуртаванасьць—павінны забясьпечыць аб'ём і якасьць масавай работы парторганізацый.

Узрошыя задачы кіраўніцтва мас патрабуюць ад парторганізацыі ўзьняцьця на належную ступень партыйнай работы, павышэньня гэтым самым яе якасьці, разгортваньня ў першую чаргу партвыхаваўчай работы.

„Задача наша заключаецца ў тым, каб мы маглі на рабоце ячэек, на правядзеньні лёзунгаў партыі, на выхаваньні, на палітыцы—падымаць таварышоў са ступенькі на ступеньку і на аснове генэральнай лініі партыі ўтварыць той цэмант, аб які разьбіваюць свае ілбы любыя і ўсякія опортуністы і опозыцыянэры, якія прабуюць атакаваць партыю" (Кагановіч). Толькі на аснове марксысцка-ленінскай тэорыі, на аснове актыўнай практычнай работы, цалкам ахапляючай членаў і кандыдатаў партыі, можна выхоўваць пасьлядоўных, палітычна сьвядомых правадыроў, здольных павесьці масы ў барацьбу за выкананьне дырэктыў партыі, за яе генэральную лінію.

Задачы разгортваньня партвыхаваўчай работы тым больш ускладняюцца, калі улічыць, што ў КП(б)Б 22439 чал. кандыдатаў да агульнай колькасьці 6.035 (па матэрыялах на І/VІІ-32 г.)

членаў і кандыдатаў КП(б)Б. Гэты атрад новых папаўненьняў, маладыя члены КП(б)Б патрабуюць сыстэматычнага марксысцка-ленінскага выхаваньня.

Задачы павышэньня якасьці ўнутрыпартыйнай работы, асабліва такога яе вучастку, як партыйная асьвета, патрабуюць ад парторганізацый сыстэматычнага наладжваньня конкрэтна опэрацыйнага кіраўніцтва і гэтым самым узьняцьця яго на прынцыповую бальшавіцкую вышыню.

Асноўныя пытаньні ў галіне партыйнай вучобы, пропаганды марксысцка- ленінскай тэорыі, на якія трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу парторганізацый, якія павінны быць пастаўлены ў цэнтры ўвагі работы ячэек—гэта пытаньні якасьці партасьветы. Праз шырокае разгортваньне растлумачальнай работы, правільную організацыю сеткі партыйна-комсамольскай асьветы, праз забясьпечаньне яе найбольш падрыхтаванымі пропкадрамі, праз наладжваньне гэтых вучасткаў работы — да ўзьняцьця якасьці пропаганды марксызму-ленінізму на адпаведную вышыню.

Якія недахопы наглядаліся ў гэтай рабоце і што трэба зрабіць, каб у надыходзячы асеньня-зімовы пэрыод не паўтараць іх?

I. Растлумачальную работу па пытаньнях партпропаганды, як паказвае практыка мінулых год, мы праводзілі па-кампанейску, сэзонна.

Набліжаецца, прыкладна асеньня-зімовая работа сеткі партасьветы, яе організацыя і камплектаваньне—праводзім работу. Пасьля гэтай кампаніі і растлумачальная работа спыняецца. Чакаем пераходу на летнія формы работы, або разгортваем яе (растлумачальную работу), калі сетка партасьветы праваліваецца.

Партячэйкі ня ставілі сабе, як правіла, таго палажэньня, што гэта работа павінна праводзіцца сыстэматычна, што трэба праз спэцыяльныя сходы, політдні, групавой і індывідуальнай агітацыяй сыстэматычна, на конкрэтных прыкладах соцбудаўніцтва барацьбы за генэральную лінію партыі, паказваць масам комуністаў, комсамольцаў, рабочым і працоўным, што толькі на аснове марксысцка-ленінскай тэорыі магчыма правільнае вырашэньне проблемы соцбудаўніцтва пасьпяховае наступленьне па ўсім фронце, пасьпяховая барацьба з опортуністычнымі ўхіламі ад генэральнай лініі партыі.

Мала таго, трэба не перад пачаткам вучобы, а сыстэматычна скарыстоўваць такія віды пропаганды за марксызм-ленінізм, як лёзунгі, плякаты, наглядныя паказальнікі і асабліва ўсе віды пэрыодычнага друку.

Апошні, да рэчы кажучы, вельмі неакуратна намі скарыстоўваецца. Мы яго, пачынаючы ад цэнтральнага і канчаючы нізавым (насьценгазэты і т. д.), мобілізуем таксама па кампанейску на гэту справу. Напісалі перадавіцу, пару падборак далі спачатку навучальнага году і—з трыбуны, як гаворыцца, далоў. Няма таго, каб сыстэматычна з дня ў дзень паказваць якое значэньне тэорыі надаваў Ленін, як трэба весьці растлумачальную работу. Газэты не распаўсюджваюць узораў работы ў гэтай галіне, не дапамагаюць партыйным і камсамольскім ячэйкам у наладжваньні

сыстэматычнай растлумачальнай работы.

Зьнішчыць, такім чынам, недахопы ў справе растлумачальнай работы, гэта значыць праводзіць яе сыстэматычна праз усе віды і формы нашай работы. Гэта значыць работу ўскладаць ня толькі на культпропа, пропагандыста, а ўсімі сіламі ячэйкі, цалкам усей парторганізацыі ўзяцца за работу, організуючы яе праз праверку выкананьня дырэктыў партыі ў гэтай галіне.

II. Пытаньні організацыі сеткі партасьветы. Асноўныя недахопы ў гэтай частцы работы зводзяцца да таго, што мы без асаблівага ўліку запатрабаваньняў організуем тыя або іншыя віды партвучобы і потым укомплектоўваем іх бяз уліку асаблівасьцяй розных груп комуністаў і працоўных.

Чаму, прыкладна, у мінулым годзе развалілася сетка партасьветы на прамысловасьці ў Барысаве, чаму парторганізацыі транспорту ніяк ня могуць справіцца з такім пытаньнем, як ахоп партвучобай такіх груп рабочых, як паравозьнікі, кондуктары і інш.?

А таму, што ў Барысаве вызначылі дні партвучобы бяз усякай орыентацыі на тое, што большасьць прадпрыемстваў працуе ў тры зьмены, г. зн. з 4-ма зьменамі рабочых. Не захацелі паламаць галовы над пытаньнем — як лепш улічыць вытворча-бытавыя ўмовы рабочых.

Пропгрупа ЦК КП(б)Б на Аршанскім чыгуначным вузьле змагла організаваць работу партшкол з паравозных і кондуктарскіх брыгад па прасьцейшай прычыне—яна організавала работу ў школах па графіках работы асноўных груп гэтых рабочых. Пропгрупа паставіла так работу, што калі-б ня прыехала тая ці іншая брыгада на працягу трох-чатырох дзён, школа ўсёроўна забясьпечвае прапрацоўку чарговай тэмы.

Або ўзяць другую групу пытаньняў організацыі работы школ—гэта комплектаваньне. Тут па пытаньнях дыфэрынцыяванага падыходу пры комплектаваньні мы пакуль толькі гаворым, а на справе працягваем старынку.

Агульную пісьменнасьць, палітразьвітасьць, асаблівыя бытавыя ўмовы і г. д. мы пакуль у большасьці ўлічваем толькі на паперы. Ды і на паперы гэтага малавата. На прадпрыемствах таго-ж Барысаву, у Віцебску на чыгунцы і т. д. у парткомах ня ведаюць дакладна нават агульнай пісьменнасьці партыйцаў. Ну, а цэх'ячэйка на гэтую справу не рэагавала. Які-ж тут можа быць улік асаблівасьцяй паасобных груп комуністаў, рабочых і т. д. Так, на „глазок" прыкідаем і комплектуем школы, гурткі.

Нарэшце, пытаньні пропкадраў. Возьмем любую, бяз выбару, парторганізацыю і запытаем, як справа з пропагандыстамі. Атрымаем адказ „дрэнна". А чаму?

Па-першае, таму, што кожны год падбіраем новых пропагандыстаў. Па-другое, што падбіраемых не падрыхтоўваем да працы. Па-трэцяе, таму, што не ствараем умоў для самастойнай іх работы і т. д. і т. д.

Разьвязаць пытаньне зможам пры ўмове, калі стабілізуем склад пропагандыстаў хаця на 1-2 гады, калі спынім сыстэматычныя перакідкі іх на другую работу, калі нагрузку — пропогандыст — будзем лічыць асноўнай, адказь-

нейшай нагрузкай, калі грунтоўна замацуем на пропрабоце сталыя кадры партактыву. Разьвяжам пытаньне пры ўмове, калі забясьпечым пропагандыста неабходнымі ўмовамі работы—дамо магчымасьць рыхтавацца, забясьпечым конкрэтна опэрацыйным кіраўніцтвам (пропсэмінар, консультацыя, інструктаж на рабоце ў школе і т. д.) Пытаньне пропкадраў вырашым, нарэшце, пры ўмове, калі возьмем цьвёрды курс на падрыхтоўку іх з рабочых, колгасьнікаў-комуністаў.

Трэба кіравацца ў гэтай справе тым палажэньнем, што пропагандыст у школе, гуртку—гэта галоўнае і што ніякія програмы, ні нават падручнікі ня выправяць дапускаемых пропагандыстам памылак. Часта парт'ячэйкі апошняга палажэньня недаацэньваюць. Справу бальшавіцкага выхаваньня даручаем такім пропагандыстам, якіх проста ня ведаюць і ў дадатак да гэтага, ня цікавяцца, як сьлед іх работай.

Павысіць якасьць кіраўніцтва—гэта значыць зьнішчыць паказаныя вышэй недахопы.

Цэнтральны лёзунг у кіраўніцтве партвыхаваўчай работай павінен быць—па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць.

---

# Заданьні і мэтодычныя дапаможнікі

*Плян правядзеньня заняткаў па пытаньнях верасьнеўскага пленуму ЦК УсеКП(б) у масавай сетцы партыйнай асьветы*

ТЭМА I

## АБ РАЗГОРТВАНЬНІ САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ І ВЫТВАРЭНЬНІ ПРАДМЕТАЎ ШЫРСПАЖЫВУ

### I. ПРЫРОДА САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ

1. Савецкі гандаль як „адзіна магчымая эканомічная сувязь паміж дзесяткамі мільёнаў дробных землеробаў і буйнай соцыялістычнай прамысловасьцю“ (Ленін).

2. Гандаль як адна з форм пляваваньня ў руках дыктатуры пролетарыяту.

3. Гандаль як форма клясавай барацьбы (дыктатуры пролетарыяту супроць капіталістычных элемэнтаў).

4. Савецкі гандаль як адна з зброй пабудовы бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

5. Дваісты характар савецкага гандлю.

6. Савецкі гандаль як адна з зброй палепшаньня матэрыяльнага становішча працоўных.

7. Апартуністычная установка у пытаньнях аб двaістай прыродзе савецкага гандлю правых опортуністаў.

8. Контррэволюцыйнае адмаўленьне соцыялістычнага значэньня савецкага гандлю трацкістамі.

### II. ЗНАЧЭНЬНЕ САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ НА РОЗНЫХ ЭТАПАХ НЭПУ

1. Сутнасьць гандлёвай формы змычкі ў аднаўлечы пэрыод нэпу.

2. Савецкі гандаль як сродак абслугоўваньня вытворчых форм змычкі ў рэконструкцыйны пэрыод.

3. Рост значэньня савецкага гандлю на апошнім этапе нэпу ў сувязі з ліквідацыяй прыватніка.

4. Разгортваньне савецкага гандлю як адна з форм барацьбы за выкананьне нашых вытворчых плянаў.

5. Формы савецкага гандлю на сучасным этапе нэпу.

### III. ПОСЬПЕХІ, ДАСЯГНУТЫЯ ПАРТЫЯЙ У РАЗГОРТВАНЬНІ САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ

1. Рост гандлёвай сеткі.

2. Паскарэньне тавараабароту

3. Скарачэньне фондаў па-за-рынычнага спажываньня.

4. Разгортваньне гандлю колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян.

5. Павялічэньне таварных мас на рынку.

6. Разгортваньне сеткі міжраённых таварных баз з мэтай палепшаньня організацыі сыстэмы таварапрасоўваньня.

7. Павялічэньне завозу тавараў на вёску.

## IV. НЕДАХОПЫ Ў РАБОЦЕ ГАНДЛЮЮЧЫХ ОРГАНІЗАЦЫЙ

1. Наяўнасьць фактаў затавараваньня ў адных мясцох пры адсутнасьці тавараў у другіх.

2. Ня зжыта практыка мэханічнага разьмеркаваньня тавараў у рабоце раду тавараправодзячых організацый.

3. Паслабленьне дысцыпліны ў правядзеньні дзяржаўнай політыкі цэн.

4. Рост выдаткаў абароту ў гандлёвым апараце.

5. Засьмечанасьць кадраў гандлёвага апарату клясава-варожымі элемэнтамі.

6. Ня зжыта шкодная практыка лішняга браніраваньня прамтавараў.

7. Нездавальняючае разьмяшчэньне гандлёвай сеткі.

8. Невысокая якасьць работы гандлёвых міжраённых баз.

9. Недастатковы ўдзел усёй масы колгасаў і колгасьнікаў у колгасным гандлі.

10. Слабае разгортваньне сустрэчнага гандлю прамтаварамі на колгасных рынках.

11. Недастатковая барацьба з перакупшчыкамі і спэкулянтамі, якія спрабуюць нажыцца на колгасным гандлі.

## V. МЕРАПРЫЕМСТВЫ ДА ПАЛЕПШАНЬНЯ СПРАВЫ РАЗГОРТВАНЬНЯ САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ

1. Палепшыць разьмяшчэньне гандлёвай сеткі ў рабочых раёнах і пашырыць яе на вёсцы.

2. Павысіць значэньне гандлёвых баз у справе палепшаньня якасьці работы нізавых гандлюючых організацый.

3. Зжыць недахопы ў разгортваньні колгаснага гандлю.

4. Павысіць значэньне дэцэнтралізаваных загатовак коопэрацыі і самазагатовак прадуктовых баз прадпрыемстваў, асабліва ў глыбінцы.

5. З мэтай зьніжэньня цэн на колгасных базарах, палепшыць работу конвэнцыйных бюро.

6. Умацаваць організацыйна-гаспадарчае становішча сельскіх спажывецкіх таварystваў.

7. Перамагчы пагардлівыя адносіны некаторых членаў партыі і паасобных організацый да гандлёвай работы.

8. Умацаваць кадры гандлёвага апарату.

9. Выкараніць усялякія праявы „нэпманскага духу“ ў рабоце коопэрацыі.

## VI. ЗАДАЧЫ Ў СПРАВЕ РАЗГОРТВАНЬНЯ ВЫТВАРЭНЬНЯ ПРАДМЕТАЎ ШЫРОКАГА СПАЖЫВАНЬНЯ

1. Значэньне гэтага мерапрыемства для:

а) палепшаньня матэрыяльнага становішча працоўных;

б) больш рацыянальнага скарыстаньня адходаў вытворчасьці.

2. Значэньне разгортваньня шырпатрэбу як органічнай часткі задачы разгортваньня савецкага гандлю.

3. Мерапрыемствы партыі:

а) пявялічэньне вытворчай праграмы прадметаў шырспажыву на 1932 г.;

б) організацыя пры прадпрыемствах уцільцэхаў;

в) організацыя спэцыяльнага сэктару па шырспажыву ў сыстэме Наркомцяжпрому.

4. Ажыцьцяўленьне мерапрыемстваў партыі праходзіць нездавальняюча:

а) выкананьне програмы вытварэньня шырспажыву па Наркомлёгпрому ўсяго толькі на 38,4 проц;

б) нездавальняючая якасьць вырабаў;

в) прычыны невыкананьня пастаноў ЦК.

5. Мерапрыемствы, намечаныя пленумам ЦК, накіраваныя да ўстараненьня недахопаў у вытварэньні прадметаў шырспажыву.

## VII. ПРАВАОПОРТУНІСТЫЧНЫЯ І „ЛЕВАЦКІЯ“ СКАЖЭНЬНІ Ў ПЫТАНЬНЯХ РАЗГОРТВАНЬНЯ САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ І ВЫТВАРЭНЬНЯ ПРАДМЕТАЎ ШЫРСПАЖЫВУ

1. „Левацкая“ недаацэнка значэньня савецкага гандлю на сучасным этапе нэпу.

2. „Левацкая“ недаацэнка гандлёвых форм змычкі з працоўным сялянствам.

3. Правапортуністычны самацёк у рабоце некаторых організацый па разгортваньні колгаснага гандлю і вытварэньні тавараў шырспажыву.

4. Праваопортуністычнае супраціўленьне правядзеньню дзяржаўнай політыкі цэн.

5. Спробы „левацкага“ адміністраваньня ў пытаньні аб цэнах.

6. „Лявацкія“ спробы замены нормальнага тавараабароту мэханічным разьмеркаваньнем тавараў.

7. Спробы правых і „левакоў“ вытлумачыць політыку партыі па разгортваньні савецкага гандлю як „адступленьне“ і „політычны зыгзаг“.

8. Праваопортуністычны „нэпманскі дух“ у рабоце некаторых гандлюючых організацый.

## VIII. КЛЯСАВАЯ БАРАЦЬБА ВАКОЛ ПЫТАНЬНЯЎ САВЕЦКАГА ГАНДЛЮ.

1. Спробы спэкулянтаў і перакупшчыкаў сарваць савецкую політыку цэн.

2. Раскраданьні і злоўжываньні ў гандлёвым апараце як адзін з мэтодаў клясавага ворага.

3. Спэкуляцыйныя спробы разбазарваньня збожжа да сканчэньня збожжазагатовак.

4. Неабходнасьць самай бязьлітаснай барацьбы са спробамі кулака, спэкулянта і перакупшчыка нажыцца на савецкім гандлі.

## РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ.

Рэзолюцыі пленуму ЦК Усе КП(б) аб савецкім гандлі і шырспажыву.

Перадавыя артыкулы ў „Праўдзе“ ад 30 верасьня і 6 кастрычніка і ў „Известиях“ ад 2 і 4 кастрычніка.

Перадавая „Зьвязды“ ад 3 кастрычніка.

Артыкул т. Рыскіна ў „Бальшавіку Беларусі“ № 11-12 за 1932г.

ДАДАТКОВАЯ ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Зборнік „За разгорнуты савецкі гандаль".

Артыкул Гатоўскага ў „Проблемах экономики" № 7—8 за 1931 г.

Артыкул Гатоўскага ў „Большевике" № 11 за 1931 г.

Артыкул Носава ў „Проблемах экономики" № 10—12 за 1931 г.

Артыкул Гатоўскага і іншых у „Проблемах экономики" № 1 за 1932 г.

Артыкул Саркіса ў „Большевике" № 9 за 1932 г.

Перадавая „Большевика" № 10 за 1932 г.

Якаўлеў аб арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў і разгортваньні савецкага гандлю.

Артыкул Зеленскага ў „Большевике" № 11—12 за 1932 г.

## ТЭМА II

# АБ ЧОРНАЙ МЭТАЛЮРГІІ

„Задачы тэхвічнага ўзбраеньня сельскай гаспадаркі хуткага разьвіцьця і пераабсталяваньня транспорту, умацаваньня абароны краіны і разьвіцьця машына-будаўнічай прамысловасьці, ня могуць быць вырашаны бяз рэзкага павялічэньня выплаўкі мэталяў і фарсаваньня будаўніцтва новых заводаў і цэхаў" (з пастаноў пленуму).

### I. ЦЯЖКАЯ ПРАМЫСЛОВАСЬЦЬ—МАГУТНАЯ БАЗА СОЦЫЯЛІЗМУ.

1. Соцыялістычная буйная машынная індустрыя—уласная база для завяршэньня рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі.

2. XVI зьезд партыі аб фарсаваным разгортваньні цяжкай прамысловасьці як асноўнай базы соцыялістычнага будаўніцтва (чорная і каляровая мэталюргія, вытворчасьць электрычнай энэргіі, паліва, машынабудаўніцтва, хімія).

3. Чорная мэталюргія—важнейшая і вядучая галіна соцыялістычнай прамысловасьці.

4. Буйнейшыя посьпехі ў разьвіцьці чорнай мэталюргіі з часу XVI зьезду.

а) Стварэньне нанава, на аснове перадавой тэхнікі, коксавай прамысловасьці.

б) Поўнае аднаўленьне паветрадуўнай гаспадаркі на дзеючых заводах Поўдня і моцнае прасоўваньне наперад іх глыбокай рэконструкцыі.

в) Пачатак рэконструкцыі раду заводаў на Урале і перавод іх на вытворчасьць якаснага мэталю.

г) Разгорнута будаўніцтва новых мэталюргічных заводаў: Магнітагорскага, Кузьнецкага, Нова-Тагільскага, Запарожсталі, Азоўсталі, Крываrожскага і інш. Будаўніцтва раду новых трубных цэхаў і заводаў (Марыупаль, Таганрог, завод імя Лібкнэхта і т. д.).

д) Стварэньне ў буйным маштабе вытворчасьці якасных сталей для новых галін машынабудаўніцтва аўтотрактарнай, авіяцыйнай, інструментальнай і т. д.). Уласная вытворчасьць фэрраплаваў, якія раней выключна ўвозіліся з-за граніцы.

е) Рост продукцыі чорнай мэталюргіі па асноўных яе відах.

Продукцыя чорнай мэталюргіі за 8 месяцаў 1932 г. супроць адпаведнага пэрыоду 1931 г. вырасла на 22 проц.

з) Посьпехі ў разьвіцьці чорнай мэталюргіі забясьпечваюць закладваньне моцнага фундаманту новай магутнай вугальна-мэталюргічнай базы—Урала-Кузбаскага комбінату.

5. Цэнтральная задача прамысловага пляну, пастаўленае ХУІІ парткопфэрэнцыяй на 1932 год—выканаць вытворчую програму па чорнай мэталюргіі і бязумоўна перамагчы яе адставаньне.

6. Недастатковасьць посьпехаў у разьвіцьці чорнай мэталюргіі ў параўнаньні з задачамі, якія пастаўлены перад чорнай мэталюргіяй, ростам усёй гаспадаркі СССР. Зацьверджаны XVII парткопфэрэнцыяй плян 1932 г.—9 млн. *т* чыгуну, 9,5 млн. *т* сталі, 6,6 млн. *т* пракату,—ня выконваюцца.

## ІІ. ЧОРНАЯ МЭТАЛЮРГІЯ ПРАЦЯГВАЕ АДСТАВАЦЬ АД АГУЛЬНАГА ЎЗРОЎНЮ РАЗЬВІЦЬЦЯ ВЫТВОРЧЫХ СІЛ У КРАІНЕ

1. Адставаньне чорнай мэталюргіі ад агульнага разьвіцьця вытворчых сіл у краіне,—абмяжоўвае разьвіцьцё ўсяго машынабудаўніцтва, затрымлівае рэконструкцыю і тэмпы новага будаўніцтва на транспорце і ў сельскай гаспадарцы. Прарывы ў выкананьні якасных паказальнікаў пляну.

2. Галоўныя прычыны нездавальняючай работы чорнай мэталюргіі за апошнія часы:

а) Нездавальняючае гаспадарчае і адміністрацыйна-тэхнічнае кіраваньне з боку заводакіраўніцтва, аб'яднаньняў Наркомцяжпрому, якія не змаглі „зжыць элемэнты фармальнага кіраўніцтва і арганізаваць сапраўдную праверку выкананьня“, якія не змаглі „ў належнай ступені арганізаваць вытворчасьць і працу, супроцьставіць існуючым цяжкасьцям бальшавіцкі напор і арганізаванасьць“ (з пастановы пленуму).

б) Паслабленьне партыйна-масавай і профсаюзнай работы на заводах чорнай мэталюргіі, што прывяло да ўпадку працоўнай дысцыпліны, паслабленьня соцспаборніцтва і ўдарніцтва, паслабленьня ўвагі да штодзенных бытавых патрэб рабочых.

в) Роля транспортных цяжкасьцяй (перабоі ў дастаўцы руды, вугалю, вапняку, агняўпораў, будаўнічых матэрыялаў) у невыкананьні пляну па чорнай мэталюргіі.

## ІІІ. ДАЛЕЙШЫЯ МЕРАПРЫЕМСТВЫ ПА ЎЗЬНЯЦЬЦІ НА ВЫШЭЙШУЮ СТУПЕНЬ ВЯДУЧАГА ЗЬВЯНА ПРАМЫСЛОВАСЬЦІ—ЧОРНАЙ МЭТАЛЮРГІІ.

1. „Задача разьвіцьця чорнай мэталюргіі на бліжэйшыя гады: карэнная пераапрацоўка ўсёй тэхнічнай яе базы, пуск у ход раду вялізарнейшых у сьвеце заводаў, агрэгатаў, непарыўны ўздым яе продукцыі на мільёны тон чыгуну і пракату ў год“ (з пастановы пленуму).

2. Узмацненьне ўвагі да работы старых заводаў і далейшая барацьба за рацыяналізацыю іх работы, максымальную продукцыйнасьць дзеючага абсталяваньня,

ння, якое мае ў сябе значныя нескарыстоўваныя рэзэрвы і мэханізацыю працаёмкіх процэсаў.

3. Забясьпечаньне заводаў тэхнічнымі матэрыяламі, запаснымі часткамі, навейшым абсталяваньнем і меры барацьбы з аварыямі. Разгортваньне вытворчасьці абсталяваньня для заводаў чорнай мэталюргіі.

4 Узмацненьне тэхнічнага кіраўніцтва работай агрэгатаў, барацьбы за працоўную дысцыпліну і за ауладаньне ў найкарацейшы тэрмін тэхнікай вытворчага процэсу (новымі агрэгатамі, новабудоўляй і рэканструіруемых заводаў).

5. Далейшая рэконструкцыя і пуск новых гігантаў якаснай мэталюргіі.

6. Важнейшым зьвяном у транспортных перавозках павінны стаць грузы для бесьперабойнага забясьпечаньня мэталюргіі.

7. Адпаведная перабудова тэхнормаваньня, якое павінна стаць сапраўдным сродкам павышэньня прадукцыйнасьці працы.

8. Своечасовая і ў дастатковай колькасьці падрыхтоўка кваліфікаваных рабочых і інжынэраў для новых агрэгатаў. Асаблівая ўвага сярэдняму камскладу прадпрыемстваў.

9. Опэрацыйнасьць у кіраўніцтве прадпрыемствамі з боку дырэктароў, аснованая на глыбокім вывучэньні тэхнікі справы, работы цэхаў і агрэгатаў.

10. Выкананьне адказных задач, ускладаемых на чорную мэталюргію, забясьпечыць за СССР тэхніка-экономічную незалежнасьць, забясьпечыць выкананьне першай пяцігодкі і заваюе подступы да другой.

## IV. ПА-НОВАМУ ПРАЦАВАЦЬ, ПА-НОВАМУ КІРАВАЦЬ.

1. 6 умоў т. Сталіна як адзіная цэльная сыстэма мерапрыемстваў, забясьпечваючых пасьпяховае выкананьне плянаў чорнай мэталюргіі.

2. Барацьба за разгортваньне вытварэньня прадметаў шырокага спажываньня, рост матэрыяльна-культурнага ўзроўню рабочых чорнай мэталюргіі і палепшаньне іх жыльлёва-бытавых умоў.

3. Мобілізацыя ўзросшай актыўнасьці рабочых мэталюргаў і ўсёй рабочай клясы на барацьбу за бальшавіцкія тэмпы па выкананьні пляну.

4. Задача ўмацаваньня адзінаначальля і адказнасьці, барацьба з безгаспадарчасьцю і бюрократычнымі скажэньнямі ў кіраўніцтве.

5. Партыйна-масавую работу— у цэнтр увагі парторганізацыі чорнай мэталюргіі. Мобілізацыя ўсёй партыі на гэту адказьнейшую задачу

6. Непрымірымая барацьба на два фронты — супроць правага ўхілу як галоўнаю небясьпекі і „левых" опортуністаў, супроць прымірэнцтва да іх, за генэральную лінію партыі—асноўная ўмова пасьпяховай барацьбы за выкананьне плянаў, пастаўленых пленумам ЦК УсеКП(б)

ЛІТАРАТУРА


Рэзолюцыя XVI зьезду УсеКП(б) па справаздачы ЦК, разьдз. II, аб выкананьні пяцігадовага пляну.

Арджанікідзе—Вынікі разьвіцьця прамысловасьці за 1931 г. і задачы 1932 г.

Рэзолюцыя на XVII партконфэрэнцыі, па дакладу т. Арджанікідзе.

Дырэктывы па складаньні другой пяцігодкі ў СССР і БССР.

Рэзолюцыя пленуму ЦК УсеКП(б)—аб чорнай мэталюргіі.

„Праўда"—перадавая ад 3 кастрычніка

# ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫЯ КРАІНЫ—АСНОЎНЫ ВАГАР СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА.

*(Заданьне для школ кандыдатаў партыі)*

## МЭТАВАЯ ЎСТАНОЎКА ДА ТЭМЫ:

Вывучэньне гэтай тэмы мае сваёй мэтай усваеньне значэньня і сутнасьці палітыкі соцыялістычнай індустрыялізацыі, якая зьяўляецца асноўным выразьнікам генэральнай лініі партыі. Побач з асьвятленьнем сутнасьці і значэньня індустрыялізацыі для соцыялістычнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі СССР і БССР, трэба ўсвоіць прычыны, якія выклікаюць неабходнасьць і рэальнасьць шпаркіх тэмпаў індустрыялізацыі, іх крыніцы. На гэтай падставе ўскрыецца клясавая варожасьць шкодніцкіх, праваопортуністычных і контррэволюцыйных трацкісцкіх установак у пытаньнях індустрыялізацыі і тэмпаў яе разьвіцьця.

Усьвядоміўшы тэорыю соцыялістычнай індустрыялізацыі, важна зразумець значэньне першага пяцігадовага пляну, што выконваецца ў чатыры гады, ажыцьцяўленьне якога праходзіць у працэсе вострай клясавай барацьбы і што на падставе выкананьня пляну дадзена магчымасьць краіне з аграрнай ператварыцца ў індустрыяльную, уступіць у пэрыяд соцыялізму, пабудаваць фундамант соцыялістычнай экономікі, праводзіць ліквідацыю кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі, і завяршыць базу для тэхнічнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі.

Пры вывучэньні пяцігадовага пляну трэба ўскрыць спробы шкоднікаў трацкістаў, правых і „левых“ опортуністаў, якія імкнуцца сарваць яго выкананьне. Асаблівую ўвагу трэба зьвяртаць на значэньне ажыцьцяўленьня як пры выкананьні першага пяцігадовага пляну, так і пасьлядоўных плянаў, лёзунгу аб аўладаньні тэхнікай і шасьці гістарычных умоў т. Сталіна. Азнаёміўшыся з выкананьнем пяцігодкі лёгка асьвядоміць, што цяжкасьці сучаснага этапу зьяўляюцца цяжкасьцямі росту і іх перамога магчыма толькі на падставе ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі.

Асабліва ўсьвядоміць задачы завяршаючага году пяцігодкі—1932 г. і важнасьць іх ажыцьцяўленьня для выкананьня першай пяцігодкі ў чатыры гады і падрыхтоўкі да другой пяцігодкі. Таксама ўсьвядоміць рашаючае

значэньне разгортваньня савецка-колгаснага гандлю і вытворчасьці шырспажыву.

Вывучэньне задач у галіне індустрыялізацыі ў другой пяцігодцы павінны растлумачыць, што выкананьнем другога пяцігадовага пляну завяршыцца тэхнічная рэконструкцыя народнай гаспадаркі і канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул. Належыць усьвядоміць, што ажыцьцяўленьне гіганцкіх задач другой пяцігодкі будзе працякаць у працэсе жорсткай клясавай барацьбы, барацьбы супроць правага опортунізму—галоўнай небясьпекі на даным этапе, і „левага" апартунізму.

Пры прапрацоўцы гэтай тэмы неабходна асабліва зьвяртаць увагу на тое, што толькі ў краіне Саветаў, якая ажыцьцяўляе ленінскую нацыянальную політыку, магчыма ператварэньне адсталааграрнай краіны ў краіну індустрыяльную.

## МЭТОДЫЧНЫЯ УКАЗАНЬНІ ДА ВЫВУЧЭНЬНЯ ТЭМЫ

Тэма разьбіта на 6 разьдзелаў такім чынам, што вывучэньне аднаго разьдзелу падрыхтоўвае да ўсваеньня слухачамі наступнага разьдзелу.

Прапрацоўка тэмы павінна весьціся асобна па разьдзелах. Уводныя лекцыі таксама пажадана чытаць па разьдзелах. Пры адсутнасьці дастатковага часу прапрацоўку можна падзяліць на тры часткі, па два разьдзелы разам.

Прапанаваны ніжэй рабочы матэрыял зьяўляецца мінімумам, які павінен прапрацаваць кожны слухач для азнаямленьня з поглядамі Леніна, Сталіна па пытаньнях індустрыялізацыі.

## ПЛЯН ТЭМЫ

### I. ЗНАЧЭНЬНЕ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ І ТЭМПЫ

1. Сутнасьць індустрыялізацыі. Індустрыялізацыя СССР—соцыялістычная індустрыялізацыя. Індустрыялізацыя--вядучае зьвяно ў перабудове ўсёй народнай гаспадаркі на соцыялістычных падставах. Роля індустрыялізацыі ў соцрэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Індустрыялізацыя і эканомічная незалежнасьць. Індустрыялізацыя і ўзмацненьне абароназдольнасьці краіны. Роля індустрыялізацыі ў разьвіцьці нацыянальных рэспублік, у прыватнасьці БССР.

2. Тэмпы індустрыялізацыі. Неабходнасьць шпаркіх тэмпаў індустрыялізацыі. Тэмпы індустрыялізацыі і проблема „дагнаць і перагнаць". Тэмпы індустрыялізацыі і соцыялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі.

3. Крыніцы, якія даюць нам магчымасьць разьвіваць тэмпы індустрыялізацыі. Крытыка шкодніцкіх, праваопортуністычных і троцкісцкіх устаповак адносна тэмпаў індустрыялізацыі.

4. Тэмпы разьвіцьця нацыянальных рэспублік. Тэмпы разьвіцьця індустрыялізацыі БССР.

## II. ПЕРШЫ ПЯЦІГАДОВЫ ПЛЯН—ПРАКТЫЧНЫ ПЛЯН ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ СССР

### А. Пяцігодка ў чатыры гады

5. Першая пяцігодка як практычны плян стварэньня базы рэконструкцыі народнай гаспадаркі на аснове індустрыялізацыі. Шкоднікі, контр-рэволюцыйныя трацкісты і правыя опортуністы супроць першага пяцігадовага пляну.

6. Выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады. Перавыкананьне гадавых плянаў па капітальных укладах у прамысловасьць СССР і БССР і па выпуску валавой продукцыі. Выкананьне і перавыкананьне пяцігодкі ў два з паловай—тры гады па машынабудаўніцтву, электротэхнічнай прамысловасьці, нафце, гумовай прамысловасьці, па вырабу вагонаў, трактароў.

Перавыкананьне пяцігадовага пляну па мэталяпрамысловасьці, па швэйнай прамысловасьці БССР.

Пуск у ход раду індустрыяльных гігантаў.

Крах тэорыі шкоднікаў, к-р трацкістых і правых опортуністаў аб непасільнасьці ўзятых партыяй тэмпаў.

7. Электрыфікацыя — асноўнае зьвяно індустрыялізацыі. Плян ГОЭЛРО і адносіны да яго з боку ЛЕНІНА. Плян ГОЭЛРО—другая програма партыі. Трацкісты і правыя опортуністы супроць пляну ГОЭЛРО. СТАЛІН аб пляне ГОЭЛРО. Посьпехі ў галіне электрыфікацыі ў СССР і БССР.

8. Аўладаньне тэхнікай—рашаючае зьвяно СТАЛІН—аб тэхніцы. Посьпехі ў асваеньні новай тэхнікай і новых галін.

### Б. Географічнае разьмяшчэньне прамысловасьці і другая вугольна-мэталюргічная база.

9. Прынцыпы географічнага разьмяшчэньня соцыялістычнай прамысловасьці. Тав. СТАЛІН на XVI зьезьдзе партыі па пытаньні разьмяшчэньня прамысловасьці. Разьмяшчэньне прамысловасьці ў БССР.

10. Стварэньне другой вугольнамэталюргічнай базы: Урала-Кузьнецкі комбінат. Значэньне гэтай базы для разьвіцьця народнай гаспадаркі.

### В. Індустрыялізацыя і транспорт

11. Індустрыялізацыя і транспорт. Неабходнасьць рэконструкцыі транспорту. Асноўныя задачы рэконструкцыі транспорту. Электрыфікацыя—асноўнае зьвяно рэконструкцыі транспорту.

12. Значэньне воднага транспорту, бязрэльсавага транспорту, паветранага транспорту.

13. Барацьба з абязьлічкай і ўраўнілаўкай і рацыяналізацыя на транспорце.

14. Выкананьне пляну па чыгуначным транспорце ў 1932 г. Задачы транспорту па правядзеньні асеньня-зімовых перавозак.

## III. УСТУПЛЕНЬНЕ СССР У ПЭРЫОД СОЦЫЯЛІЗМУ

15. Ператварэньне СССР з краіны аграрнай у краіну індустрыяльную. Перетварэньне БССР з краіны адстала-аграрнай, прыгнечанай царызмам, у краіну індустрыяльную.

16. Уступленьне ў пэрыод соцыялізму і завяршэньне пабудовы фундаманту соцыялістычнай экономікі. Вырашэньне проблемы

„хто каго“ унутры краіны поўнасьцю і беспаваротна ў карысьць соцыялізму ў горадзе і вёсцы.

17. Соцыялістычныя формы організацыі працы—соцспаборніцтва і ўдарніцтва—выражэньне энтузіязму найшырэйшых мас рабочай клясы і працоўнага сялянства. Барацьба за выкананьне шасьці гістарычных умоў т. СТАЛІНА.

18. Посьпехі індустрыялізацыі СССР—вынікі правільнай палітыкі партыі і няпрымірымай барацьбы на два фронты.

### IV. ЗАДАЧЫ ПА ПАЛЕПШАНЬНІ МАТЭРЫЯЛЬНАГА І КУЛЬТУРНАГА ЎЗРОЎНЮ РАБОЧЫХ МАС. РАЗГОРТВАНЬНЕ ТАВАРААБАРОТУ — ЦЭНТРАЛЬНАЯ ЗАДАЧА. ТРУДНАСЬЦІ РОСТУ

19. Рост матэрыяльнага і культурнага ўзроўню рабочых мас. Значны колькасны рост рабочай клясы і ліквідацыя беспрацоўя.

20. Разгортваньне тавараабароту на аснове савецка-колгаснага гандлю і прадметаў шырокага спажываньня. Іх значэньне для палепшаньня снабжэньня працоўных гораду і вёскі.

21. Разьвіцьцё лёгкай індустрыі і прамысловай коопэрацыі СССР і БССР. Перабудова align прамкоопэрацыі СССР і БССР. Задачы, укладзеныя на лёгкую індустрыю і прамкоопэрацыю па вытварэньні прадметаў шырспажыву. Ліпеньскі пленум (1932г.) ЦК і ЦКК КП(б)Б і верасьнёўскі пленум (1932 г.) ЦК УсеКП(б)Б аб разгортваньні савецкага гандлю і вытварэньні прадметаў шырокага спажываньня.

22. Труднасьці на сучасным этапе—труднасьці росту. Прычыны гэтых труднасьцяй. Труднасьці і клясавая барацьба. Ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі і соцыялістычная індустрыялізацыя і колектывізацыя — адзіны шлях да перамогі цяжкасьцяй.

### V. ЗАДАЧЫ ІНДУСТРЫЯЛІЗАЦЫІ Ў 1932 г

23. Задачы індустрыялізацыі ў 1932 г.—завяршаючым годзе пяцігодкі.

Рашаючыя вучасткі прамысловасьці на 1932 г.: мэталь, вугаль, машынабудаўніцтва.

Задачы прамысловасьці ў БССР у 1932 годзе.

### VI. ГАСПАДАРЧЫЯ ЗАДАЧЫ ДРУГОЙ ПЯЦІГОДКІ

24. Асноўная палітычная задача—канчатковая ліквідацыя капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул і асноўная гаспадарчая задача другой пяцігодкі — завяршэньне тэхнічнай рэконструкцыі народнай гаспадаркі і стварэньне бясклясавага грамадзтва.

25. Вядучая роля машынабудаўніцтва ў пляне другой пяцігодкі. Стварэньне навейшай энэргетычнай базы. Поўная электрыфікацыя прамысловасьці. Электрыфікацыя транспорту. Укараненьне электрыфікацыі ў процэсы сельскагаспадарчай вытворчасьці. Паліўная база электрыфікацыі.

26. Географічнае разьмяшчэньне прамысловасьці ў другой пяцігодцы. Шпаркі рост соцыялістычнай гаспадаркі нацыянальных рэспублік у другой пяцігодцы. Рост соцыялістычнай гаспадаркі БССР у другой пяцігодцы.

27. Разьвіцьцё мэталюргічнай (чорнай і каляровай) прамысловасьці ў другой пяцігодцы. Хімі-

зацыя краіны. Разьвіцьцё хімічнай прамысловасьці БССР. Транспорт у другой пяцігодцы.

28. Завяршэньне мэханізацыі сельскай гаспадаркі. Роля МТС у гэтай мэханізацыі.

29. Павялічэньне снабжэньня насельніцтва прамысловымі і харчовымі таварамі ня мянш, чым у 2-3 разы супроць канца першай пяцігодкі. Задачы цяжкай, лёгкай, харчовай прамысловасьці і саматужнай коопэрацыі ў СССР і БССР у выкананьні гэтай задачы. Разгортваньне тавараабароту ў другой пяцігодцы.

30. Вырашэньне проблемы „дагнаць і перагнаць", перадавыя капіталістычныя краіны ў другой пяцігодцы па розных галінах прамысловасьці. Рост соцыялістычнай індустрыялізацыі канчаткова забясьпечвае за СССР эканомічную незалежнасьць.

31. Рашаючыя задачы соцыялістычнага будаўніцтва на даным этапе: палепшаньне конкрэтнага кіраўніцтва партыйных, савецкіх і профсаюзных арганізацый; клясавая барацьба з рэшткамі і перажыткамі капіталізму: рвацкімі тэндэнцыямі, дробнабуржуазнай ураўнілаўкай і абязьлічкай; падняцьце продукцыйнасьці працы; барацьба за комуністычныя адносіны да працы.

32. Задачы профсаюзаў у барацьбе за падвышэньне продукцыйнасьці працы. IX зьезд профсаюзаў, аб перабудове работы профсаюзаў. Перабудова работы профсаюзаў БССР.

33. Барацьба супроць правага опортунізму як галоўнай небясьпекі на даным этапе і „левага" опортунізму, дапамагаючага праваму опортунізму, і з прымірэнцвам да іх—адзін з галоўных залогаў перамогі ў другой пяцігодцы.

## РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

*Ленін,* Даклад Савету народных комісараў на VIII зьезьдзе саветаў, т. XVII выд. 1-е, або т. XXVI выд. 2 і 3-е.

*Ленін,* „Аб адзіным гаспадарчым пляне", т. XVIII, ч. I, выд. 1-е або т. XXVI выд. 2, 3-е.

*Сталін,* „Пытаньні ленінізму". „Аб індустрыялізацыі краіны і аб правым ухіле ва УсеКП(б)", разьдзел I, „Пытаньне аб тэмпе разьвіцьця індустрыі".

*Сталін,* Палітычная справаздача Цэнтральнага комітэту XVI зьезду УсеКП(б), разьдз. II.

*Сталін,* „Аб задачах гаспадарнікаў". Прамова на першай Усесаюзнай конфэрэнцыі работнікаў соцпрамысловасьці.

*Сталін,* „Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва" (аб 6 умовах).

*Молатаў*—даклад на XVII партконфэрэнцыі.

Рэзолюцыі (усе) XVII партконфэрэнцыі.

Рэзолюцыі верасьнёўскага пленуму (1932 г.) ЦК УсеКП(б) „Аб вырабе шырспажыву" і „Аб чорнай мэталюргіі".

*Шаранговіч*—Даклад ЦК XIV зьезду КП(б)Б.

*Галадзед*—Выступленьне па дакладах тт. Молатава і Куйбышава на XVII партконфэрэнцыі (гл. стэнографічную справаздачу XVII партконфэрэнцыі, стар. 247—250).

# РАБОЧЫ МАТЭРЫЯЛ ДЛЯ ВЫКЛАДЧЫКАЎ КАНДЫДАЦКІХ САЎПАРТШКОЛ

Матэрыял, які рэкомэндуецца слухачам

дадаткова:

*Ленін*, „Аб прадналогу“ (брошура), т. XVIII, ч. I, выд. 1-е, або т. XXVI, выд. 2 і 3-е.

*Ленін*, „Тактыка РКП“, т. XVIII, выд. I, стар. 305—311.

*Ленін*, —Прамова на II Усерасійскім зьезьдзе політпрасьветаў, т. XVIII, ч. I, выд. I.

*Ленін*, „Аб нашай рэволюцыі“, т. XVIII, ч. 2, выд. I або т. XXVI, выд. 2 і 3-е.

*Ленін*, „5 год расійскай рэволюцыі“, т. XVII, ч. 2, выд. I, або т. XXVII, выд., 2 і 3-е.

*Сталін*, Даклад і заключнае слова на XV Усесаюзнай партконфэрэнцыі.

*Сталін*, „Пытаньні ленінізму“. „Аб правым ухіле ва УсеКП(б)“, з прамовы на пленуме ЦК УсеКП(б) у красавіку 1929 г., разьдз. III п. „д“. „Аб тэмпе разьвіцьця індустрыі і новых формах змычкі“.

*Сталін*, „Пытаньні ленінізму“. „Год вялікага пералому“.

*Куйбышаў, Арджанікідзе*—даклады на XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі.

*Любімаў, Постышаў, Мікоян*—Выступленьні на XVII Усесаюзнай партконфэрэнцыі.

Пастанова СНК БССР і ЦК КП(б)Б аб перабудове сыстэмы прамысловай коопэрацыі БССР.

Рэзолюцыі сьнежаньскага (1931 г.) пленуму ЦК УсеКП(б).

Матэрыял XIV зьезду КП(б)Б.

---

ТЭМА:

# „СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЯ РЭКОНСТРУКЦЫЯ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ І ЗАДАЧЫ ОРГАНІЗАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎМАЦАВАНЬНЯ КОЛГАСАЎ"

*(заданьне для школ кандыдатаў партыі).*

## 1. ШЛЯХІ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПЕРАРОБКІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ

Два магчымых шляхі разьвіцьця селькай гаспадаркі: капіталістычны—шлях разарэньня, зьбядненьня і выміраньня дробных вытворцаў, побач з узбагачэньнем кучкі кулакоў, і соцыялістычны—шлях аб'яднаньня дробнасялянскіх гаспадарак у буйныя колектыўныя гаспадаркі і пазбаўленьня бядняцка-серадняцкіх мас вёскі ад кулацкай кабалы. „Колгасы зьяўляюцца адзіным сродкам, даючым сялянам выхад з нужды і цямноты" (Сталін).

Соцыялістычная пераробка дробнай сялянскай гаспадаркі пры дыктатуры пролетарыяту. Умовы гэтай пераробкі—нацыяналізацыя зямлі, магутнае разьвіцьцё соцыялістычнай індустрыі, няўхільная барацьба з кулацтвам, кіраўніцтва і дапамога пролетарскай дзяржавы.

Коопэратыўны плян Леніна. Этапы ажыцьцяўленьня партыяй ленінскага коопэратыўнага пляну ад коопэраваньня збыту і снабжэньня да коопэраваньня вытворчасьці. Суцэльная колектывізацыя і ліквідацыя на яе аснове кулацтва як клясы.

Няўнікнёнасьць адставаньня дробнай аднаасобнай гаспадаркі ад тэмпаў росту соцыялістычнай індустрыі ў сілу яго няздольнасьці да асваеньня новай тэхнікі, нізкай продукцыйнасьці працы і нізкай таварнасьці.

Індустрыялізацыя краіны—аснова соцыялістычнай рэконструкцыі селькай гаспадаркі. Рост сельскагаспадарчага машынабудаўніцтва, вытварэньне селькагаспадарчых угнаеньняў. Колектывізацыя — адна з асноўных умоў далейшага пасьпяховага разгортваньня соцыялістычнай індустрыі.

Колектывізацыя—шлях магутнай тэхнічнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. МТС як арганізацыйная форма гэтай рэконструкцыі, як вагар пролетарскага кіраўніцтва колгасным рухам. Саўгасы—становы хрыбет і вядучая сіла соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Саўгасы—школа вядзеньня буй-

най сельскай гаспадаркі для колгасаў. Магчымасьць вырашэньня зерневай, сыравіннай і жывёлагадоўчай проблем толькі на шляхох саўгаснага і колгаснага будаўніцтва. Вырашэньне зернавай проблемы. Задачы вырашэньня сыравіннай і жывёлагадоўчай проблемы. Адмаўленьне контррэволюцыйным трацкізмам магчымасьці социялістычнага шляху разьвіцьця сельскай гаспадаркі СССР. Праваопортуністычная тэорыя „самацёку“, „урастаньне кулака ў социялізм“. Левыя загібы ў колгасным будаўніцтве як адрыжка трацкізму. Бязьлітасная барацьба партыі з усякімі ўхіламі ад генэральнай лініі социялістычнага будаўніцтва, з правым ухілам як з галоўнай небясьпекай—важнейшая ўмова забясьпечаньня социялістычнага шляху разьвіцьця сельскай гаспадаркі.

## 2. УСЯСЬВЕТНА-ГІСТАРЫЧНЫЯ ПЕРАМОГІ РАБОЧАЙ КЛЯСЫ І КОЛГАСНАГА СЯЛЯНСТВА ПАД КІРАЎНІЦТВАМ ПАРТЫІ Ў СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭКОНСТРУКЦЫІ СЕЛЬСКАЙ ГАСПАДАРКІ.

„Вялікі пералом“ у разьвіцьці савецкай вёскі ў 1929 г.—паварот серадняка да социялізму. Падрыхтоўка гэтага пералому ўсёй папярэдняй палітыкай партыі, „усім ходам разьвіцьця нашай індустрыі, і перш за ўсё індустрыі дастаўляючай машыны і трактары для сельскай гаспадаркі“, палітыкай рашучай барацьбы з кулацтвам, разьвіцьцём сельскагаспадарчай коопэрацыі, вопытам старых колгасаў, сеткай узброеных новай тэхнікай саўгасаў.

Разьвіцьцё суцэльнай колектывізацыі. Пераход партыі ад палітыкі абмежаваньня і выцясьненьня капіталістычных элемэнтаў да палітыкі ліквідацыі кулацтва як клясы на базе суцэльнай колектывізацыі. Магчымасьць замены кулацкай таварнай вытворчасьці ўтварэньнем саўгасаў і колгасаў.

Нарастаньне тэмпаў колектывізацыі ў 1930 і 1931 гг. Завяршэньне ў 1931 г. суцэльнай колектывізацыі ў асноўных зерневых раёнах (Сярэдняя Волга, Ніжняя Волга, Паўночны Каўказ, Стэп і Леваўзьбярэжжа Украіны). Дырэктыва партыі аб завяршэньні ў асноўным суцэльнай колектывізацыі ў астатніх зерневых раёнах, а таксама і сыравінных раёнах Сярэдняй Азіі, Казакстану, Закаўказьзя, бураковых раёнах Украіны і ЦЧО. Дырэктыва партыі аб завяршэньні суцэльнай колектывізацыі ў асноўным у 1932-1933 гг.

Пératварэньне колгаснага сялянства ў цэнтральную фігуру земляробства, у асноўнага вытворцу продуктаў сельскай гаспадаркі, ператварэньне СССР на аснове колгасна-саўгаснага будаўніцтва ў краіну самага буйнага у сьвеце земляробства.

Карэнная зьмена ў суадносінах клясавых сіл у краіне ў выніку пасьпяховага разгортваньня колектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы. Колгаснае сялянства—новая сапраўдная і моцная апора савецкай улады ў вёсцы. Падрыў у корані клясавага расслаеньня і перамога масавай галечы ў вёсцы. Вырашэньне ленінскага пытаньня „хто каго?“ ня толькі ў горадзе, але і ў вёсцы. Завяршэньне пабудовы фунда-

манту соцыялістычнай экономікі. Канчатковы падрыў карэньняў капіталізму ў вёсцы.

Найвялікшыя перамогі колгаснага руху як рэзультат пасьлядоўнага бальшавіцкага правядзеньня генэральнай лініі партыі. Кіраўніцтва колектывізацыяй з боку Цэнтральнага комітэту на чале з т. Сталіным. Найвялікшая роля т. Сталіна як тэорэтыка марксызму-ленінізму, даўшага тэорэтычна распрацаваны плян разгорнутага соцыялістычнага наступленьня, правядзеньня суцэльнай ковлектывізацыі і ліквідацыі кулацтва як клясы.

Шалёнае супраціўленьне колектывізацыі з боку кулацкіх элемэнтаў і абвастрэньне клясавай барацьбы ў краіне. Правы опортунізм як агентура кулацтва ўнутры партыі. Барацьба правых супроць колектывізацыі і іх спроба сказіць коопэратыўны плян Леніна. Правы опортунізм—галоўная небясьпека на даным этапе. Праяўленьні „левага“ опортунізму ў перагібах вясны 1930 г. „Левыя“ загібшчыкі як пасобнікі правых опортуністаў. Далейшая непрымірымая барацьба з ухіламі на два фронты, і з прымірэнцтвам да іх з правым ухілам як з галоўнай небясьпекай — неабходная ўмова посьпехаў колектывізацыі.

## 3. ЧАРГОВЫЯ ЗАДАЧЫ ОРГАНІЗАЦЫЙНА-ГАСПАДАРЧАГА ЎМАЦАВАНЬНЯ КОЛГАСАЎ, БУДАЎНІЦТВА САУГАСАЎ І МТС

### Колгасы як тып гаспадаркі—адна з форм соцыялістычнай гаспадаркі

Антыленінскі характар спроб разьвянчаць колгасы, абвясьціць іх буржуазнай формай гаспадаркі. Адсутнасьць у колгасе клясы эксплёататараў і клясы эксплёатуемых. Адрозьненьне колгасаў ад прадпрыемстваў пасьлядоўна-соцыялістычнага тыпу. Наяўнасьць яшчэ супярэчнасьцяй у колгасах у выглядзе індывідуалістычных і нават кулацкіх перажыткаў, якія яшчэ не адпалі, але павінны адпасьці па меры ўмацаваньня колгасаў, па меры іх машынізацыі. Элемэнты клясавай барацьбы ў колгасах, карэнная розьніца паміж клясавай барацьбой на базе колгасаў і клясавай барацьбой па-за колгасамі.

Памылковасьць погляду, што члены колгасаў ужо ператварыліся ў соцыялістаў. Неабходнасьць соцыялістычнай пераробкі селяніна-колгасьніка і роля машынізацыі і трактарызацыі колгасаў. Найвялікшае значэньне колгасаў як вагара соцыялістычнага ператварэньня вёскі, базы для прымяненьня машын і трактараў, для пераробкі селяніна, для пераробкі яго псыхолёгіі ў духу пролетарскага соцыялізму. Значэньне і роля пролетарскага кіраўніцтва колгасным будаўніцтвам.

**Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў—цэнтральная задача колгаснага будаўніцтва.** Вялізарныя вытворчыя магчымасьці колгасаў і недастатковая іх рэалізацыя. Вялізарныя посьпехі колгасаў і наяўнасьць сур'ёзных недахопаў у іх гаспадарчай дзейнасьці. Задача барацьбы за падняцьце ўраджайнасьці ў колгасах. Неабходнасьць сугубай увагі ўвядзеньню культурнага севаабароту, ажыцьцяўленьню программы агротэхнічных мерапрыемстваў, правільнай паста-

ноўкі догляду за жывёлай, арганізацыі перапрацоўкі малочных продуктаў. Неабходна даваць рашучы адпор тэндэнцыям недаацэнкі ролі коннай цягі на данай стадыі колгаснага будаўніцтва і задача „спалучэньня трактара з канём на палявых работах“ (VI зьезд саветаў) [1]).

Барацьба за высокую продукцыйнасьць працы, за высокую таварнасьць—стрыжань арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і соцыялістычнага перавыхаваньня колгасных мас павінна стаяць у цэнтры ўвагі і ў другой пяцігодцы [2]).

Выдатная роля і адказнасьць машына-трактарных станцый ва ўсёй рабоце па арганізацыйна-гаспадарчым умацаваньні колгасаў. Неабходнасьць арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня саўгасаў на аснове ажыцьцяўленьня шасьці ўмоў т. Сталіна.

### Арцель—асноўная форма колгасаў на даным этапе

Недапушчальнасьць пераскокваньня праз арцельную стадыю колгаснага будаўніцтва. Неабходнасьць арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў у іх арцельнай форме. Адрозьненьне арцелі ад САЗ і сельскагаспадарчай камуны. Наяўнасьць у членаў арцелі, колгасьнікаў неаграмаджанай гаспадаркі. „Патрабаваць, каб сяляне, уступаючы ў арцель, безадкладна адмовіліся ад усякіх індывідуалістычных навыкаў і інтарэсаў, ад магчымасьц весьці дадатковую да аграмаджанай асабістую гаспадарку (каровы, авечкі, птушкі, прысядзібны гарод)... значыць забываць азбуку марксызму-ленінізму“ [1]).

Бязьлітасная барацьба з назіраемай у радзе раёнаў практыкай „... аграмаджаньня кароў і дробнай жывёлы ў паасобных колгасьнікаў фактычна прымусовымі спосабамі, што самым грубым чынам парушае неаднаразовыя ўказаньні ЦК партыі і статут сельскагаспадарчай арцелі...

Задача партыі заключаецца ў тым, каб у кожнага колгасьніка была свая карова, дробная жывёла, птушка. Далейшае пашырэньне і разьвіцьцё колгасных фэрм павінна ісьці толькі шляхам вырошчваньня фэрмамі маладняку або куплі імі жывёлы“ [2]).

Неабходнасьць дабіцца, каб кожны колгас прадугледзеў такую сяўбу кармовых культур, якія-б забясьпечвалі кармамі ня толькі статкі колгасных фэрм, але і жывёлу, што знаходзіцца ва ўласнасьці колгасьнікаў.

Задача рашучай барацьбы з парушэньнем неаднаразовых указаньняў партыі і ўраду аб тым, што гаспадарамі свайго колгасу зьяўляюцца самі колгасьнікі.

Задача рашучага выкарчоўваньня тых мэтодаў адміністраваньня ў адносінах колгасаў, якія (мэтоды) нічога агульнага з лініяй партыі ня маюць.

Недапушчальнасьць „саўгасізацыі“ колгасаў, увядзеньня грашовай зарплаты ў іх, неабходнасьць выбарнасьці ў колгаса

---

1) Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 27 мая 1932 г. „Аб захаваньні і разьвіцьці коңскага пагалоўя“.

2) З рэзолюцый XVII партконфэрэнцыі.

1) З рэзолюцый XVI зьезду ЎсеКП(б).

2) З пастановы ЦК УсеКП(б) ад 26 сакавіка 1932 г.

### Організацыя працы—асноўнае зьвяно організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 г. як важнейшая дырэктыва ў далейшай барацьбе за організацыйна - гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў. Неабходнасьць поўнага і разгорнутага ажыцьцяўленьня рашэньняў XVI зьезду УсеКП(б) і VI зьезду саветаў аб укараненьні зьдзельшчыны ў працаднёх і недапушчальнасць празьмернага ўскладненьня форм зьдзельшчыны. Зьдзельшчына і задача барацьбы за якасьць: складаньне вытворчых плянаў і іх значэньне для організацыйнага-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Колгасная брыгада—асноўнае зьвяно, ухапіўшыся за якое мы падымем колгасную вытворчасьць на новую вышыню. Організацыя пастаянных брыгад. Роля брыгадзіра. Прымяненьне шасьці ўмоў т. Сталіна з улікам сваясаблівасьці колгасаў—ключ да правільнай організацыі колгаснай вытворчасьці. Разгортваньне соцыялістычнага ўдарніцтва і спаборніцтва паміж брыгадамі і ўнутры брыгад.

### Новы закон аб сельгаспадатку як адзін з важнейшых вагароў організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў

Мобілізацыя сродкаў ва ўмовах соцыялістычнага будаўніцтва—адно з важнейшых сродкаў палепшаньня становішча шырокіх працоўных мас гораду і вёскі, сыстэматычнага росту продукцыйных сіл краіны, сродак пасkарэньня тавараабароту. Карэнная розьніца прыроды фінансавай політыкі пролетарскай дзяржавы ад фінансавай політыкі капіталістычных дзяржаў.

Значэньне закону аб сельгаспадатку ў справе ўмацаваньня колгасаў у іх сучаснай арцельнай стадыі, разьвіцьця зерневай гаспадаркі, жывёлагадоўлі, тэхнічных культур і т. д. Вялізарная роля закону ў разгортваньні колгаснага гандлю, льготы па сельска - гаспадарчым падатку. Прынцыпы разьмеркаваньня паступленьняў ад падатку. Клясавая сутнасьць новага закону, неабходнасьць цьвёрдай і пасьлядоўнай політыкі падатковага абкладаньня кулацтва.

Неабходнасьць рашучай барацьбы з опортуністычнымі скажэньнямі ў правядзеньні падатку.

### Разьвіцьцё колгаснага гандлю як важнейшы вагар організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў

Значэньне разьвіцьця тавараабароту паміж горадам і вёскай і роля колгаснага гандлю ў палепшаньні снабжэньня гарадзкога насельніцтва.

Рашэньні партыі і ўраду аб скарачэньні плянаў дзяржаўных загатовак збожжа і мяса ў колгасах і аднаасобным сэктары, з тым, каб шырэй разгарнуць гандаль колгасаў, колгасьнікаў і працоўных аднаасобнікаў. Павялічэньне пляну загатовак па саўгасах.

Правы, дадзеныя колгасам, колгасьнікам і аднаасобнікам працоўным—пры акуратным выкананьні імі сваіх абавязацельстваў

перад дзяржавай — бесьперашкодна прадаваць лішкі сваіх продуктаў на свой погляд па цэнах, што складаюцца на рынку.

Льготы, атрымліваемыя колгасамі, колгасьнікамі і аднаасобнікамі працоўнымі для разгортваньня гандлю вытвараемай імі сельскагаспадарчай продукцыяй.

Значэньне выхаду колгасаў на рынак у справе павялічэньня іх гаспадарчай самадзейнасьці, у справе зьніжэньня выдаткаў вытворчасьці, выяўленьня і рэалізацыі розных, да гэтага часу зусім не скарыстаных рэсурсаў. Пастановы ЦК і СНК і задача пасьпяховага завяршэньня пасеўнай кампаніі і правядзеньня ўборачнай кампаніі.

Задача спалучэньня мэтоду дзяржаўных загатовак з мэтодам гандлю колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобнікаў працоўных. Выкананьне колгасамі плянаў загатовак як непарыўная і важнейшая задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў і соцыялістычнага перавыхаваньня колгасьнікаў.

Важнейшая роля рашэньняў ЦК і СНК (у асаблівасьці ад 26 сакавіка і 10 мая) для пасьпяховага вырашэньня жывёлагадоўчай проблемы.

Недапушчальнасьць самацёку у справе разьвіцьця гандлю. Задача арганізаваць колгасны гандаль. Неабходнасьць разгортваньня колгасных базараў, крам, палатак, падрыхтоўкі тэхнічнай базы, арганізацыі дапамогі колгасьніку і аднаасобнаму працоўнаму. Задача рашучага выкарчаваньня прыватніка і перакупшчыка-спэкулянта, што спрабавалі нажыцца за кошт рабочых і сялян, задача працягваць рашучую барацьбу з кулацтвам яго агентурай унутры партыі—правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай.

Неабходнасьць барацьбы з „лявацкімі“ перагібамі, з опортуністычнымі скажэньнямі дырэктыў партыі і ўраду ў разгортваньні тавараабароту.

### Падбор і выхаваньне колгасных кадраў як адна з рашаючых ўмоў арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў

Задача навучаньня, вырошчваньня, вылучэньня кадраў з мясцовых сіл, у прыватнасьці з колгасьнікаў, як важнейшая палітычная задача. „Адна з самых выдатных заваёў колгаснага руху заключаецца ў тым, што ён ужо пасьпеў высунуць тысячы арганізатараў і дзесяткі тысяч агітатараў колгаснай справы з саміх сялян“ (Сталін).

„Пагардлівыя адносіны да штодзеннай работы па выхаваньні кадраў колгаснага будаўніцтва як выражэньне чыста „лявацкага“ адміністраваньня. Пастанова ЦК ад 4 лютага аб тым, „што падбор, брыгадзіраў, устараненьне цякучасьці іх складу і сапраўдная дапамога брыгадзірам у справе павышэньня іх гаспадарчай і палітычнай кваліфікацыі павінны стаць галоўнейшай задачай партыйных арганізацый“.

Пастанова ЦК ад 10 мая „Аб умацаваньні кіруючых кадраў колгасьнікаў“.

Пастанова ЦК ад 15 мая „Аб расстаноўцы партыйных і комсамольскіх сіл у колгасах і саўгасах“ як важнейшая ўмова ўма-

цаваньня колгаснай вытворчасьці і колгасных кадраў і сапраўднага аўладаньня комуністамі тэхнікай колгаснай і саўгаснай вытворчасьці.

### Арцель—школа социялістычнай гаспадаркі

„У арцелі не завяршаецца, а толькі пачынаецца справа стварэньня новай грамадзкай дысцыпліны, справа навучаньня сялян соцыялістычнаму будаўніцтву“.

Захаваньне клясавых розьніц паміж пролетарыятам і колгасным сялянствам. Захаваньне астаткаў дробнабуржуазнай псыхолёгіі ў колгасьнікаў. Перажыткі індывідуалістычных настрояў і ўласьніцкіх тэндэнцый і імкненьне кулацтва спэкуляваць на іх. Праяўленьне дробнабуржуазных тэндэнцый у організацыі колгаснай вытворчасьці—ядоцкая ўраўнілаўка, падзёншчына. Наяўнасьць элемэнтаў клясавай барацьбы ў колгасах. Рашучая розьніца яе ад клясавай барацьбы па-за колгасамі. Задача соцыялістычнага перавыхаваньня колгасьнікаў і сувязь яе з організацыйна гаспадарчым умацаваньнем колгасаў. Барацьба кулацтва супроць організацыйна - гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў.

### Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і клясавая барацьба

Асноўная стаўка кулацтва—на зрыў організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў, на ўкараненьне ў колгасы мэтодаў буржуазнага і дробнабуржуазнага гаспадараньня. Барацьба кулацтва супроць вытворчага прынцыпу пабудовы брыгад, супроць зьдзельшчыны, супроць правільнай пастаноўкі ўліку і справаздачнасьці, супроць соцыялістычнай плянавасьці колгаснай вытворчасьці, за безадказнасьць, за абязьлічку, за „свабоду“ і „равенства“ ў разьмеркаваньні працы, за ядоцкае разьмеркаваньне даходаў, за невыкананьне абавязацельстваў перад пролетарскай дзяржавай, за развал колгаснай вытворчасьці, за раскраданьне грамадзкай уласнасьці.

### Бязьлітасная барацьба як з правым, так і з „левым“ опортунізмам і з прымірэнцтвам да іх, за генэральную лінію нашай партыі як важнейшая ўмова далейшых посьпехаў соцыялістычнага будаўніцтва

Неабходнасьць барацьбы з опортуністычнымі скажэньнямі ў пытаньнях організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Барацьба з „лявацкай“ пагоняй за дутымі процантамі колектывізацыі, з імкненьнем пераскочыць праз арцельную форму разьвіцьця колгасаў у іх арцельнай форме, з фактычна прымусовым аграмаджаньнем кароў і дробнай жывёлы ў паасобных колгасьнікаў, з „левай“ фразай аб пераходзе да „продуктаабмену“ ужо на данай стадыі будаўніцтва соцыялізму, з супроцьдзеяньнем разгортваньню колгаснага гандлю.

Рашучая барацьба з праваопортуністычным супроцьстаўленьнем організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў задачы далейшага росту колектывізацыі,

з праваапортуністычнай ідэалізацыяй колгасаў і неразуменьнем неабходнасьці сацыялістычнага перавыхаваньня колгасьнікаў, з праваапортуністычнымі скажэньнямі прынцыпаў савецкага гандлю. Задача далейшага разгортваньня барацьбы з апортунізмам і асаблівa з правым ухілам як з галоўнай небясьпекай на даным этапе.

### Асноўныя дасягненьні і задачы ў справе соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі БССР

Посьпехі колгаснага будаўніцтва ў БССР як вынік бальшавіцкага кіраўніцтва ЦК КП(б)Б. КП(б)Б дабілася гэтых посьпехаў пад кіраўніцтвам і пры дапамозе ЦК КПБ(б) на аснове правільнага ажыцьцяўленьня генэральнай лініі партыі, ва ўмовах абвостранай клясавай барацьбы з клясавым ворагам і яго агентурай—правымі і „левымі“ апортуністамі. Посьпехі БССР у галіне спэцыялізацыі і таварнасьці саўгасаў, колгасаў, разьвіцьця малочнай жывёлагадоўлі, сьвінагадоўлі, тэхнічных культур: лёну і каноплі. Рост засеўных плошчаў на базе колгасаў і саўгасаў па засеву важнейшых вядучых культур (караньплодаў, ільну, гародніны). Уборачная кампанія 1932 г. і ход загатоўчай кампаніі.

Задача арганізацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў ва ўмовах Беларусі. Неабходнасьць барацьбы „з усякімі праявамі пасьпешнасьці ў колгасным руху, пагоні за дутымі процантамі пад відам хутчэйшага сканчэньня суцэльнай колектывізацыі“. Неабходнасьць „ ...весьці ўпартую і настойлівую барацьбу па ўцягненьні бяднейшых аднаасобных сялянскіх гаспадарак у колгасы як шляхам барацьбы з кулацтвам, так і шляхам узорнай пастаноўкі справы ў колгасах“.

Неабходнасьць рашучай барацьбы з праявамі кулацка-рвацкай тэндэнцыі і праваапортуністычнай практыкі асобных колгасаў Беларусі. Неабходнасьць максымальнай увагі пытаньням малочна-жывёлагадоўчай гаспадаркі ў галіне пастаноўкі правільнага догляду за жывёлай, павялічэньня таварнасьці, удою малака і т. д.

Спэцыялізацыя Беларусі як аснова соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі. Карта спэцыялізацыі. Савецкая Беларусь зьяўляецца краінай жывёлагадоўлі і тэхнічных культур. Павышэньне адноснай вагі БССР у росьце жывёлагадоўлі па Савецкім Саюзе. Проблема комплектаваньня малочнага і сьвінога стада; стварэньне для іх кармовай базы шляхам разьвіцьця травасеяньня, натуральных і штучных паш, увядзеньня сілосных культур, караньплодаў. Забясьпечаньне стада моцнымі кармамі як умова рэзкага павышэньня яго вытворчасьці. Будаўніцтва жывёлагадоўчых і сьвінагадоўчых саўгасаў, колгасных малочна-таварных фэрм, сьвінатаварных фэрм, фэрм вырошчваньня маладняка.

1932 г. павінен быць рашаючым у сэнсе ўзьняцьця жывёлагадоўлі БССР да ўзроўню патрабаваньняў, якія прад'яўляюцца ўсім соцыялістычным будаўніцтвам. Задача ў 1932—1933 г-г. у два-тры разы павялічыць ураджайнасьць і палепшыць якасьць продукцыі

тэхнічніх культур па БССР. Будаўніцтва новых саўгасаў, машына-трактарных станцый і жывёлагадоўчых фэрм.

Пэрспэктывы сельскай гаспадаркі Беларусі ў другой пяцігодцы. Тэхнічная рэконструкцыя социялістычнага зямляробства і частковая яе электрыфікацыя, поўны ахоп колгасаў машына-трактарнымі станцыямі. Непасрэдная змычка кожнага саўгасу і МТС з навучальнымі ўстановамі. Уздым вытворчасьці сельска-гаспадарчай працы да ўзроўню прамысловага. Ліквідацыя астаткаў капіталістычных элемэнтаў у вёсцы, зьнішчэньне кляс наогул і ператварэньне колгасьнікаў у працаўнікоў соцыялістычнага грамадзтва.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Ленин, „О кооперации", т. XXVII, стар. 391—397, выд. 2 і 3-е.

Ленин „Речь к делегатам комитетов бедноты Московской области", т. XXIII, стар. 282—284, выд 2 і 3-е.

Ленин, „Из доклада на Всероссийском с'езде советов" (1920), т. XXVI, стар. 46—47, выд. 2 і 3-е.

Сталин, „О правом уклоне в ВКП(б)", разьдз. III, „Разногласия по линии внутренней политики".

Сталин, „На хлебном фронте".

Сталин, „Головокружение от успехов".

Сталин, „К вопросам аграрной политики" (прамова на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў).

Сталин, „Политотчет XVI с'езду", разьдз. II, IV, V.

Рэзолюцыя XVI зьезду ЎсеКП(б) „О колхозном движени и под'еме сельского хозяйства".

Яковлев, „О колхозном строительстве", разьдз. I, II, IV і VI.

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 2 жніўня 1931 г. „Аб тэмпах колектывізацыі і задачах колгаснага руху".

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 4 лютага 1932 г.

Пастанова ЦК УсеКП(б) ад 26 сакавіка 1932 г. „Аб прымусовым аграмаджаньні жывёлы".

Пастанова ЦК і СНК „Аб пляне збожжазагатовак з ураджаю 1932 г. і разгортваньні колгаснага гандлю збожжам", „Правда" ад 7 мая 1932 г.

Пастанова ЦК і СНК „Аб пляне жывёлазагатовак і аб мясным гандлі колгасаў, колгасьнікаў і аднаасобных працоўных сялян", „Правда" ад 11 мая 1932 г.

Пастанова ЦВК і СНК ад 20 мая 1932 г. „Аб парадку ўтварэньня гандлю колгасаў, колгасьнікаў і працоўных аднаасобных сялян і зьмяншэньні падатку на гандаль сельскагаспадарчымі продуктамі", „Правда" ад 31 мая 1932 г.

Новы закон аб сельгаспадатку.

Пастанова ЦК ад 27 мая 1932 г. „Аб захаваньні і разьвіцьці конскага пагалоўя", „Правда" ад 28 мая 1932 г.

Артыкулы ў „Правде" па пытаньнях сельскай гаспадаркі.

Аб мясазагатоўках—пастанова СНК і ЦК УсеКП(б) ад 23 верасьня 1932 г.

Аб разьвіцьці савецкага гандлю і вытворчасьці тавараў шырокага спажываньня—рэзолюцыі пленуму ЦК УсеКП(б) „Правда" ад 3-X 1932 г.

Рэзолюцыі ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

Сталин,—Справаздача на XVI зьезьдзе ЎсеКП(б) ч. II, разьдз. V.

Рэзолюцыя XVII партконфэрэнцыі (разьдз. „Аб посьпехах першай пяцігодкі ў сельскай гаспадарцы")

Рэзолюцыі ЦК УсеКП(б) і ЦК КП(б)Б аб саўгасным і колгасным гандлі, аб збожжа і мясазагатоўках. Рэзолюцыі ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б.

Рэзолюцыі апошняга пленуму ЦК УсеКП(б).

Пастанова ЦВК і СНК аб гандлі; новы закон аб с-г. падатку.

---

# БАРАЦЬБА ЗА ШЭСЬЦЬ ГІСТАРЫЧНЫХ УМОЎ т. СТАЛІНА— КЛЮЧ ДА ПЕРАМОЖНАГА ВЫРАШЭНЬНЯ ЎСЯСЬВЕТНА-ГІСТАРЫЧНЫХ ЗАДАЧ СОЦЫЯЛІСТЫЧНАГА БУДАЎНІЦТВА

*(Заданьне для школы кандыдатаў партыі)*

1. Непарыўны рост продукцыйнасьці працы--цэнтральнае зьвяно нашай барацьбы за далейшае разгортваньне соцыялістычнага будаўніцтва.

„Продукцыйнасьць працы—гэта ў канчатковым выніку самае важнае, самае галоўнае для перамогі новага грамадзскага ладу“ (Ленін). „Капіталізм можа быць канчаткова пераможан тым, што соцыялізм ствараe новую, значна больш высокую продукцыйнасьць працы“ (Ленін).

Барацьба за павышэньне продукцыйнасьці працы—фронт клясавай барацьбы. Задача барацьбы з перажыткамі капіталізму, а тым, хто прыходзіць на соцыялістычнае прадпрыемтва з мэтай „урваць кавалак па больш і ўцячы“ (Ленін). Задачы барацьбы „з жулікамі, тунеядцамі, хуліганамі, паразытамі, з людзьмі, якія ў сваім сазнаньні і ў сваіх паступках засталіся яшчэ сынкамі капіталістычнага грамадзтва“ (Кагановіч).

Наяўнасьць усіх магчымасьцяй для забесьпячэньня непарыўнага росту продукцыйнасьці працы Шэсьць гістарычных умоў т. Сталіна як „разгорнутая програма бальшавіцкай барацьбы за рост продукцыйнасьці працы і пашырэньня на гэтай аснове крыніц соцыялістычнага накапленьня“ як „цэльная, адзіная сыстэма мерапрыемстваў, накіраваных на далейшае палепшаньне якасных і колькасных паказальнікаў нашай работы, на далейшае паскарэньня тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва“ (Постышаў). Шэсьць умоў т. Сталіна як узор глыбокага бальшавіцкага аналізу новай абстаноўкі і як адзіная програма барацьбы за пабудову соцыялізму.

Наяўнасьць вялізарных станоўчых рэзультатаў там, дзе шэсьць умоў т. Сталіна пакладзены ў аснову ўсёй работы. Пералом, дасягнуты маскоўскай прамысловасьцю ў другім паўгодзьдзі 1931 г. як рэзультат бальшавіцкай барацьбы за рэалізацыю шасьці гістарычных умоў т. Сталіна. Наяўнасьць раду прадпрыемстваў і галін, не перабудаваўшых яшчэ работы па-но-

ваму. Задачы далейшага ўзмацненьня барацьбы за рэалізацыю шасьці ўмоў перамогі.

2. Першая ўмова т. Сталіна:

> **„арганізавана набіраць рабочую сілу ў парадку дагавораў з колгасамі, мэханізаваць працу“.**

Новыя ўмовы ў справе забесьпячэньня нашых прадпрыемстваў рабочай сілай. Зьнікненьне самацёку рабочай сілы ў сувязі з тым, што „мы ліквідавалі беспрацоўе“, падарвалі ў корані расслаеньне ў вёсцы, забясьпечылі вёску дзесяткамі тысяч трактараў і сельгасмашын, разьбілі кулака, арганізавалі колгасы і далі сялянам магчымасьць жыць і працаваць па-людзку“ (Сталін).

Шляхі забесьпячэньня нашых прадпрыемстваў рабочай сілай ў новай абстаноўцы: пераход ад „палітыкі самацёку да палітыкі арганізаванага набору рабочых для прамысловасьці шляхам дагавораў гаспадарчых арганізацый з колгасамі і колгасьнікамі; безадкладны пераход на мэханізацыю найбольш цяжкіх працэсаў працы. Мэханізацыя працы як новая і рашаючая сіла, без якой немагчыма вытрымаць ні нашых тэмпаў, ні новых маштабаў вытворчасьці. Задача далейшага выкарыстаньня ручной працы, якая „доўга яшчэ будзе адыгрываць у вытворчасьці сур'ёзьнейшую ролю“ (Сталін).

Неабходнасьць барацьбы са скажэньнямі ў справе набору рабочай сілы, з наборам рабочай сілы незалежна ад сапраўднай патрэбнасьці прадпрыемства, са стварэньнем лішкаў рабочай сілы на падсобных работах пры недаборы рабочых асноўных цэхаў. Перарасход фондаў заработнай платы, павышэньне сабекошту продукцыі, няхватка рабочых рук на іншых прадпрыемствах у рэзультаце наяўнасьці лішкаў рабочай сілы.

Вялізарнае значэньне задачы правільнага плянаваньня набору рабочай сілы. Даныя аб правядзеньні арганізаванага набору рабочай сілы і мэханізацыі на прадпрыемствах Беларусі і на сваім прадпрыемстве.

3. Другая ўмова т. Сталіна:

> **„ліквідаваць цякучасьць рабочай сілы, зьніштожыць ураўнілаўку, правільна арганізаваць зарплату, палепшыць бытавыя ўмовы рабочых“.**

Цякучасьць рабочай сілы—біч вытворчасьці, дэзорганізуючы нашы прадпрыемствы. Цякучасьць як рэзультат няправільнай арганізацыі зарплаты, няправільнай тарыфнай сыстэмы, „лявацкай“ ураўнілаўкі. Маркс і Ленін аб зарплаце пры соцыялізьме. Несумяшчальнасьць ураўнілаўкі з вучэньнем Маркса—Леніна. Задача замацаваньня за прадпрыемствам, за цэхам вядучых груп рабочых шляхам іх вылучэньня, шляхам падняцьця ўзроўню іх зарплаты. Ліквідацыя ўраўнілаўкі як стымул для некваліфікаваных рабочых прасунуцца ў разрад кваліфікаваных.

Палепшаньне снабжэньня і жыльлёвага абслугоўваньня як важнейшая ўмова замацаваньня рабочых за прадпрыемствам. Забесьпячэньне першых месц па ўзроўні зарплаты за мэталюргіяй, вугалем, машынабудаўніцтвам, за вядучымі галінамі прамысловасьці.

Першыя рэзультаты перабудовы зарплаты, бязумоўнае зьмяншэньне цякучасьці рабочых кадраў, некаторае замацаваньне кваліфікаваных кадраў на прадпрыемствах, пэўныя дасягненьні ў справе павышэньня продукцыйнасьці працы, павялічэньні выхаджальнасьці рабочых і зьмяншэньне прастояў. Барацьба з ураўнілаўкай на прадпрыемствах Беларусі і на сваім прадпрыемстве.

Скажэньні палітыкі партыі ў галіне зарплаты, вядучыя да разрыву паміж ростам зарплаты і рухам продукцыйнасьці працы і выклікаючыя перарасходы фондаў заработнай платы.

Асноўныя віды гэтых скажэньняў: а) стварэньне ўраўнілаўкі шляхам агульнага аднясеньня да вядучых профэсій тых катэгорый рабочых, якія да гэтых профэсій не належаць, б) скажэньні ў справе ажыцьцяўленьня прогрэсыўнай зьдзельшчыны, в) сыстэма незаконных даплат як адна з асноўных прычын перарасходаў фондаў зарплаты, г) скажэньне зарплаты па лініі аплаты нядобраякаснай продукцыі.

> „Важнейшае значэньне ў справе барацьбы за якасныя паказальнікі, за мобілізацыю ўсіх унутраных рэсурсаў прадпрыемства мае рашэньне прэзыдыума ЎсеЦСПС і колегія Наркомату цяжкай прамысловасьці аб з ь м е н е п р а к т ы к і а п л а т ы б р а к а ў і п р а с т о я ў. Гэта рашэньне кладзе канец зусім недапушчальнаму на соцыялістычным прадпрыемстве становішчу, калі ў радзе выпадкаў прастоі аплачваюцца вышэй, чым работа, калі ўстараняецца стымул да актыўнай барацьбы з непаладкамі і бракам, што кладуцца цяжкім грузам на работу прамысловасьці“ [1]).

Адсутнасьць увагі з боку некаторых гаспадарнікаў да пытаньняў рэгуляваньня зарплаты, як „корань зла“ скажэньня ў гэтай галіне.

Проблема тэхнічнага нармаваньня і барацьба з „нармаваньнем на-вока“. Перабудова зарплаты рабочых-тарфянікоў як важнейшы вагар павышэньня продукцыйнасьці працы, замацаваньня рабочай сілы і выкананьня прамфінпляну. Першыя вынікі і далейшыя задачы гэтай перабудовы.

4. Т р э ц я я  ў м о в а  т. С т а л і н а:

> **„Ліквідаваць абязьлічку, палепшыць організацыю працы, правільна расставіць сілы на прадпрыемстве“.**

„Абязьлічка ёсьць адсутнасьць усякай адказнасьці за даручаную работу, адсутнасьць адказнасьці за мэханізмы, за станкі, за інструмант“ (С т а л і н). Абязьлічка як незакончаная спадарожніца непарыўкі. Задача такой зьмены ўмоў праведзеньня непарыўкі, каб непарыўка не ператваралася ў абязьлічку, а там, „дзе няма спрыяючых ўмоў для такога вопыту“,— часовага пераходу на 6-дзённую прарыўку.

Рэзультаты барацьбы з абязьлічкай на транспорце.

Пераход на 4-брыгадны графік, прымацаваньне рабочых да пэўных мэханізмаў і станоўчыя рэзультаты гэтага мерапрыемства ў барацьбе з абязьлічкай.

---

[1]) „Правда“ ад 22 лютага 1932 г.

Барацьба з абязьлічкай на прадпрыемствах Беларусі.

Недастатковасьць барацьбы з радам зьяў абязьлічкі: абязьлічка ў руху дэталі ад аднаго рабочага месца да другога, абязьлічанасьць рамонтных работ, абязьлічка ў браку.

Задача „пакончыць з абязьлічкай: паставіць для кожнага станка, ля кожнай машыны, ля кожнага агрэгата, на кожным рабочым месцы пастаянна працуючага на імі адказнага за яго работу работніка; выкарчаваць абязьлічку ў галіне рамонту, браку шляхам прасоўваньня продукцыі ўнутры прадпрыемства ад цэха да цэха і ад станка да станка“ [1]).

Становішча барацьбы за ліквідацыю абязьлічкі на даным прадпрыемстве.

5. Чацьвертая ўмова т. Сталіна:

> **„дабіцца таго каб у рабочай клясы СССР была свая ўласная вытворча-тэхнічная інтэлігенцыя“.**

Гіганцкі рост соцыялістычнай гаспадаркі, стварэньне новых прамысловых раёнаў і ўзросшая патрэбнасьць у інжынэрна-тэхнічных сілах, „нам трэба цяпер забясьпечыць сябе ўтроя, упяцёра больш інжынэрна-тэхнічнымі і камандными сіламі прамысловасьці“ (Сталін).

Неабходнасьць стварэньня цэлай сеткі новых вагароў фармаваньня інжынэрна-тэхнічных кадраў на Урале, у Сібіры, у Сярэдняй Азіі. Барацьба за якасьць новых спэцыялістаў, за „ўсваеньне імі асноўных дасягненьняў сусьветнай тэхнікі і навукі“ (XVI партконфэрэнцыя).

Шляхі падрыхтоўкі вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі з людзей рабочай клясы. Пашырэньне сеткі вышэйшай і сярэдняй тэхнічнай адукацыі. Рост сеткі ВНУ ў Беларусі. Падрыхтоўка кадраў шляхам павялічэньня кваліфікацыі і высоўваньня практычных работнікаў—ініцыятараў спаборніцтва, важакоў ударных брыгад, практычных натхніцеляў працоўнага ўздыму, організатараў работ на тых або іншых вучастках будаўніцтва. Сыстэма падрыхтоўкі кадраў без адрыву ад вытворчасьці.

Неабходнасьць шырокага прыцягваньня і выкарыстаньня ініцыятыўных і здольных беспартыйных рабочых і сьмелага вылучэньня іх на кіруючую работу.

6. Пятая ўмова т. Сталіна

> **„зьмяніць адносіны да інжынэрна-тэхнічных сіл старой школы, праявіць да іх больш увагі і клопату, сьмялей прыцягваць іх да работы“.**

Прызнакі павароту сярод старой вытворча-тэхнічнай інтэлігенцыі. Прычыны гэтага павароту. Задача зьмены політыкі ў адносінах старой тэхнічнай інтэлігенцыі.

„Спецеедство“ заўсёды лічылася і застаецца ў нас шкоднай зьявай“ (Сталін). Задача рашучай барацьбы са скажэньнямі політыкі партыі ў гэтым пытаньні.

7. Шостая ўмова т. Сталіна.

> **„укараніць і ўмацаваць гасразьлік, падняць унутрыпрамысловае накапленьне“.**

[1]) З рашэньняў XVII партконфэрэнцыі.

Недастатковасьць старых крыніц накапленьня (лёгкая прамысловасьць, сельская гаспадарка, бюджэтныя накапленьні) для рэконструкцыі прамысловасьці і транспорту. Неабходнасьць побач з умацаваньнем і разгортваньнем старых крыніц накапленьня дабіцца, „каб цяжкая прамысловасьць і перш за ўсё машынабудаўніцтва, таксама давалі накапленьне“. „Задачы барацьбы з безгаспадарчасьцю, узмацненьне аднаасобнага кіраваньня і ўмацаваньня гасразьліку“.

Гасразьлік як асноўны мэтод гаспадарчага кіраўніцтва і асноўная форма гаспадарчых узаемаадносін паміж прадпрыемствам і цэхамі. Лёгкамысныя адносіны да гаспадарчага дагавору як праяўленьне дробнабуржуазнай разбэшчанасьці і недаацэнка значэньня гасразьліку.

Неабходнасьць барацьбы за чоткую лінію партыі ў пытаньнях гасразьліку, супроць буржуазнага скажэньня прынцыпаў гасразьліку, з аднаго боку, і „лявацкага“ яго ігнараваньня—з другога.

Гасразьліковая брыгада—новая вышэйшая форма соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Рэзультаты барацьбы за гасразьлік на прадпрыемствах Беларусі. Гасразьлік на даным прадпрыемстве.

8. Прымяненьне шасьці ўмоў т. Сталіна з улікам своеасаблівасьці колгасаў—аснова правільнай організацыі колгаснай працы. Барацьба за новую, высокую, уласьцівую соцыялістычнаму ладу продукцыйнасьць працы, як асноўнае зьвяно ў вырашэньні задач організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў. Барацьба за організаванае адыходніцтва, рашучае выкарчаваньне абязьлічкі, укараненьне зьдзельшчыны, за падгатоўку колгасных кадраў і аўладаньне тэхнікай колгаснай вытворчасьці. Неабходнасьць ліквідацыі ўсіх форм працы, што прыкрываюць і затрымліваюць збыткоўную рабочую сілу ў колгасах, зьніжаюць тым самым продукцыйнасьць працы самых колгасьнікаў і дэзорганізуюць колгасную вытворчасьць (брыгады-дворкі). Стварэньне пастаянных брыгад.

Барацьба з ураўнілаўкай у разьмеркаваньні колгасных даходаў.

9. „Па-новаму працаваць, па-новаму кіраваць“. Асноўны прынцып работы па-новаму: перайсьці ад кіраўніцтва „наогул“ да прадметнага і конкрэтнага кіраўніцтва, аснаванага на ўнікненьні ў дэталі справы. Задача аўладаньня тэхнікай, экономікай, фінансамі. „Бальшавікі павінны аўладаць тэхнікай“. „Тэхніка ў пэрыод рэконструкцыі вырашае ўсё“. Аўладаньне навукай вытворчасьці—важнейшая ўмова сапраўднага кіраўніцтва прадпрыемствам. Умацаваньне адзінаначальля.

10. Шэсьць умоў тав. Сталіна—аснова нашых гаспадарчых перамог, ключ да перaward пераможнага вырашэньня ўсясьветна гістарычных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Неабходнасьць глыбокага растлумачэньня шасьці ўмоў т. Сталіна, што зьяўляюцца важнейшым сродкам у барацьбе за ажыцьцяўленьне генэральнай лініі партыі на ўсіх вучастках гаспадарчага будаўніцтва, у барацьбе з правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай

і „левым“ опортунізмам. *Неабходнасьць барацьбы з невыкананьнем шасьці ўмоў т. Сталіна як з горшым відам опортунізму.*

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

1. Сталін, „Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва“.

2. „Постышаў, „Шэсьць умоў т. Сталіна – аснова бальшавіцкіх перамог“. Прамова на XVII партконфэрэнцыі.

3. Арджанікідзе,—Даклад на XVII партконфэрэнцыі.

4. Рэзолюцыі XVII Усесаюзнай і III абласной партконфэрэнцый.

5. Кагановіч,—Прамова на IX зьезьдзе профсаюзаў, „Праўда“ ад 20 мая 1932 г.

## СТАРОНКА ПРАПАГАНДЫСТА.

Барацьба за шэсьць гістарычных умоў т. Сталіна—ключ да пераможнага вырашэньня ўсясьветна гістарычных задач соцыялістычнага будаўніцтва. Гэтым вызначаецца вялізарнае значэньне прапрацоўкі данай тэмы ў сыстэме марксысцка-ленінскай вучобы.

Высьветліць сутнасьць кожнай гістарычнай умовы т. Сталіна, усвоіць, што шэсьць указаньняў т. Сталіна—гэта *адзіная програма, цэльная адзіная сыстэма мерапрыемстваў*, накіраваных на далейшае паскораньне тэмпаў соцыялістычнага будаўніцтва, мобілізаваць слухачоў на барацьбу з невыкананьнем шасьці ўмоў т. Сталіна як з горшым відам опортунізму—такава асноўная мэтавая ўстаноўка данай тэмы.

Для больш паглыбленай прапрацоўкі пытаньняў, што ўваходзяць у гэту тэму, рэкомэндуецца адвесьці ёй два заняткі, з тым, каб забясьпечыць максымальную актыўнасьць і конкрэтнасьць гутаркі.

Дастаткова падрабязная распрацоўка кожнага пункту ў програме палягчае пропагандысту складаньне пляну правядзеньня занятку, свайго „рабочага запісу“. У самым процэсе прапрацоўкі тэм у школе пропагандысту трэба ўлічыць наступныя заўвагі.

У програме ў якасьці асобага пункту вылучана пытаньне аб барацьбе за шэсьць умоў т. Сталіна ў колгасах. Аднак зусім відавочна, што пропагандысту прыдзецца спыняцца на гэтых пытаньнях пры разборы кожнай умовы т. Сталіна. У гутарцы аб ураўнілаўцы, напрыклад, слухачы будуць закранаць і задачы барацьбы з ураўнілаўкай у разьмеркаваньні даходаў у колгасах. Тое самае па пытаньнях абязьлічкі і т. д. Задача пропагандыста такім чынам зводзіцца да таго, каб, суміруючы разам са школай усе гэтыя паасобныя выказваньні, потым зрабіць агульны вывад, што вырашыць задачу організацыйна-гаспадарчага ўмацаваньня колгасаў можа толькі на аснове пасьлядоўнага прымяненьня шасьці ўмоў т. Сталіна. І іменна ў такім духу (у парадку падагульваньня) і трэба прапрацаваць п. 8-ы програмы.

Само сабой зразумела, што кожная ўмова т. Сталіна павінна ілюстравацца *данымі па Беларусі і мясцовымі матэрыяламі*. У рабочым матэрыяле даныя па Беларусі прыведзены

ў апошнім заключным аддзеле. Аднак пропагандыст павінен браць з гэтага матэрыялу тыя асобныя факты, цыфры, палажэньні, якія неабходны ў якасьці ілюстрацыі да кожнага аддзелу програмы.

Грунтоўнымі ўмовамі посьпеху прапрацоўкі зьяўляюцца папярэдняе прычытаньне самымі слухачамі хаця-б мінімум рабочага матэрыялу і правільна праведзены занятак у школе. Для палегчаньня прапрацоўкі рабочы матэрыял пабудаваны па такім-жа пляне, як і програма.

Што тычыцца мэтодыкі самога занятку, то вось прыкладна, як сьлед правесьці гутарку аб барацьбе з ураўнілаўкай. Пачаць неабходна з высьвятленьня тых зьмен, якія адбыліся ў сыстэме зарплаты рабочых данай галіны прадпрыемства ў параўнаньні з мінулым годам, падкрэсьліваючы значныя рэзультаты дасягненьняў ў тых выпадках, калі сапраўды ліквідуецца ўраўнілаўка (рост продукцыйнасьці, зьмяншэньне прагулаў, скарачэньне прастояў).

Неабходныя факты з мясцовага жыцьця павінны быць праведзены самімі слухачамі. Далей трэба ўказаць, што дасягнутыя рэзультаты зьяўляюцца рэзультатам правядзеньня ў жыцьцё другой умовы т. Сталіна, зачытаўшы пры гэтым адпаведныя месцы з прамовы т. Сталіна. Потым неабходна спыніцца на дасягнутых рэзультатах у справе перабудовы зарплаты праведзеных т. Постышавым у сваёй прамове на XVII партконфэрэнцыі. Потым трэба перайсьці да скажэньняў, ускрытых у гэтай галіне т. Постышавым у сваёй прамове, і высьветліць са школай, ці няма падобных скажэньняў у мясцовай рэчаіснасьці і як у прыватнасьці праводзіцца разьмеркаваньне даходаў у тых колгасах, з якімі зьвязаны даныя рабочыя. У якасьці практычнага вываду трэба даручыць групе таварышоў са школы паставіць перад адпаведнымі організацыямі пытаньне аб неабходнасьці ўстараненьня выяўленых скажэньняў. Прыкладна таксама, увязваючы кожную ўмову з конкрэтным матэрыялам, патрэбна правесьці ўсю прапрацоўку.

Асобую ўвагу пры прапрацоўцы патрэбна зьвярнуць на растлумачэньне таго, што рэалізацыя шасьці гістарычных умоў т. Сталіна забясьпечвае вялізарнае разгортваньне соцыялістычнага спаборніцтва і ўдарніцтва, зьяўляецца неабходнай умовай выпрацоўкі комуністычных адносін да працы, неабходнай умовай пасьпяховай барацьбы за соцыялістычнае перавыхаваньне працоўных мас. Трэба паказаць, што супроць рэалізацыі шасьці ўмоў т. Сталіна змагаецца клясавы вораг, гультай, бюрократ і опортуніст. Трэба, каб слухачы ўсвоілі што невыканьне шасьці ўмоў т. Сталіна зьяўляецца горшым відам опортунізму і што сапраўдная бальшавіцкая рэалізацыі шасьці ўмоў магчыма толькі на аснове няўхільнай барацьбы з праваопортуністычнымі і „левымі“ скажэньнямі лініі партыі.

ТЭМА:

# ПАБУДОВА БЯСКЛЯСАВАГА ГРАМАДЗТВА Ў ДРУГОЙ ПЯЦІГОДЦЫ".

*(Заданьне для школ кандыдатаў партыі)*

XVII партконфэрэнцыя паставіла перад партыяй і рабочай клясай СССР вялізарную гістарычнай важнасьці задачу ў другой пяцігодцы поўнасьцю зьніштожыць у нашай краіне капіталістычныя элемэнты і клясы наогул, а таксама прычыны, што параджаюць клясавыя розьніцы. Пастаноўка гэтых гістарычных задач у другой пяцігодцы падрыхтавана рашаючымі дасягненьнямі ў ажыцьцяўленьні першай пяцігодкі, як у эканомічных, так і ў палітычных адносінах. Саячасовасьць пастаноўкі гэтых задач, іх рэальнасьць і выканальнасьць у другой пяцігодцы грунтуецца на створанай індустрыяльнай базе—гэтай складанай вядучай частцы завяршэньня пабудовы фундаманту социялістычнай экономікі, на рашаючых посьпехах у галіне соц. рэконструкцыі сельскай гаспаркі.

У рэзультаце ленінскай політыкі нашай партыі і барацьбы з опортунізмам СССР становіцца індустрыяльна-аграрнай краінай, у якой сельская гаспадарка пэратвараецца ў самае перадавое социялістычнае земляробства, атрымана рашаючая парамога ў барацьбе супроць кулацтва. Пытаньне „хто каго" унутры СССР вырашана канчаткова і беспаваротна ў карысьць социялізму.

Гэтыя вялізарныя дасягненьні далі магчымасьць паставіць яшчэ больш грандыёзныя гаспадарчыя і політычныя задачы ў другой пяцігодцы: завяршэньне тэхнічнай рэконструкцыі ўсёй народнай гаспадаркі і зьніштажэньне клясаў у другой пяцігодцы.

## ПЛЯН ТЭМЫ:

### I. ВУЧЭНЬНЕ МАРКСЫЗМУ-ЛЕНІНІЗМУ АБ СУТНАСЬЦІ СОЦЫЯЛІЗМУ ЯК ПЕРШАЙ СТАДЫІ КОМУНІЗМУ

а) Маркс, Энгельс і Ленін аб социялізьме і комунізьме.

б) Дзьве стадыі комуністычнага грамадзтва.

в) Социялізм як першая фаза комуністычнага грамадзтва.

г) Поўнае і канчатковае зьніштажэньне прыватнай уласнасьці і ліквідацыя клясаў.

д) Астаткі „буржуазнага права“ ў галіне разьмеркаваньня.

е) Барацьба супроць вузка-спажывецкага разуменьня соцыялізму. Соцыялістычныя прынцыпы разьмеркаваньня прадметаў спажываньня — разьмеркаваньне па працы, а не па патрэбнасьцях, „Ад кожнага па здольнасьці, кожнаму па працы“ (Сталін).

## II. ДРУГАЯ ПЯЦІГОДКА—ПРОГРАМА ПАБУДОВЫ БЯСКЛЯСАВАГА ГРАМАДЗТВА СССР

а) Гістарычныя рашэньні XVII партконфэрэнцыі аб „канчатковай ліквідацыі капіталістычных элемэнтаў і клясаў наогул, поўным зьніштажэньні прычын, што параджаюць клясавыя розьніцы і эксплёатацыю“ і аб ператварэньні ўсяго працоўнага насельніцтва краіны ў сьвядомых і актыўных будаўнікоў бясклясавага соцыялістычнага грамадзтва.

б) Роля рабочай клясы ў справе ліквідацыі клясаў наогул і соцыялістычным перавыхаваньні працоўных.

в) Барацьба за высокую продукцыйнасьць працы, за стварэньне і выхаваньне новай дысцыпліны як адна з важнейшых форм барацьбы за ажыцьцяўленьне другой пяцігодкі.

г) Барацьба супроць вузка-спажывецкага разуменьня соцыялізму. Соцыялістычныя прынцыпы разьмеркаваньня прадметаў спажываньня—разьмеркаваньне па працы, а не па патрэбнасьцях. „Ад кожнага па здольнасьці, кожнаму па працы“ (Сталін).

д) Стварэньне навейшай энэргетычнай базы як важнейшага элемэнту тэхнічнай рэконструкцыі.

е) Вядучая роля машынабудаўніцтва ў другой пяцігодцы.

ж) Задача канчатковага забесьпячэньня экономічнай незалежнасьці СССР у другой пяцігодцы.

з) Завяршэньне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў другой пяцігодцы.

і) Роля МТС у завяршэньні ў асноўным мэханізацыі сельскагаспадарчай вытворчасьці.

к) Роля саўгасаў, як узорная соцыялістычна організаваная вытворчасьць.

л) Організацыйна-гаспадарчае ўмацаваньне колгасаў і соцыялістычнае перавыхаваньне колгасьніка як асноўная ўмова пасьпяховага выкананьня задач другой пяцігодкі.

м) Задача ператварэньня сельска-гаспадарчай працы ў разнавіднасьць індустрыяльнай працы.

н) Значэньне соцыялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі для ўстараненьня супроцьлегласьці паміж горадам і вёскай.

о) Зжываньне культурнай і экономічнай адсталасьці нацыянальнасьцяй СССР.

## III. СУТНАСЬЦЬ І ЭТАПЫ НЭПУ. АПОШНІ ЭТАП НЭПУ

а) Нэп сябе поўнасьцю вычарпае ў другой пяцігодцы як політыка, разьлічаная на дапушчэньне капіталістычных элемэнтаў, пры наяўнасьці камандных вышынь у руках пролетарыяту, на барацьбу з гэтымі капіталістычнымі элемэнтамі, на іх выцясьненьне і ліквідацыю і на перамогу соцыялістычных элемэнтаў.

б) Захаваньне на новай аснове мэтодаў НЭП'у ў другой пяцігодцы:

1) Значэньне разгортваньня савецкага гандлю для паскораньня тавараабароту і палепшаньня рабочага снабжэньня.

2) Разгортваньне колгаснага гандлю і аднаасобнікаў на аснове апошніх рашэньняў партыі і ўраду.

3) Правядзеньне гасразьліку ва ўсёй гаспадарчай рабоце для забесьпячэньня бальшавіцкіх тэмпаў. Захаваньне грошай.

4) Антыбальшавіцкі характар „левых“ фраз аб пераходзе да „прадуктаабмену“ да „адміраньня“ грошай на даным этапе соцыялістычнага будаўніцтва.

5) Неабходнасьць барацьбы з буржуазна-нэпманскімі скажэньнямі гасразьліку ў савецкім гандлі.

## IV. УМАЦАВАНЬНЕ ПРОЛЕТАРСКАЙ ДЫКТАТУРЫ Ў БАРАЦЬБЕ ЗА ПАБУДОВУ БЯСКЛЯСАВАГА ГРАМАДЗТВА

а) Маркс, Энгельс і Ленін аб дыктатуры пролетарыяту і яе гістарычных задачах.

б) Сталін аб трох бакох дыктатуры пролетарыяту.

в) Дыктатура пролетарыяту як працяг клясавай барацьбы ў новых формах.

г) „Няўнікнёнасьць абвастрэньня клясавай барацьбы ў асобныя моманты і асабліва ў пасобных раёнах і на асобных вучастках соцыялістычнага будаўніцтва“ у пэрыод другой пяцігодкі.

д) Клясавая барацьба і яе формы ў нацыянальных рэспубліках.

е) Праваопортуністычны характар сьцьвярджэньня таго, што пэрыод другой пяцігодкі ёсьць пэрыод мірнага і плянавага разьвіцьця.

ж) Далейшае ўмацаваньне пролетарскай дзяржавы як важнейшая задача ў другой пяцігодцы.

з) Умацаваньне дыктатуры пролетарыяту як умова яе адміраньня.

і) Неабходнасьць беспаваротнай барацьбы з усімі контррэволюцыйнымі вылазкамі супроць соцыялістычнага наступленьня пролетарыяту.

к) Гіганцкія організацыйныя і выхаваўчыя задачы пролетарскай дзяржавы ў адносінах працоўных гораду і вёскі, выцякаючыя з задачы пабудовы бяскдясавага грамадзтва.

л) Неабходнасьць барацьбы з опортуністычнымі тэорыямі „непатрэбнасьці“ і „адміраньня“ дзяржавы ўжо на даным этапе.

## V. ЗАДАЧА ЎМАЦАВАНЬНЯ ПАРТЫІ І БАРАЦЬБА НА ДВА ФРОНТЫ.

а) Узмацненьне ролі партыі партыйнага кіраўніцтва на даным этапе.

б) Неабходнасьць узмацненьня барацьбы з правым опортунізмам як галоўнай небясьпекай на даным этапе, „левым“ опортунізмам і прымірэнцтвам да яго, а таксама з астаткамі контррэволюцыйнага троцкізму і троцкісцкай кантрабандай.

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ КІРАЎНІКОЎ

Рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі.

Даклад т. Молатава, Куйбышава і Арджанікідзе на XVII партконфэрэнцыі.

Сталін, „Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва“.

Пастановы партыі і ўраду аб савецкім і колгасным гандлі.

Энгельс, „Происхождение семьи, частной собственности и государства“ разьдз. V і IX.

Ленін, „Дзяржава і рэволюцыя“.

Ленин, „Лекция о государстве"—асоб. выданьне, 1932 г.

Ленин, Пролетарская революция и ренегат Каутский", т. XXIII, стар. 345—356.

Ленин, „Экономика и политика в эпоху диктатуры пролетариата" т. XXIV (артыкул), выд. 2-е..

Ленин, „О продналоге", т. XXVI, выд. 2-е.

Сталін, „Прамова на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў".

Сталін, „Аб ліквідацыі кулацтва як клясы".

Сталін, Пісьмо ў журнал „Пролетарская революция".

## ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

Ингулов, „Учебник для кандидатских школ города", разьдз. II.

Волин, „Учебник для кандидатских школ"—адпаведныя разьдзелы.

Ленін, т. XVI, стар. 249, выд. 1-е.

Ленін, т. XVI, стар. 251, выд. 1-е.

Ленін, т. XVI, стар. 351—352, выд. 1-е.

Молатаў, Даклад на XVII партконфэрэнцыі—ад слоў: „Палітычная ўстаноўка дадзена" да слоў: „...пастаўленых другой пяцігодкай задач пабудовы соцыялізму",

Рэзолюцыя XVII партконфэрэнцыі п. дакладу т. Молотова—ад слоў:

... „Новыя посьпехі соцыялізму" да слоў: ... „галоўнай небясьпекай на даным этапе".

Тое самое па дакладу т. Арджанікідзе ад слоў: ...„Ажыцьцяўленьне гэтых задач" ...да слоў: „...пытаньне аб барацьбе з сухменем".

Рэзолюцыя ЦК КП(б)Б і СНК БССР аб другой пяцігодцы БССР.

Молатаў, даклад на XVII партконфэрэнцыі. Ад слоў: „...Перайду да пытаньня аб узаемаадносінах..." да слоў: „...рабочымі і сялянамі поўнасьцю зьнікнуць".

Там-жа ад слоў: „Усё сказанае аб палітычнай устаноўцы"... да слоў: ...„дабрабыту рабочых і сялянскіх мас".

Куйбышаў, даклад на XVII партконфэрэнцыі. Ад слоў: „Мы ўжо ў першым пяцігодзьдзі..." да слоў: „...гаворыць аб соцыялізьме вытворчасьці".

Там-жа. Ад слоў: „Мы можам проектаваць..." да слоў: „...узаемадносін з капіталістычным сьветам".

Ленин, „Лекция о государстве"—асоб. выданьне.

Сталін, „Новая абстаноўка—новыя задачы гаспадарчага будаўніцтва".

Сталін, „Аб ліквідацыі кулацтва як клясы".

ТЭМА:

# НАЦЫЯНАЛЬНАЯ ПОЛІТЫКА КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ

*(Заданьне для школ кандыдатаў партыі)*

## I. МАРКСЫЗМ-ЛЕНІНІЗМ І НАЦПЫТАНЬНЕ

1. Марксысцка-ленінская пастаноўка і вырашэньне пытаньня аб нацыі.

2. Нацпытаньне як сваясаблівая частка агульнага пытаньня аб барацьбе клясаў і рэволюцыі.

3. Умацаваньне пролетарскага інтэрнацыяналізму ў тэорыі і на практыцы як важнейшая задача нацполітыкі комуністычнай партыі.

4. Нацыянальнае пытаньне як па сутнасьці сялянскае пытаньне.

5. Зьмяненьне „ўнутранага характару і аб'ёму нацпытаньня ў эпоху імпэрыялізму і пролетарскіх рэволюцый". (Ператварэньне з унутрыдзяржарнага ў сусьветнае, у пытаньне аб колёніях, у частку пытаньня аб дыктатуры пролетарыяту).

6. Магчымасьць вырашэньня нацпытаньня ў эпоху імпэрыялізму толькі на базе пролетарскай рэвалюцыі.

7. Нацполітыка комуністычнай партыі ў эпоху дыктатуры пролетарыяту як сродак барацьбы за зьнішчэньне эксплёатаtарскіх клясаў і адзін з сродкаў будаўніцтва соцыялізму ў СССР.

8. Роля Леніна і Сталіна ў распрацоўцы нацпытаньня.

## II. ЛІНІЯ КОМУНІСТЫЧНАЙ ПАРТЫІ (БАЛЬШАВІКОЎ) У НАЦПЫТАНЬНІ Ў ЭПОХУ БУРЖУАЗНА-ДЭМОКРАТЫЧНАЙ РЭВОЛЮЦЫІ

1. Шматнацыянальны склад былой царскай Расіі. Царская Расія—вялікая турма народаў. Чорнасоценны нацыяналізм як неадлучная частка політыкі расійскага самаўладзтва і як сродак барацьбы ў руках імпэрыялістычнай буржуазіі супроць пролетарскай рэволюцыі.

2. Програма комуністычнай партыі (бальшавікоў) у нацпытаньні. Права нацый на самавызначэньне як цэнтральны лёзунг програмы. Клясавая сутнасьць і рэволюцыйнае значэньне гэтага лёзунгу. Органічная сувязь ажыцьцяўленьня гэтага лёзунгу з задачай пясьпяховай перамогі і рэволюцыі. Права нацый на самавызначэньне і задачы пролетарыяту прыгнятаючай і прыгнечанай нацый. Права нацый на самавызна-

чэньне і барацьба з шовінізмамі ўсіх масьцей.

3. Барацьба партыі бальшавікоў на чале з Леніным супроць буржуазных установак у нацпытаньні. Барацьба Леніна з бундызмам; з рэакцыйным лёзунгам культурна-нацыянальнай аўтаноміі і лёзунгам нацкультуры пры капіталізьме.

4. Барацьба Леніна з вялікадзяржаўнымі скажэньнямі лёзунгу права нацый на самавызначэньне, супроць люксэмбургіянцтва як аб'екты ўна-вялікадзяржаўнага вырашэньня нацпытаньня; супроць трацкізму і каўцкіянцтва як замаскаванага падсобніцтва палітыцы імпэрыялістычнай буржуазіі. Барацьба супроць „левых" у РСДРП (Бухарын і Пятакоў).

5. Адмаўленьне лёзунгу права нацый на самавызначэньне дробнабуржуазнымі нацыяналістычнымі арганізацыямі на Беларусі (БСГ бел. эсэры).

## III. КАСТРЫЧНІЦКАЯ РЭВОЛЮЦЫЯ І НАЦПЫТАНЬНЕ

1. Нацыянальная програма бальшавікоў як магутны вагар мобілізацыі працоўных прыгнечаных нацый на зьвяржэньне дыктатуры буржуазіі.

2. Кастрычніцкая рэволюцыя і нацпытаньне. Зьнішчэньне нацыянальнага прыгнечаньня і няроўнапраўя на базе саветаў і дыктатуры пролетарыяту. Абвяшчэньне і забесьпячэньне права нацый на самавызначэньне і роўнапраўе нацменшасьцяй. Утварэньне базы добраахвотнага і роўнапраўнага дзяржаўнага саюзу народаў. „Кастрычніцкая рэволюцыя адным ударам разарвала ланцугі нацпрыгнечаньня, падарвала старую нацыянальную варожасьць, расчысьціла глебу для супрацоўніцтва народаў і заваявала расійскаму пролетарыяту давер'е яго братоў іншых нацый ня толькі ў Расіі, але і ў Эўропе і Азіі" (Сталін).

2. Барацьба буржуазнай і дробнабуржуазнай нацыяналістычнай контррэволюцыі супроць Кастрычніка. Беларускія нацыяналістычныя арганізацыі—арганізатары контррэволюцыі і прадажныя лёкаі сусьветнага імпэрыялізму (БСГ, Беларуская рада, эсэры і інш.). Стык вялікадзяржаўных і мясцова нацыяналістычных партый у барацьбе з дыктатурай пролетарыяту. КП(б)Б—бязьлітасны змагар з беларускай нацыяналістычнай контррэволюцыяй і адзіны праваднік ленінскіх прынцыпаў у нацпытаньні.

3. Утварэньне савецкіх нацыянальных рэспублік і вобласьцяй і іх аб'яднаньне ў СССР як сродак магутнага дзяржаўнага, эканомічнага і культурнага разьвіцьця раней прыгнечаных народаў.

## IV. ЗЬМЕСТ НАЦПЫТАНЬНЯ І ЗАДАЧЫ НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПОЛІТЫКІ ПАРТЫІ ПРЫ ДЫКТАТУРЫ ПРОЛЕТАРЫЯТУ

1. Нацпытаньне пры дыктатуры пролетарыяту—частка пытаньня аб соцыялістычным будаўніцтве.

2. Зьнішчэньне фактычнай нацыянальнай няроўнасьці як цэнтральная задача нацыянальнай політыкі партыі пры дыктатуры пролетарыяту.

3. СССР як добраахвотны саюз свабодных нацый. Структура СССР. Нацыянальныя рэспублікі, вобласьці і раёны як сродак прыцягненьня шырокіх працоў-

ных мас раней прыгнечаных нацый да дзяржаўнага будаўніцтва.

4. Выкарчоўваньне нацыянальнай нянавісьці магчыма толькі ў СССР на базе дыктатуры пролетарыяту.

5. Індустрыялізацыя краіны як сродак ажыцьцяўленьня ленінскай нацыянальнай політыкі. Стварэньне нацыянальнага пролетарыяту.

6. Дапамога і кіраўніцтва пролетарыяту перадавых нацый адсталым нацыям у справе пабудовы социялізму.

7. Посьпехі социялістычнай індустрыялізацыі ў адсталых нацыянальных рэспубліках. Посьпехі і тэмпы індустрыялізацыі ў БССР. Пертварэньне БССР з аграрнай у аграрна-індустрыяльную краіну—буйнае дасягненьне нацыянальнай політыкі комуністычнай партыі.

8. Социялістычная рэконструкцыя сельскай гаспадаркі ў нацыяльных рэспубліках як шлях да зьнішчэньня іх адставаньня, як сродак вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Социялістычны шлях разьвіцьця як шлях уздыму добрабыту працоўных раней прыгнечаных нацый. Магчымасьць такога шляху толькі пры дыктатуры пролетарыяту. Посьпехі социялістычнай рэконструкцыі сельскай гаспадаркі ў СССР і БССР.

9. Антысэмітызм як вынік нацыянальнай політыкі царызму. Адносіны савецкай улады да яўрэйскіх працоўных. Біро-Біджан як яркі прыклад нацыянальнай політыкі пролетарыяту. Неабходнасьць барацьбы з антысэмітызмам як з формай праяўленьня клясавай варожасьці.

## V. РАЗЬВІЦЬЦЁ ПРОЛЕТАРСКАЙ КУЛЬТУРЫ — СОЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ ПА ЗЬМЕСЬЦЕ, НАЦЫЯНАЛЬНАЙ ПА ФОРМЕ ПРЫ ДЫКТАТУРЫ ПРОЛЕТАРЫЯТУ

1. Лёзунг партыі аб разьвіцьці культуры, нацыянальнай па форме і социялістычнай па зьмесце, як сродак разгортваньня культурнага будаўніцтва ў нацыянальных рэспубліках, як сродак вырашэньня нацпытаньня.

2. Нацыянальна-культурнае будаўніцтва ў БССР. Беларусізацыя як асноўнае зьвяно гэтага будаўніцтва. Зьмест і значэньне беларусізацыі. Корэнізацыя як як сродак нацыянальнай політыкі. Разьвіцьцё культур нацыянальных па форме, социялістычных па зьмесьце ўсіх народаў БССР.

3. Посьпехі нацыянальна-культурнага будаўніцтва БССР. Усеагульнае навучаньне і ліквідацыя няпісьменнасьці. Разьвіцьцё пролетарскай навукі. Вырашэньне проблемы кадраў—ВНУ і ВТНУ ў БССР.

4. Разьвіцьцё вышэйшых форм культуры (літаратура, мастацтва і т. д.). Роля пролетарыяту ў гэтым разьвіцьці.

## VI. БАРАЦЬБА НА ДВА ФРОНТЫ ЗА АЖЫЦЬЦЯЎЛЕНЬНЕ НАЦПОЛІТЫКІ ПАРТЫІ

1. Супраціўленьне клясавага ворага социялістычнаму будаўніцтву і ленінскаму вырашэньню нацпытаньня ў СССР. Форма гэтага супраціўленьня—вялікадзяржаўны шовінізм і мясцовы нацыяналізм.

2. Сутнасьць у карэньні вялікадзяржаўнага шовінізму. Формы праяўленьня вялікадзяржаўнага шовінізму. Асаблівая шкоднасьць вялікадзяржаўнага шовінізму. Вылазкі вялікадзяржаўнага шовінізму пад маскай фраз аб інтэрнацыяналізьме.

3. Мясцовы нацыяналізм як ідэолёгія буржуазных элемэнтаў (кулака) раней прыгнечаных нацый, як форма барацьбы супроць дыктатуры пролетарыяту. Беларускі нацыяна-дэмократызм і яго контррэволюцыйны твар. Беларускія нацыянал-дэмократы як агенты польскага фашызму.

4. Барацьба яўрэйскага, польскага і іншых нацыяналізмаў супроць дыктатуры пролетарыяту і нацыянальнай політыкі комуністычнай партыі.

5. Барацьба партыі за ленінскую лінію ў галіне нацпытаньня. XVI партыйны зьезд аб барацьбе на два фронты і галіне нацпытаньня.

6. Ухілы ў бок вялікадзяржаўнага шовінізму, у бок мясцовага нацыяналізму як форма ўплыву буржуазіі на некаторыя менш устойлівыя кругі пролетарыяту і партыі. КП(б)Б у барацьбе з вялікадзяржаўным шовінізмам і з мясцовым нацыяналізмам.

7. Вялікадзяржаўны ўхіл як галоўная небясьпека ў галіне нацпытаньня. Памылковасьць лёзунгу аб нацыянал-дэмократызьме як галоўнай небясьпецы ў галіне нацпытаньня на даным этапе.

## VII. ДАЛЕЙШЫЯ ЗАДАЧЫ ПАРТЫІ Ў ГАЛІНЕ НАЦПЫТАНЬНЯ

1. Задачы нацполітыкі партыі ў другой пяцігодцы. Зьнішчэньне нацыянальнай няроўнасьці; усебаковы росквіт культур нацыянальных па форме, соцыялістычных па зьмесьце.

2. Клясавая барацьба ў другой пяцігодцы. Супраціўленьне клясавага ворага нацполітыцы пролетарыяту ў другой пяцігодцы. Барацьба на два фронты ў галіне нацполітыкі ў другой пяцігодцы. Барацьба партыі з вялікадзяржаўным шовінізмам, з ухілам у бок яго як , асноўнай небясьпекай, з мясцовым шовінізмам, з нацопортунізмам як умовы перамогі ленінскай нацполітыкі.

3. Задачы партыі ў галіне беларусізацыі. Неабходнасьць узд ыму беларусізацыі на вышэйшую ступень, ауладаньне пролетарыятам вышэйшымі формамі нацыянальнай культуры. Барацьба супроць актыўнага і пасыўнага супраціўленьня беларусізацыі як праяўленьне вялікадзяржаўнага шовінізму.

4. Міжнароднае значэньне нацполітыкі пролетарыяту.

### ЛІТАРАТУРА ДЛЯ СЛУХАЧОЎ

Ленин, „О праве наций на самоопределение", „Практицизм" да слоў „Если мы не"... стар. 101—103, т. XIX, выд 1-е.

Ленин, „Критические заметки по национальному вопросу". „Национальная культура", т. XIX, выд. 1-е, стар. 39—42.

Ленін,—Прамова на II конгрэсе Комінтэрну, т. XIX, выд. 1-е, стар, 222—227.

Сталін, „Пытаньні ленінізму" разьдз. „Нацпытаньні", стар. 63 - 65, выд. 1931 г.

Сталін, „Кастрычніцкі пераварот у нацпытаньні" (поўнасьцю). Зборнік „Выбраныя працы па нацпытаньні", стар. 78—85.

Сталін „Марксызм і нацыянальнае пытаньне", стар. 15, ад слоў. „Што такое нацыя?" да слоў... узятых разам дае нам нацыю" на стар. 19.

Ленін, „Социалистическая революция и право наций на самоопределение, т. XIX, разьдз. VIII, стар. 163—164.

Ленін,—Прамова па програмных пытаньнях на VIII зьезьдзе РКП, т. XIX, выд. 1-е, стар. 210 -216.

Програма Комінтэрну. Разьдзел па нацыянальным і колёніяльным пытаньні, стар. 58—61 і 71—82, выд. 2-е.

Програма і статут УсеКП(б). Разьдзел аб нацпытаньні.

Даклад. Шаранговіча на XIV зьезьдзе КП(б)Б.

Сталін,—Палітычная справаздача ЦК на XVI зьезьдзе УсеКП(б). Аб нацпытаньні—стар. 81—87 і 89—91.

Рэзолюцыя па паліт. справаздачы—разьдз. V, стар. 2.

Рэзолюцыя кастрычніцкага (1930) пленуму ЦК КП(б)Б па нацпытаньні. Зборнік „Супроць контр. бел. нац.-дэмократызму", стар. 121—131.

Рэзолюцыя бюро ЦК КП(б)Б і прэзыдыуму ЦКК КП(б)Б аб умацаваньні барацьбы з ухіламі ў нацпытаньні. „Бальшавік Беларусі" № 12, 1931 г., стар. 67—71.

Тэзісы і рэзолюцыі XVII партконфэрэнцыі па дакладах тт. Молатава і Куйбышава.

Рэзолюцыі сакавіцкага пленуму ЦК КП(б)Б аб культурным будаўніцтве.

## ТЭМАТЫКА 6-МЕСЯЧНЫХ ШКОЛ ЛЕНІНІЗМУ І ПЛЯН ПРАВЯДЗЕНЬНЯ ПЕРШАЙ ТЭМЫ

Програма 6-месячных пачатковых школ па вывучэньні ленінізму разьлічана на 108 гадз.— 2 разы ў дэкаду па 3 гадз.

Тэматыка пачатковых школ па ленінізму рэкомэндуецца наступная:

1. Значэньне рэволюцыйнай тэорыі ў клясавай барацьбе пролетарыяту.

2. Клясы і клясавая барацьба пры капіталізьме і дыктатуры пролетарыяту.

3. Комуністычная партыя—авангард рабочай клясы.

4. Ленінскае вучэньне аб пролетарскай рэволюцыі.

5. Дыктатура пролетарыяту.

6. Сялянскае пытаньне.

7. Нацыянальна - колёніяльнае пытаньне.

8. Будаўніцтва соцыялізму ў СССР.

9. Крызіс капіталізму і барацьба Комінтэрну за рэволюцыйны выхад з крызісу.

Першыя ўводныя заняткі павінны паказаць слухачу непарушанае адзінства рэволюцыйнай тэорыі з рэволюцыйнай практыкай, мобілізаваць яго на актыўнае правядзеньне чарговых задач партыі.

Плян правядзеньне першай тэмы ў пачатковай школе ленінізму

ТЭМА I

# ЗНАЧЭНЬНЕ РЭВОЛЮЦЫЙНАЙ ТЭОРЫІ Ў КЛЯСАВАЙ БАРАЦЬБЕ ПРОЛЕТАРЫЯТУ

Ленін і Сталін аб значэньні рэволюцыйнай тэорыі для рабочай клясы ў барацьбе з буржуазіяй, за дыктатуру пролетарыяту, за комунізм. „Без рэволюцыйнай тэорыі ня можа быць рэволюцыйнага руху“ (Ленін). Тэорыя ёсьць вопыт рабочага руху ўсіх краін, узятых у яго агульным выглядзе. Тэорыя асьвятляе шлях барацьбы пролетарыяту за комунізм. Толькі тэорыя можа даць руху пролетарыяту „ўпэўненасьць, сілу орыентыроўкі і разуменьне ўнутранай сувязі акружаючых падзей, бо яна і толькі яна можа дапамагчы практыцы зразумець ня толькі тое, як і куды рухаюцца клясы ў цяперашнім, але і тое, як і куды павінны рухацца яны ў бліжэйшым будучым“ (Сталін). Ленін і Сталін аб непарыўнай сувязі рэволюцыйнай тэорыі пролетарыяту з практыкай клясавай барацьбы. „Тэорыя становіцца беспрадметнай, калі яна ня зьвязваецца з рэволюцыйнай практыкай, дакладна так-жа і практыка становіцца сьляпой, калі яна не асьвятляе сабе дарогу рэволюцыйнай тэорыяй“. (Сталін). Асаблівае значэньне тэорыі для партыі—авангарду пролетарыяту. „Ролю передавога барацьбіта можа выканаць толькі партыя, якая кіруецца передавой тэорыяй“ (Ленін).

Марксызм-ленінізм — адзіна-навуковая рэволюцыйная тэорыя пролетарыяту. Сталін аб гістарычных карэньнях ленінізму. Ленінізм ёсьць марксызм эпохі імпэрыялізму і пролетарскай рэволюцыі. Дакладней: ленінізм ёсьць тэорыя і тактыка пролетарскай рэволюцыі наогул, тэорыя і тактыка дыктатуры пролетарыяту ў асаблівасьці.

Асноўным пытаньнем у марксызьме-ленінізьме зьяўляецца пытаньне аб дыктатуры пролетарыяту, аб умовах яе заваяваньня, аб умовах яе ўмацаваньня. Ленінізм — інтэрнацыянальнае вучэньне пролетарыяту, прыдатнае і абавязковае для ўсіх без выключэньня краін.

Непрымірымая барацьба Леніна (бальшавікоў) з тэорыяй стыхійнасьці, хвасьцізму, „самацёку“. Значэньне старой „Искры“ (1900—1903 г.г.) і брошуры Леніна „Что делать“ (1902 г.) у выкрыцьці эканомізму, тэорыі стыхійнасьці, хвасьцізму і ў стварэньні тэорэтычных асноў рэво-

люцыйнага руху рускай рабочай клясы. „Тэорыя стыхійнасьці ёсьць тэорыя опортунізму, тэорыя прэкланеньня перад стыхійнасьцю рабочага руху, тэорыя фактычнага адмаўленьня кіруючай ролі авангарду рабочай клясы, партыі рабочай клясы“ (Сталін). Стыхійнасьць, хвасьцізм, „самацёк“, адрыў тэорыі ад практыкі, адмова ад кіраўніцтва масамі, капітуляцыя перад цяжкасьцямі—характэрныя рысы опортунізму.

„Без непрымірымай барацьбы з буржуазнымі тэорыямі на базе марксыцка-ленінскай тэорыі немагчыма дабіцца поўнай перамогі над клясавым ворагам“ (Сталін). Барацьба партыі з тэорыямі: „раўнавагі“ сэктароў, „самацёку“ ў социялістычным будаўніцтве, „устойлівасьці“ дробнасялянскай гаспадаркі (прамова т. Сталіна на конфэрэнцыі аграрнікаў-марксыстаў у 1929 г.). Без непрымірымай барацьбы з опортунізмам, які ёсьць ні што іншае, як праяўленьне буржуазных уплываў на тыя або іншыя праслойкі рабочых, не магло-б быць перамог, заваяваных Кастрычніцкай рэволюцыяй. Толькі ў рашучай барацьбе як з „левым“, так і правым опортунізмам і прымірэнцтвам да іх, за генэральную лінію нашай партыі, УсеКП(б) забясьпечыла выкананьне пяцігодкі ў чатыры гады і стварэньне прадпасылак пабудовы бяскласавага социялістычнага грамадзтва ў другой пяцігодцы.

Конкрэтызацыя і далейшае разьвіцьцё марксыцка-ленінскай тэорыі ў рашэньнях партыі, Комінтэрну і работах т. Сталіна. Роль т. Сталіна ў барацьбе за ленінізм і ў далейшым разьвіцьці марксызму-ленінізму. Задачы сучаснай барацьбы за ленінізм на ўсіх вучастках тэорэтычнага фронту. Значэньне пісьма т. Сталіна „Аб некаторых пытаньнях гісторыі бальшавізму“ ў барацьбе супроць чуждых ленінізму поглядаў і лібэральных адносін да іх з боку некаторай часткі бальшавікоў. Неабходнасьць стараннага вывучэньня тэорэтычнай спадчыны Маркса—Леніна і рэволюцыйнага вопыту партыі для далейшай барацьбы за распаўсюджваньне асноў ленінскага вучэньня ў самых шырокіх слаёх партыі, за падняцьце ідэйнага ўзроўню партыйных кадраў і партыйных мас. Барацьба за ажыцьцяўленьне гістарычных рашэньняў XVII партконфэрэнцыі патрабуе ад кожнага члена партыі аўладаньня тэорыяй Маркса — Леніна, асабліва вывучэньня такіх работ, як „Комуністычны маніфэст“ і „Критика Готской программы“—Маркса, „Принципы коммунизма“—Энгельса, „Дзяржава і рэволюцыя“—Леніна, „Пытаньні ленінізма“—Сталіна.

Далейшая непрымірымая барацьба з опортунізмам на два фронты—супроць правага ўхілу як галоўнай небясьпекі на даным этапе, супроць „левых“ і з прымірэнцтвам да іх як важнейшая ўмова пабудовы бяскласава-социялістычнага грамадзтва.

ЛІТАРАТУРА

Ленін, „Задачи российских с.-д.“, т. II, вып. 2-е і 3-е.
„ „Что делать“, т. IV, разьдз. I.
„ „Три источника и три составных части марксизма“, т. XVI.
„ „Карл Маркс“.
„ „Исторические судьбы учения Маркса“, т. XVI.

Ленін „Марксизм и ревизионизм". т. XII.
„ „Детская болезнь „левизны" в коммунизме", т. XXV.
„ „Крах II Интернационала". т. XVIII.
„ „Империализм и раскол социализма", т. XIX.
„ „О воинствующем материолизме", т. XXVII.
„ „Материализм и эмпириокритицизм", т. VI.
„ „О партийности в философии", т. XIII.

Энгельс, „Л. Фейербах".
Маркс і Энгельс, „Немецкая идеология".
Сталин, „Пытаньні ленінізму", выданьне 1932 г. „Аб асновах ленінізму".
„ „Да пытаньняў аграрнай політыкі ў СССР".
„ „Пытаньні сьвярдлоўцаў і адказы т. Сталіна".
„ „Аб значэньні тэорыі".
Програма Комінтэрну.

*ЗАДАНЬНЕ № 4 ДЛЯ АДНАГАДОВАЙ ВЯЧЭРНЯЙ СПШ*[1])

ТЭМА:

## „ПАРТЫЯ Ў ГАДЫ РЭАКЦЫІ І НОВАГА ЎЗДЫМУ“

ПЛЯН РАСПРАЦОЎКІ.

### 1. БАРАЦЬБА ЗА ЛЕНІНСКУЮ АЦЭНКУ БЯГУЧАГА МОМАНТУ І ЛЕНІНСКУЮ ТАКТЫКУ Ў ПЭРЫЯД АДСТУПЛЕНЬНЯ

1. Ацэнка бальшавізмам трэцячэрвеньскага рэжыму і пэрспэктыў рэволюцыі. Часовая перамога контррэволюцыі. Саюз самаўладзтва з вярхамі гандлёва-прамысловай буржуазіі і сталыпіншчына як зрух самаўладзтва ў напрамку буржуазнай монархіі. Нявырашанасьць задач буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі і немінучасьць новага рэволюцыйнага ўздыму.

2. Стратэгія і тактыка бальшавізму:

а) Барацьба за гегемонію пролетарыяту, барацьба за новую рэволюцыю, за перарастаньне буржуазна-дэмократычнай рэволюцыі ў соцыялістычную.

б) пераход ад тактыкі ўзброенага паўстаньня як лёзунга непасрэдных дзеяньняў да другой працы—выхаваньня, згуртаваньня і організацыі мас.

в) Рэволюцыйнае скарыстаньне легальных магчымасьцяй пад кіраўніцтвам нелегальнай партыйнай організацыі як сродак захаваньня сувязі з масамі і падрыхтоўка іх да новага наступленьня.

3. Ліквідатарства як агентура контррэволюцыйнай буржуазіі ў рабочым руху і адзавізм як ліквідатарства „зьлева“. Цэнтрысцкая позыцыя Троцкага як абарона ліквідатарства.

4. Барацьба бальшавізму з народніцтвам, троцкізмам і адзавізтамі за ленінскую ацэнку эпохі і ленінскую тактыку ў пэрыяд адступленьня.

### II. БАРАЦЬБА НА ДВА ФРОНТЫ—З ПРЫМІРЭНСТВАМ, ЗА ЗАХАВАНЬНЕ І ЎЗМАЦНЕНЬНЕ ПАРТЫІ

1. Захаваньне і ўзмацненьне бальшавіцкай партыі як асноўная ўмова пасьпяховага кіраўніцтва рабочым рухам і падрыхтоўкі новай рэволюцыі.

[1]) Увага: Матэрыялы па першых 3-х заданьнях—глядзі журнал „за ленінскую вучобу“, № 4—5.

2. Ліквідатарства і адзавізм; соцыяльныя карэньні і прычыны іх узьнікненьня. Пераемная сувязь паміж экономізмам, меншавізмам і ліквідатарствам. Барацьба ліквідатарства і адзавізму з партыяй бальшавікоў; роля трацкізму ў гэтай барацьбе як галоўнай і асноўнай групы, якая прастаўляла ў Расіі цэнтрызм; ліквідатарская сутнасьць прымірэнцтва Троцкага.

3. Лінія бальшавізму, накіраваная на разрыў з опортунізмам і блёк бальшавікоў з меншавікамі—партыйцамі (Плеханаў) як праява тактыкі адзінага фронту ў барацьбе за партыю.

4. Барацьба з прымірэнцтвам у радох бальшавізму і крах прымірэнцкіх спроб (пленум ЦК 1910 г.)

5. Барацьба са спробамі рэвізаваць марксысцка- ленінскую тэорыю (багданаўшчына, богабудаўніцтва), значэньне гэтай барацьбы ў агульнай барацьбе за партыю ў той пэрыод і для сучаснага этапу на тэорэтычным фронце.

6. Асноўныя этапы будаўніцтва бальшавіцкай партыі (конфэрэнцыя 1908 г., пашыраная нарада рэдакцыі „Пролетарий" 1909 г., пленум ЦК 1910 г.). Праская конфэрэнцыя і яе значэньне ў гісторыі бальшавізму.

7. Жнівеньскі блёк—ачаг цэнтрызму ў Расіі—як спроба аб'яднаньня варожых бальшавізму плыняў на ліквідатарскай пляцформе. Кіруючая роля Троцкага ў Жнівеньскім блёку.

8. Жнівеньскі блёк як узор опозыцыйнага трацкісцкага блёку 1925—28 г. і права-лявацкага блёку Сырцова-Ламінадзе 1930 г.

9. Барацьба бальшавіцкай партыі за аб'яднаньне рабочых усіх нацыянальнасьцяй у адзіных пролетарскіх організацыях.

Барацьба за бальшавізацыю нацыянальных с.-д. організацый.

10. Формы і мэтоды організацыйнага будаўніцтва бальшавікоў у гэты пэрыод.

11. Роля партыйных нарад 1912—13 г. г. у справе ўзмацненьня бальшавіцкай партыі.

## III. БАРАЦЬБА ПАРТЫІ ЗА КІРАЎНІЦТВА НОВЫМ РЭВОЛЮЦЫЙНЫМ УЗДЫМАМ

1. Прадпасылкі і асаблівасьці новага ўздыму. Ацэнка ўздыму б-камі як нарастаньне новай рэволюцыі. Праская конфэрэнцыя аб задачах партыі і яе месца ў барацьбе б-зму за кіраўніцтва новым уздымам і заваёва большасьці ў рабочай клясе.

2. Тактыка наступленьня бальшавізму ў пэрыод нарастаньня рэволюцыйнага ўздыму. Барацьба за гегемонію пролетарыяту, ізоляцыю буржуазіі і за ўцягненьне шырокіх мас у рэволюцыйную барацьбу.

3. Роля „Звезды" і „Правды" ў справе мобілізацыі мас і ажыцьцяўленьня б-кага кіраўніцтва рабочым рухам.

4. Тактыка б-зму і забастовачная барацьба: кіраўніцтва б-коў забастовачным рухам, пасьпяховае скарыстаньне б-камі легальных магчымасьцяй. Тактыка б-коў у рабочым руху як тактыка адзінага фронту зьнізу.

5. Барацьба супроць ліквідатарства і цэнтрызму (Троцкі) за рэволюцыйную тактыку. Ліквідатарская позыцыя Троцкага па ўсіх асноўных пытаньнях р[illegible] волюцыі.



6. Барацьба Леніна (б-коў) на два фронты за пролетарскую праграму ў нацыянальным пытаньні.

7. Узмацненьне кіраўніцтва б-коў рабочай клясай, крах адзавізму, паражэньне ліквідатараў і распад жнівеньскага блёку.

8. Нарастаньне рэволюцыйнага крызысу і роля партыі.

## IV. БАРАЦЬБА БАЛЬШАВІЗМУ НА МІЖНАРОДНАЙ АРЭНЕ

1. Ленінская ацэнка пэрыяду 1907—14 г г. як пэрыяду наблізкэньня рашаючых баёў з капіталізмам і разьмежаваньня з опортунізмам у міжнародным маштабе.

2. Барацьба Леніна супроць опортунізму і цэнтрызму ў II Інтэрнацыянале. Адносіны II Інтэрнацыяналу да пытаньняў рэволюцыі ў Расіі. Падтрыманьне II Інтэрнацыяналам ліквідатараў і Троцкага супроць б-коў—барацьба з бальшавікамі пад сьцягам аб'яднаньня. Позыцыя б-коў на Брусэльскай нарадзе.

3. Позыцыя—„лева-радыкалаў" ў падтрыманьні б-камі іх барацьбы супроць опортуністаў пры адначасовай рашучай крытыцы іх паўцэнтрысцкіх памылак.

4. Барацьба бальшавікоў за згуртаваньне левага крыла ў II Інтэрнацыянале і за раскол з опортуністамі. Штудгарскі, Копенгагенскі і Базельскі конгрэсы, расколы ў Італіі, Польшчы, Голяндыі. Скажэньні трацкісцкімі контрабандыстымі лініі бальшавізму на міжнароднай арэне.

5. Сусьветна-гістарычнае значэньне барацьбы бальшавізму ў гады рэакцыі і новага ўздыму. Міжнароднае значэньне вопыту бальшавізму ў гэты пэрыяд для Комінтэрну.

ЛІТАРАТУРА ДА ЗАДАНЬНЯ № 4


Бубноў, УсеКП(б), разьдз. 7—8, стар. 536 –588.

Папоў, Разьдз. 6, 7, роўна 41 старонка.

Ленін, т. XX, ч. I, стар. 313—317. (Пісьмо Скварцову і Сьцяпанаву).
 „ т. XI, ч. II, стар. 532—534 і 536—540 рэз. і конф.
 „ т. XI, ч. II, стар. 410—419 (Маніфэст лібэральн. рабоч. партыі)
 „ т. XI, ч. I, стар. 272—279 (ліквідацыя ліквідатарства)
 „ т. XI, ч. I, стар. 234—244 („Карыкатура на бальшав зм").
 „ т. XI, ч. II, стар. 543—547 (Рэзолюцыя).
 „ т. XI, ч. II, стар. 370—386.
 „ т. XI, ч. II, стар. 329—343 (Всем социал-демокр. партийн. организациям).
 „ т. XII ч. II, стар. 11. (рэзолюцыі §§ 1, 2, 3, 5, 6, 7, 8, 10, 11, 12)

Сталін, Пісьмо ў рэдакцыю „Пролетарская революция".

Ленін, т. XVII, стар. 189—198, („О детской болезни „левизны")
 „ т. XI, ч. II., стар. 328—356.
 „ т. XI, ч. II, стар. 13—22 і 48—64 („Заметки публициста").

Зборнік „Ленин о Троцком и троцкизме". стар. 66—72 і 77—78.

Троцкий, „О Ленине и ленинизме" збор. пад рэд. Сафарава.
„История ВКП(б) в докум". стар. 498—500. „Резол. отзовистов". „Правда" за 22/I-32 г. арт. т. Папова:
„Бальшавізм на міжнароднай арэне да сусьветнай вайны".

Ленін, т. XI, ч. II, стар. 292—308 (Гістарычны сэнс унутры парт. барацьбы).


Увага: Ленін—усюды дадзен па I выд., а па 2 і 3 выд. т. XIV і т. XX.

# Вопыт месц

## 1. ПАРТАСЬВЕТА НА БУЙНЫХ ПРАДПРЫЕМСТВАХ БАБРУЙСКУ

Бабруйскі дрэваапрацоўчы камбінат налічвае каля 3000 рабочых. Партком комбінату аб'яднае 559 чал. членаў і кандыдатаў партыі, больш 50 проц. складаюць кандыдаты партыі. Партвучоба ў мінулы год і ў летні час была пастаўлена нездавальняюча, як па ахопу парторганізацыі, так і па рэгулярнасьці правядзеньня занятак.

Улічваючы такое становішча з партвучобай па комбінату і задачы па разгортваньні сеткі партасьветы на зімовы пэрыод 1932-33 г., пленум парткому комбінату намеціў рад мерапрыемстваў па разгортваньні партвучобы. Падрыхтоўчая работа і комплектаваньне сеткі партасьветы па комбінату пачалася з жніўня м-ца. Задачы марксысцка-ленінскага выхаваньня былі абгавораны на агульных сходах цэхавых і зьменных ячэек, у партгрупах, але масавая растлумачальная работа сярод беспартыйных рабочых з боку большасьці цэх'ячэяк была праведзена зусім недастаткова. Вынікі комплектаваньня партшкол—арганізавана: 27 кандыдацкіх школ, пры кожнай цэх'ячэйцы і па зьменах з ахопам 337 чал., агульнакомбінацкая 6-месячная партшкола па вывучэньні гісторыі партыі з работай у дзьве зьмены з ахопам 143 чал., агульна-комбінацкая аднагадовая ВСПШ з работай па зьменах з ахопам 112 чал. і 61 чал. ахоплены вышэйшымі зьвеньнямі партасьветы—сэмінар партактыву і веч. комвуз. Усімі зьвеньнямі партасьветы ахоплена 653 чал, з якіх чл. КП(б)Б—235 чал.; кандыдатаў партыі—161 чал., або 60—65 проц. усяго складу; членаў ЛКСМБ—82 чал. і беспартыйнага рабочага актыву—175 чал., у тым ліку жанчын 79 чал.

Як асноўны недахоп комплектаваньня трэба адзначыць слабае опэратыўнае кіраўніцтва з боку Культпропу парткому ходам комплектаваньня, адсутнасьць шырока разгорнутай масавай растлумачальнай работы аб значэньні марксысцка-ленінскага выхаваньня сярод кандыдатаў партыі, комсамольцаў і асабліва беспартыйных рабочых з боку раду цэх'ячэек, якія абмяжоўваліся пастаноўкай задач партвучобы толькі на сходах. Адсутнасьць соцыялістычных мэтодаў работы ў часе комплектаваньня. Адсутнасьць асьвятленьня ходу комплектаваньня ў комбінацкай шматтыражцы, якая абмежавалася зьмяшчэньнем толькі пастановы парткому аб партвучобе, у сувязі з чым дырэктыва Культпропу ЦК

і райкому КП(б)Б аб 100 процантным ахопе кандыдатаў партыі, аб 25-процантным ахопе камсамольцаў і 30—60 проц. беспартыйных рабочых да ўсяго складу партшкол ня выканана.

Такое-ж прыкладна становішча з комплектаваньнем сеткі партасьветы мы маем па швэйнай фабрыцы імя „Дзяржынскага“. Фабрыка налічвае каля 1 200 рабочых. Парткалектыў аб'ядноўвае 130 членаў і кандыдатаў партыі. Летняя партвучоба на фабрыцы была сарвана. Падрыхтоўка да зімовага пэрыоду партвучобы пачалася з жніўня м-ца. Пры комплектаваньні і правядзеньні масавай работы аб значэньні партасьветы былі дапушчаны тыя-ж самыя недахопы, што і па комбінату. У выніку чаго ахоплена ўсімі формамі партасьветы 88 членаў і кандыдатаў партыі, або 68 проц. усяго складу партколектыву, і 22 чал. беспартыйных рабочых. Такі ахоп бязумоўна зьяўляецца нездавальняючым. Акрамя таго, на фабрыцы не організавана ніводнай партшколы на яўрэйскай мове, у той час, калі амаль палова рабочых фабрыкі складаюць яўрэі.

Недахопы комплектаваньня ў далейшай рабоце сеткі партасьветы павінны быць зьнішчаны. Партколективы комбінату і швэйнай фабрыкі павінны ў найкарацейшы тэрмін дабіцца поўнага выкананьня дырэктыў Культпропа ЦК аб 100-процантным ахопе кандыдатаў партыі партвучобай, аб 25-процантным ахопе комсамольцаў і 30—60 проц. беспартыйных рабочых да складу камуністаў партшколамі. Усю работу партшкол праводзіць на падставе шырока разгорнутых соцыялістычных мэтодаў працы—ударніцтва, спаборніцтва, перабудаваўшы работу іх (партшкол) на падставе 6 умоў т. Сталіна. Баявой задачай партколектыву павінна стаць барацьба за якасьць, за ідэолёгічную вытрыманасьць марксыцка-ленінскага выхаваньня.

*М. Асаўляк.*

## 2. ПАРТВУЧОБА Ў ПЕТРЫКАЎСКІМ РАЁНЕ

Партвучоба—адна з асноўных частак марксыцка-ленінскага выхаваньня—у парторганізацыі Петрыкаўскага раёну за зімовы пэрыод 1931-32 г. у асноўным была сарвана.

Дырэктывы ЦК УсеКП(б) і Культпропу ЦК КП(б)Б аб бесьперабойнай партвучобе на працягу ўсяго году з усёй вострасьцю ставілі перад петрыкаўскай парторганізацыяй задачу шырокага разгортваньня летніх форм партвучобы і ўзмацненьня парткіраўніцтва работай сеткі партасьветы. Але гэта ня было ўлічана. Партвучоба за летні час была прадастаўлена самацёку; дзякуючы чаму паасобныя партячэйкі на летні час зусім не організавалі партшкол і гурткоў, а асобныя ячэйкі, організаваўшы, не забясьпечылі нормальнай работы іх. Усё гэта прывяло да зрыву партвучобы ў летні час.

Зрыў партвучобы ў зімовы і летні час па раёне зусім ярка падкрэсьліваецца становішчам яе на буйнейшым прадпрыемстве раёну—фанэрным заводзе „Зьвязда“. Завод „Зьвязда“ налічвае колектыў рабочых каля 1000 чал

Парткалектыў аб‘яднае 81 чал. членаў і кандыдатаў партыі. Па партстажу парткалектыў надзвычай малады: 66 проц. складу калектыву — кандыдаты партыі (38 чал.) і членаў партыі з 1931-32 г. 34 проц. (18 чал.). Политпадрыхтоўка большасьці комуністаў нізкая. Як прыклад, сакратар цэх‘ячэйкі т. Фруктман— член партыі з 1927 г. на запытаньне—хто зьяўляецца старшынёй СНК СССР—адказвае „т. Калінін". На запытаньне—дзе працуе і ў якасьці каго т. Сталін—адказвае: „Працуе ў Саўнаркоме" і т. д. Гэта з усёй сур‘ёзнасьцю патрабавала і патрабуе ўзьняцьця марксыцка-ленінскага выхаваньня на належную вышыню.

Партвучобай у зімовы пэрыод па заводзе было ахоплена спачатку навучальнага году 15 чал., з іх 12 членаў і кандыдатаў партыі і 3 чал. беспартыйных рабочых. У канцы навучальнага году засталося 7 чал.; па ВСПШ—займаліся 21 чал., з іх 15 членаў і кандыдатаў партыі, 6 чал. беспартыйных, засталося займацца 15 чал.; па кандыдацкай школе вестак няма. Гэтыя лічбы гавораць за сябе аб тым, што партвучоба на заводзе была сарвана, што парткалектыў пытаньнем партасьветы не займаўся, што дырэктывы ЦК КП(б)Б аб набліжэньні партшкол да вытворча-бытавых умоў рабочых, стварэньне школ пры цэх‘ячэйках, па зьменах ня былі выкананы. Былі створаны агульназаводзкія партшколы. Такі ахоп партвучобай, пры 1000 чал. рабочых на заводзе, ёсьць вынік опортуністычных адносін да марксыцка-ленінскага выхаваньня з боку парткалектыву. Нельга ня спыніцца на аднэй пастанове агульнага сходу парткалектыву ад 20/VI-32 г. Па дакладу аб перабудове партмасавай работы запісана: „Узьняць марксысцка-ленінскае выхаваньне на належную вышыню, патрабаваўшы ад кожнага партыйца абавязкова распрацаваць конкрэтнае плянавае правядзеньне партнавучаньня". У выніку такога „конкрэтнага" кіраўніцтва, летняя партвучоба была таксама, як і ў зімовы час, сарвана. Быў арганізаваны адзін агульназавадзкі гурток бягучай політыкі бяз сталага контынгенту слухачоў, на якім прысутнічала да 40 чал. разам з беспартыйнымі рабочымі, склад наведвальнікаў кожны раз мяняўся.

Комсамольская політвучоба пастаўлена дрэнна. Комсамольцаў на заводзе 116 чал., партпраслойка—9 чал. членаў і кандыдатаў партыі. Ударнікаў-комсамольцаў на вытворчасьці 36 чал. (з 116 чал.). Соцспаборніцтва паміж комсамольцамі не разгорнута. Наведваньне саюзных дней комсамольцамі 40—50 проц. У летні час політвучобай было ахоплена 48 чал. комсамольцаў, наведвалі 20-25 чал. Такім чынам комсамол у галіне політвучобы раўняўся па парткалектыву.

Ня лепш становішча з партвучобай і па с/с ячэйцы Капцэвічы, дзе мэханічна ўсіх членаў і кандыдатаў запісалі, у літаральным сэнсе слова, у ППШ і ніводнага беспартыйнага колгасьніка. Заняткі праводзіліся ў гэтай школе толькі ў часе організацыі (лістапад м-ц) і потым у часе атрыманьня дырэктывы з РК КП(б)Б аб вучобе з кандыдатамі сакратар ячэйкі ўспомніў аб тым, што трэба

правесьці заняткі, правялі ў сакавіку м-цу, а ў красавіку спынілі. Летняй партвучобы нават і не пачыналі. Такое становішча і па раду іншых парт'ячэек.

У чым прычыны такога становішча з партвучобай у Петрыкоўскім раёне? Асноўная прычына ў опортуністычнай недаацэнцы з боку большасьці партячэек значэньня марксысцка-ленінскага выхаваньня,—гэта па-першае; па-другое, адсутнасьць сыстэматычнага, опэрацыйнага конкрэтнага кіраўніцтва партвучобай і прапагандыстамі з боку Культпропу РК і партыйных ячэяк; па-трэцяе,—парушэньне прынцыпаў пабудовы сеткі партасьветы, выходзячы з набліжэньня партшколы да вытворча-бытавых умоў рабочых, колгасьнікаў (цэх, зьмена, брыгада і т. д.). Мэханічны падыход у часе комплектаваньня, бяз уліку жаданьня і політпадрыхтоўкі члена і кандыдата партыі; па-чацьвёртае, адсутнасьць сыстэматычнай работы з прапагандыстамі па падвышэньні іх тэорытычнага ўзроўню, адсутнасьць мэтодычнай дапамогі, частыя перакідкі з аднаго месца на другое, перагрузка і т. д. і па-пятае, адсутнасьць соцыялістычных мэтадаў працы ў рабоцепартшкол, соцспаборніцтва і ўдарніцтва. Гэта і зьяўляецца асноўнымі прычынамі зрыву партвучобы ў зімовы пэрыод і летні час.

Зрыў партвучобы па раёну за мінулы год патрабуе ад партарганізацыі Петрыкаўскага раёну па-бальшавіцку ліквідаваць прарыў у галіне марксысцка-ленінскага выхаваньня. Разгортваючы партвучобу на зімовы пэрыод 1932-33 г., павінны быць улічаны тыя асноўныя прычыны зрыву партвучобы ў мінулым годзе. Барацьба за 100-процантны ахоп комуністаў, за 30—60 проц. ахоп рабоча-колгаснага актыву партвучобай, за бесьперабойную работу партшкол на працягу ўсяго году, барацьба за якасьць, за бальшавіцкую чыстату марксысцка-ленінскага выхаваньня павінна стаць справай усёй парторганізацыі ў цэлым, справай кожнага комуніста паасобку.

*М. Асаўляк.*

---

## *УСІМ КУЛЬТПРОПАМ РК і ГК КП(б)Б.*

Рэдакцыя журналу „За ленінскую вучобу“ праводзіць конкурс на лепшага кіраўніка кандыдацкай школы.

Надаючы вялізарнае значэньне гэтаму конкурсу, Культпроп ЦК КП(б)Б прапануе Вам разгарнуць растлумачальную работу аб значэньні конкурсу з тым, каб уцягнуць у конкурс усіх кіраўнікоў кандыдацкіх школ. Шырока асьвятляйце матэрыялы конкурсу ў мясцовым і цэнтральным друку.

Заг. сэктару проп. Культпропу ЦК КП(б)Б БАЛАБАНАЎ

## *УСІМ КІРАЎНІКАМ КАНДЫДАЦКІХ ПАРТЫЙНЫХ ШКОЛ*

У рашэньнях XVII партконфэрэнцыі і Ліпеньскага пленуму ЦК КП(б)Б задачы ўзмацненьня партыйна-выхаваўчай работы пастаўлены як адна з галоўных задач партыі на сучасным этапе.

Усё гэта патрабуе ад прапагандыста мобілізацыі ўсёй энэргіі, волі і ўменьня на барацьбу за палепшаньне якасьці партвучобы, за ўзброеньне членаў і кандыдатаў партыі, комсамольцаў і беспартыйных рабочых мас — тэорыяй Маркса, Энгельса, Леніна, Сталіна.

У барацьбе за павышэньне ідэйна-тэорычнага ўзроўню, за цесную сувязь партвучобы з практыкай соц. будаўніцтва, за выхаваньне з кандыдатаў партыі сапраўдных комуністаў, організатараў мас, энтузіястаў і перадавікоў на вытворчасьці, рад парторганізацый, рад пропагандыстаў паказваюць бліскучыя прыклады.

Тыя пропагандысты, якія ўмелай організацыяй работы дабіліся вялікіх посьпехаў у справе выхаваньня са слухачоў школ энтузіястаў вытворчасьці, барацьбітоў за выкананьне прамфінпляну, барацьбітоў за колгасны гандаль за соц. пераробку сельскай гаспадаркі,—іх прозьвішчы павінны ведаць усе прапагандысты.

Трэба вывучаць вопыт іх работы, бо на лепшых прыкладах работ вучацца маладыя пропагандысты.

З мэтай шырокай популярызацыі лепшага вопыту работы пропагандыстаў кандыдацкіх партшкол, Дом комасьветы, рэдакцыя журналу „За ленінскую вучобу“ абвяшчаюць усебеларускі конкурс на лепшага пропагандыста кандыдацкай школы.

## УМОВЫ КОНКУРСУ

1. У конкурсе павінны прыняць удзел усе кіраўнікі кандыдацкай школы, якія працуюць зараз і якія працавалі на працягу 1932 г.

2. Усе пропагандысты, якія прымаюць удзел у конкурсе, павінны прыслаць у журнал „За ленінскую вучобу" матэрыялы ў форме артыкулу на тэму „як я праважу заняткі", у якіх трэба конкрэтна высьветліць зьмест і мэтоды правядзеньня заняткаў з пункту гледжаньня барацьбы за высокі ўзровень партвучобы.

У матэрыялах трэба высьветліць наступныя пытаньні:

1. Што вы прапрацоўвалі ў школах (зьмест работы).

2. Як вы рыхтуецеся да заняткаў.

3. Як вы праводзіце заняткі.

4. Вынікі працы школы па прыцягненьню слухачоў да актыўнай партыйнай работы, дапамога ім у выкананьні партабавязкаў, барацьба слухачоў за выкананьне прамфінпляну, асеньняй сяўбы, разгортваньня колгаснага гандлю, уцягненьня праз слухачоў у рады партыі і т. д.

Да вашых артыкулаў пажадана, каб былі прыкладзены наступныя матэрыялы:

а) Рабочыя пляны, конспэкты, па якіх вы праводзіце заняткі.

б) Вытрымкі з пастаноў бюро парторганізацый пра вашу школу.

в) Вашу фотакартку і кароткую аўтобіяграфію (соц. стан., вытворчы стаж, год нараджэньня, партыйнасьць, нацыянальнасьць).

Лепшыя пропагандысты кандыдацкіх партшкол атрымаюць прэміі:

1-я прэмія—творы Маркса, Энгельса, Леніна і Сталіна.

2-я прэмія — творы Леніна і Сталіна.

3-я прэмія—экскурсія ў Маскву або Ленінград па вывучэньні пропработы.

4-я прэмія—дом адпачынку.

Наш адрас: г. Менск, Культпроп ЦК КП(б)Б, пакой 50.
**Рэдакцыя журналу „За ленінскую вучобу".**

---

Рэдкалегія: ЗАЛАТУХІН, УЛАЗАЎ, СЯМЁНАЎ, ГРЫЦКЕВІЧ, КЛІМАЎ, ГУРВІЧ

Адказны рэдактар ЗАЛАТУХІН

